


# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

9 КРАСАВІКА 1999г. № 14/3994 КОШТ 15 000 РУБ.




### БУДЗЬМА РАЗАМ!

Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на наш штотыднёвік на другі квартал 1999 года. На "ЛіМ" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт падпіскі на месяц — 70 тысяч рублёў, на два месяцы — 140 тысяч рублёў.

**Наш індэкс — 63856.**

*Вясна ідзе...*

Фота Г. ЖЫНКОВА



# КОЛА ДЗЁН

***Дні гэтага тыдня працяклі паміж Вялікаднямі, як хуткаплынная рака паміж берагамі, на якіх стаяць Храмы — адзін каталіцкі, а другі — праваслаўны. І цячэ рака часу, падмываючы то адзін бераг, то другі. Але, відаць, ужо ніколі ні адзін з Храмаў не абрынецца ў бездань вечнасці, бо гэтыя Храмы стаяць на адной зямлі, імя якой Беларусь.***

## БОЛЬ ТЫДНЯ

6 красавіка ў 7.15 раніцы на 50-ым годзе жыцця памёр адзін з вядомейшых і яркіх грамадскіх і палітычных дзеячаў нашай краіны Генадзь Карпенка. 31 красавіка Генадзь Дзмітрыевіч з дыягназам "кровазліццё ў мозг" быў дастаўлены ў бальніцу хуткай дапамогі. Увесь тыдзень ён змагаўся са смерцю ў палаце рэанімацыі 9-ай гарадской бальніцы... Смерць вырвала з нашых шэрагаў нястомнага працаўніка, барацьбіта, чалавека, які бязмежна любіў Беларусь...

## ГАЛАСАВАННЕ ТЫДНЯ

У нашай краіне адбыліся выбары ў мясцовыя Саветы. З 7 млн. 300 тысяч выбаршчыкаў на ўчастку для галасавання прыйшлі 66,3 працэнта грамадзян, якія маюць права голасу. Лідэрам у галасаванні сярод абласцей стала Гродзеншчына, дзе прагаласавала 75,6 працэнта выбаршчыкаў. На Магілёўшчыне яўка склала 70,4 працэнта, на Міншчыне — 69, Віцебшчыне — 67,6, на Брэстчыне — 69,5, у Гомельскай вобласці — 69,52 працэнта. На выбарчыя ўчасткі Мінска прыйшлі ўсяго 48 працэнтаў мінчан. Тым не менш, дзякуючы розніцы ў актыўнасці ў асобных раёнах, высветлілася, што выбары ў сталіцы адбыліся ў 33 выбарчых акругах з 52, 12 дэпутатаў у Мінгарсавет былі абраны ўжо ў мінулую нядзелю.

У адным з буйнейшых гарадоў нашай краіны, Наваполацку, выбары зусім не адбыліся, паколькі там на ўчасткі прыйшлі толькі 42 працэнты грамадзян. На грані зрыву выбараў быў Барысаў — 50,8 працэнта, Жодзіна — 52,8, Маладзечна — 50,2, Брэст — 51, Віцебск — 52,4 працэнта. Другі тур выбараў пройдзе 18 красавіка, у якім дзейнічае 25-працэнтны мінімум удзелу выбаршчыкаў.

## ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, якая выклікае не толькі пэўны роздум, а наогул жах. Так, згодна з дадзенымі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, калі не прыняць узмоцненыя захады кантролю, да 2020 года будуць інфіцыраваны туберкулёзам каля мільярда чалавек, 200 мільёнаў захварэюць і 70 мільёнаў памруць ад гэтай самай небяспечнай інфекцыйнай хваробы. За апошнія сем гадоў захворванне на туберкулёз у Беларусі вырасла ў два разы, а смяротнасць — больш чым на 50 працэнтаў. Сярэдні паказчык захварэлых туберкулёзам дасягнуў 54,9 на 100 тысяч насельніцтва, што прыкладна ў 10 разоў перавышае ўзровень захворваемасці ў развітых краінах Заходняй Еўропы. Словам, інфармацыя невясёлая....

## З'ЕЗД ТЫДНЯ

2 красавіка ў Маскве прайшоў устаноўчы з'езд грамадскай арганізацыі "Беларусы Расіі", мэтай якой з'яўляецца садзейнічанне ўмацаванню ўзаемавыгаднай інтэграцыі Беларусі і Расіі, захаванню і развіццю самабытнай беларускай мовы, унікальнай культуры і багатых традыцый продкаў. Падобныя арганізацыі этнічных беларусаў ужо створаны ў Літве, Латвіі, Украіне і Малдове.

## СПІС ТЫДНЯ

На 55-ай штогадовай сесіі Камісіі ААН па правах чалавека, якая праходзіць у Жэневе, памочнік дзяржсакратара ЗША Харальд Хонг'ю Ко зачытаў "Чорны спіс", у якім 13 краін, чыя палітыка не задавальняе Злучаныя Штаты. У іх ліку, акрамя Югаславіі, якую цяпер бамбіць НАТА за этнічныя чысткі ў Косава, названы Беларусь, Кітай, Куба, Ірак, Алжыр...

## ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Міжпарламенцкая Асамблея дзяржаў-удзельніц СНД аднагалосна падтрымала прапанову Беларусі і Украіны абвясціць двухтысячны год Годам добрасуседства і згоды, умацавання адносін паміж краінамі-суседзямі ў мэтах падтрымання міру, развіцця гандлёва-эканамічных, культурных і іншых сувязяў паміж народамі.

## СУД ТЫДНЯ

Мінула амаль 54 гады, як закончылася другая сусветная вайна, але яшчэ і сёння тыя, хто не панёс пакаранне за здзейсненыя злачынствы паўстаюць перад судом. Ураджэнец Беларусі 78-гадовы Энтані Саванюк, былы карнік, які служыў у палявой фашысцкай жандармерыі, брытанскім судом прыгавораны да пажыццёвага зняволення. Ён прызнаны вінаватым па двух абвінавачваннях у забойстве мірных жыхароў вёскі Дамачава, што пад Брэстам. Адзінаццаць прысяжных журы аднагалосна вынеслі гэта рашэнне.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Прафсаюзы аховы здароўя, адукацыі і культуры звярнуліся да кіраўніка дзяржавы з просьбай прыняць экстранныя меры па павышэнні заробкаў у бюджэтнай сферы, бо, нягледзячы на пэўныя захады ўрада напрыканцы мінулага і на пачатку гэтага года па ўдасканаленні аплаты працы, узровень жыцця бюджэтнікаў не палепшыўся. Так, калі ў 1998 годзе зарплата настаўніка складала 63,3 працэнта ад заробкаў у прамысловасці, урача — 63,6, а работніка культуры — 54,5 працэнта, то ў лютым гэтыя суадносіны знізіліся адпаведна да 58,4, 59,6 і 53,7 працэнта. Тое, што "мінімалка" рана ці позна павялічыцца, няма падстаў сумнявацца. Галоўнае — каб цэны не раслі!

## ДАПАМОГА ТЫДНЯ

Выраз "гуманітарная дапамога" ўвайшоў у наша жыццё ўсур'ёз і, здаецца, надоўга. Многія жыхары нашай краіны (найбольш пенсіянеры) толькі на гэтую дапамогу і спадзяюцца. Праўда, гуманітарная дапамога часцей бывае такой: "на табе нябожа, што мне нягожа". Ды ўсё ж і на Захадзе ёсць людзі не толькі багатыя, але і вынаходлівыя ў справе зрабіць чалавеку прыемнае. Так зусім нядаўна адна з пенсіянерак райцэнтра Чэрыкаў Магілёўскай вобласці, калі пачала знаёміцца са зместам гуманітарнай дапамогі, у пакеце з мукой знайшла 100 амерыканскіх долараў, пакладзеных тут нейкім добрым чалавекам з Захаду. Для замежніка гэтыя 100 долараў, капейкі, а для нас беларусаў — вялікія грошы.

ФЕСТЫВАЛІ

# Вакол Яе Вялікасці...

У сталіцы працягваецца Міжнародны фестываль "Мінская вясна". Раней мы паведамлялі, што праходзіць ён сёлета пад дэвізам: "У свеце скрыпкі", тлумачылі, чаму арганізатары гэтага традыцыйнага музычнага свята вырашылі прысвяціць яго мастацтву выканальніцтва на адным інструменце. Але скрыпка, узведзеная ў ранг каралевы, згуртавала вакол сябе на фестывальнай сцэне досыць разнастайнае сямейства. Годнае месца занялі ў канцэртах і віяланчэль, і фартэпіяна, і майстры аркестравага грання, і вакал, хор...

Два непаўторныя вечары нашы госці з Расіі прысвяцілі памяці знанага беларускага калегі — дырыжора, віяланчэліста Юрыя Цырука. Зоркі сусветнай велічыні Наталля Гутман ды Элісо Вірсаладзе былі ініцыятарамі гэтай высакароднай мастацкай акцыі. Пазнаёмілі мінскую публіку з бетховенскімі санатамі для фартэпіяна і віяланчэлі. Мелі выступленні з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі, праграму якога падрыхтаваў расійскі дырыжор Дзмітрый Зубаў (гучалі творы хрэстаматыйных еўрапейскіх аўтараў і сучаснага нашага кампазітара В. Капыцько: музыка, да якой спрычыніўся некалі маэстра Цырук).

Повязь розных скрыпічных пакаленняў і школ адлюстравалася ў фестывальнай афішы. На ёй — ладны дзесятак, а то і два, імёнаў, сярод якіх асабліва ўсцешваюць маладыя зоркі беларускага скрыпічнага выканальніцтва: Арцём Шышкоў, Алег Яцына, Лідзія Дабрэўнец, Аляксандр Яканюк, Алег Подаў... *А як гожа стасавалася з гэтым сузор'ем знакамітая суполка юных талентаў у праграме Камернага аркестра Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Перліна!*

Своеасаблівы творчы альянс "настаўнік — вучні" прэзентавалі ў мінулую сераду нашы расійскія госці: даўні знаёмец музычнага Мінска, народны артыст СССР, прафесар Эдуард Грач гэтым разам выступаў не толькі як саліст-скрыпач, але і як Маэстра. У створаным ім камерным аркестры "Масковія" граюць маладыя музыканты, якія ў розны час былі студэнтамі Э. Грача ці навучаюцца ў яго класе сёння. Цікава, што ў Фа мажорным канцэрце *А. Вівальдзі* для трох скрыпак поруч з прафесарам саліравалі яго колішнія выхаванкі, артысткі Маскоўскай філармоніі, Юлія ды Вольга Сідаровіч, чый шлях у прафесійнае мастацтва пачынаўся на Беларусі...

Наперадзе яшчэ нямала цікавых філарманічных вечароў: з удзелам прафесара Парыжскай кансерваторыі імя М. Равеля Ларысы Колас (таксама наша зямлячка) ды яе вучняў; з удзелам прафесара БАМ Вячаслава Зяленіна і яго студэнтаў... Сёння ў Вялікай зале — сімфанічны канцэрт: разнастайная праграма пад кіраўніцтвам маэстра Генадзя Праватарова, з удзелам яркіх маладых салістаў. І — з беларускай прэм'ерай: прагучыць "Канцэрт для чатырох" Сяргея Бельцюкова.

**Н. К.**





*На здымках: народныя артысткі СССР віяланчэлістка Н. ГУТМАН ды піяністка Э. ВІРСАЛАДЗЕ; заслужаны артыст Беларусі У. ПЕРЛІН на чале свайго аркестра.*

*Фота А. ПРУПАСА і К. ДРОБАВА*

АНОНС

# "Sonorus" рыхтуе "Усяночную"

Прэм'еры такога кшталту ў музычным жыцці — падзея. Вось і настройваюць сябе на падзею мінчукі, дасведчаныя ў планах сталічнай філармоніі. Рэч у тым, што 13 красавіка, падчас велікодных святкаванняў, адбудзецца першае выкананне "Усяночнай", якую напісала вядомая і адметная творца — Людміла Шлег. (Гэта будзе аўтарская вечарына кампазітара.) Маштабнае музычнае палатно (амаль гадзіна гучання!) грунтуецца на кананічных царкоўнаславянскіх тэкстах, складаецца з 15-ці нумароў і ўяўляе з сябе складаную ёмістую кампазіцыю. Пачуць яе можна будзе ў Зале камернай музыкі, што на Залатой Горцы, у выкананні Мінскага абласнога камернага хору *"Sonorus"* пад кіраўніцтвам маэстра Аляксея Шута і салістаў Таццяны Пятровай, Наталлі Трашко ды Вячаслава Руднева.

А ў праграме аўтарскай вечарыны Л. Шлег, апроч "Усяночнай", — "Літургія св. Іаана Залатавуста" для трох салістаў і дзіцячага хору, якую выканае калектыў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Алы Мазуравай.

**С. Б.**

# Сёння — у восьмы раз

Зноў навуковыя чытанні памяці Л. Мухарынскай, якія адбудуцца ў Беларускай акадэміі музыкі, збіраюць усіх, хто з павагай ставіцца да гэтага імя. Сёлетнія чытанні, пад назвай "Музычная культура Беларусі: праблемы гісторыі і тэорыі", адрозніваюцца ад папярэдніх не толькі тым, што будуць праходзіць на працягу аднаго дня — 9 красавіка, але і большай ступенню канцэптуальнасці паведамленняў. Дакладчыкі, навукоўцы акадэміі І. Назіна, Т. Якіменка, Т. Шчарбакова, Л. Касцюкавец, Ю. Златкоўскі, А. Гарахавік, Н. Сцяпанская, В. Дадзіёмава, Т. Ліхач і студэнты В. Прыбылова, К. Бандарэнка, Р. Выграненка прапануюць слухачам разнастайныя тэмы: "Музычная герменэўтыка: пошукі метаду", "Сучасная музычная культуралогія: фарміраванне навуковых падыходаў", "Хасідская музычная традыцыя ў кантэксце культуры яўрэяў Беларусі", "Да вывучэння рэгіянальных сістэм песенных традыцый Беларусі", "Пра дыялектыку традыцыйнага і новага: з гісторыі скрыпкі на Беларусі", "Літургічныя асновы оперы "Сказание о невидимом граде Китеже и деве Февронии" М. Рымскага-Корсакава", "Пераасэнсаванне прыёмаў артыкуляцыі на клавішных інструментах у музыцы рубяжа XVIII—XIX стст.", "Да праблемы суадносін музыкі і дзеяння ў драматычным спектаклі (А. Дудараў — В. Капыцько. "Князь Вітаўт") ды інш.

**Таццяна ЗАБЛОЦКАЯ**

КІНО

# Беларусь і Літва — суседзі

31 сакавіка беларускія і літоўскія кінематаграфісты падпісалі дагавор "Аб узаемаразуменні і супрацоўніцтве..." "Беларусь і Літва былі заўсёды суседзямі, — падкрэсліў старшыня Літоўскага саюза кінематаграфістаў Г. Лукшас, — а палітыка няхай застанецца палітыкам". Першы пункт дагавора абавязвае кінематаграфістаў абедзвюх краін дапамагаць адзін аднаму "ў рэалізацыі дзеяў, накіраваных на абарону правоў чалавека".

...Сёння на Літоўскай кінастудыі здымаецца толькі два фільмы ў год. Па словах Г. Лукшаса (дарэчы, яго фільм "Месяцовая Літва" дэманстраваўся на "Лістападзе-98"), у гэтым годзе сітуацыя значна палепшылася: "запушчаныя" дваццаць дакументальных стужак (у дакументалістыцы паспяхова працуюць маладыя кінематаграфісты) і пяць анімацыйных фільмаў. Па-ранейшаму на студыі перавага аддаецца сумесным праектам — з Галандыяй, Швецыяй. На жаль, у літоўскіх кінатэатрах, большая частка з якіх — прыватныя, сёння амаль немагчыма ўбачыць нацыянальныя фільмы.

А вось мінчукам пашчасціла. Увечары, у кінатэатры "Кастрычнік" дэманстраваліся толькі літоўскія карціны: ігравая стужка "Павуцці" (рэж. А. Даусо і А. Грыкявічус), анімацыйны фільм "Аднойчы ў Літве" (рэж. З. Штэйніс) і лепшая дакументальная карціна Еўропы 1995 года "Зямля сляпых" (рэж. А. Станес).

**В. Б.**

КАНЦЭРТЫ

# "Букет прэм'ер ад юбіляра"

Са сваёй першай сольнай праграмай заслужаны артыст Беларусі Іван Тамашэвіч выступіў у 1968 годзе, калі яшчэ вучыўся ў Гродзенскім музычна-педагагічным вучылішчы. А нядаўна ў сталічнай філармоніі адбыўся юбілейны канцэрт спевака, прымеркаваны да яго 50-годдзя, разам з якім адзначалася і яшчэ адна знамянальная дата — 30-годдзе творчай дзейнасці. У праграме, названай "Букет прэм'ер ад юбіляра", прагучалі рускія, украінскія і беларускія народныя песні, творы П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, М. Мусаргскага, М. Рымскага-Корсакава, М. Балакірава, А. Арэнскага на вершы М. Агарова, А. Фета, А. Кальцова, А. Талстога, П. Вяземскага і інш. Не абышоў увагай І. Тамашэвіч і творчасць беларускіх аўтараў, гледачы з прыхільнасцю ўспрынялі песні Ю. Семяняка, І. Лучанка, Л. Захлеўнага, В. Войціка, У. Солтана, М. Літвіна на вершы У. Карызны, С. Давідовіча, М. Ясеня.

Паўнапраўнымі ўдзельнікамі канцэрта былі дыпламант Міжнароднага конкурсу камерны хор Беларускага таварыства інвалідаў па зроку "Кантус", ансамбль народных інструментаў выкладчыкаў Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі, Мінскі аркестр духавых інструментаў "Няміга" і дыпламант Усесаюзнага конкурсу канцэртмайстар Наталля Максімава.

Юбіляра віталі старшыня Саюза беларускіх кампазітараў народны артыст СССР Ігар Лучанок.

**Сяргей БЯРНАЦКІ**

АБСЯГІ

ГРОДНА...

## Прэмія года

Штогадовыя прэміі "За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва" вырашыў прысуджаць Гродзенскі аблвыканкам. Іх лаўрэатамі могуць стаць дзеячы культуры і мастацтва, якія дасягнулі значных поспехаў у працы: выяўленчым мастацтве, выкладчыцкай дзейнасці, бібліятэчнай і музейнай справе, развіцці народных рамёстваў, рэжысёрскім і акцёрскім майстэрстве, літаратуры.

Прэміі будуць прысуджацца ў наступных намінацыях: клубны работнік і бібліятэкар, музычны работнік, выкладчык, народны майстар, артыст, рэжысёр, мастак, пісьменнік года.

Гэта ініцыятыва дазволіць падтрымаць значныя праекты ў галіне культуры, абудзіць творчую ініцыятыву.

## Творчы дуэт

Выстава двух гродзенскіх мастакоў Валянціны Шобы і Уладзіміра Панцялеева экспануецца ў мінскай галерэі мастацтва. Творчы і сямейны дуэт дэманструе працы апошніх двух гадоў: каля двух дзесяткаў скульптурных кампазіцый Панцялеева і 15 графічных работ Шобы. Гэта ўжо трэцяя за нядаўні час выстава маладых аўтараў у Мінску. Летась у траўні-чэрвені ў ліку некаторых гродзенскіх мастакоў В. Шоба і У. Панцялееў выстаўлялі свае творы ў Нацыянальным мастацкім музеі, а ў сёлетнім лютым — у музеі сучаснага мастацтва. У маладых аўтараў багатыя планы. Неўзабаве яны збіраюцца падрыхтаваць і прадэманстраваць у Гродне так званую "выставу адной вежы" — калектыўную выставу чатырох аўтараў, творчыя майстэрні якіх знаходзяцца ў адной вежы па вуліцы Свярдлова. Акрамя іх удзел у гэтай экспазіцыі прымуць Сяргей Якавенка і Сяргей Стома. У верасні Панцялееў разам з Якавенкам плануюць правесці выставу ў галандскім горадзе Дорхерт, у галерэі "Ала Паўлава", якая належыць нашай землячцы-беларусцы.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

БРЭСТ...

## Чатыры дні для фартэпіяна

У абласным цэнтры прайшоў першы міжнародны фестываль-конкурс фартэпіяннай музыкі. Яго лаўрэатамі сталі Марына Рамейка з Мінска, Аляксандра Мікульская з Варшавы, Аляксандр Дзяруга з Маладзечна, Дзмітрый Дзямешкін з Масквы. Названы таксама шэраг дыпламантаў конкурсу, сярод якіх — Юлія Хлябцэвіч з Брэста.

Фестывальныя дні былі вельмі насычаныя. Апроч тых, хто спаборнічаў за званне пераможцаў, перад слухачамі выступілі з канцэртамі сімфанічны аркестр Брэсцкага тэатра драмы і музыкі, якому саліраваў народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў, і дзесяткаў вядомых майстроў фартэпіяна.

## Ініцыятыўная "Вежа"

Цэнтр падтрымкі грамадскіх ініцыятыў "Вежа" нядаўна правёў не зусім звычайную імпрэзу — абласны літаратурна-мастацкі конкурс пад назваю "У цябе імя жаночае, Беларусь мая". Яе ўдзельніцамі былі дзяўчаты ва ўзросце ад 13 да 18 гадоў, усяго больш чым паўсотні чалавек. Дыпломы першай ступені ўручаны юнай паэтцы з Баранавічаў Таццяне Свірыдовіч, школьніцы з Бераста Вользе Навумчык за эсэ "Ліст да Радзімы", а сярод мастакоў лепшымі былі прызнаны працы Таццяны Саковіч і Ганны Сурыкавай з Брэста, Яны Грыгор'евай з Баранавічаў. Шчыра і зацікаўлена гаварылі пра творчасць сваіх маладых калег паэт Мікалай Пракаповіч, празаік Мікалай Сянкевіч, мастачка Настасся Фяцісава і журналістка Валянціна Казловіч.

**Сымон АКСЕНІН**

ГОМЕЛЬ...

## Тур бенефісаў

Дзяржаўны маладзёжны тэатр эстрады паказаў праграму "У нас сёння — бенефіс". Тэатр, у складзе якога выступалі вядомыя спевакі, артысты балета, прадставіў гамяльчанам першы гастрольны супертур з яркім відовішчам. Гэты тур будзе працягнуты па іншых абласцях Беларусі.

## Аўтары — знакамітыя мастакі

Цэнтр народнай творчасці ў сваёй выставачнай зале арганізаваў вернісаж вядомых землякоў — скульптара Дзмітрыя Папова і майстра жывапісу Людмілы Жыжэнкі. Папоў з'яўляецца аўтарам многіх манументальных работ, а таксама партрэтаў Івана Мележа, Кірылы Тураўскага і іншых вядомых людзей Беларусі. На гэтай выставе скульптар прадставіў серыю работ аб прыгажосці жанчыны ("Паляшучка", "Верачка", "Паўднёвы вецер"...), а таксама кампазіцыі пра чарнобыльскую бяду. Людміла Жыжэнка — аўтар персанальных выставаў у Італіі "Чарнобыль — знак бяды", "Мая Беларусь", а таксама ў Гомелі — "Фарбы зямлі палескай". На гэты раз мастачка прадставіла нацюрморты і пейзажы "Вясновая паводка", "Сакавік", "Бэз"...

## Фестываль патрыятычнай песні

Палац культуры ААТ "Гомельдрэў" стаў месцам правядзення абласнога фестывалю патрыятычнай песні, прысвечанага 55-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У ім удзельнічалі салісты, вакальныя групы, вакальна-інструментальныя ансамблі. Фестываль паказаў, што патрыятычная песня жыве, карыстаецца папулярнасцю ў моладзі. Пераможцы адзначаны ўзнагародамі.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ВІЦЕБСК...

## У памяць аб Баршчэўскім

Аргкамітэт другіх міжнародных чытанняў, прысвечаных творчасці Яна Баршчэўскага, звярнуўся ў Полацкі гарвыканкам і Расонскі райвыканкам з просьбай аб прысваенні імя аўтара "Шляхціца Завальні" вуліцам гэтых гарадоў. Віцебскі дзяржуніверсітэт імя П. Машэрава па дамоўленасці з абласным краязнаўчым музеем рыхтуе да выдання пісьмы Яна Баршчэўскага, якія захоўваюцца ў гэтым музеі.

## Будні коласаўцаў

Галоўны рэжысёр Акадэмічнага драмтэатра імя Якуба Коласа Віталь Баркоўскі пачаў рэпетыцыю спектакля паводле п'есы Шылера "Браты-разбойнікі". Дарэчы, у сакавіку група літаратурна-мастацкіх крытыкаў на чале з рэктарам Акадэміі мастацтваў Р. Смольскім прагледзела ўсе спектаклі рэпертуару коласаўцаў. Сярод найбольш удалых крытыкі вылучылі пастаноўкі "Пісьменныя" і "Варвара і яе блудны муж". Пры аншлагу прайшла і прэм'ера спектакля "Чума на вашы два дамы" ў пастаноўцы Ю. Пахомава.

**Святлана ГУК**

НАДЗЁННАЕ

Вячаслаў РАГОЙША

## *Пан у сваёй хаце*

*Кожны дурань*
*ці разумны —*
*Пан у сваёй хаце.*
Янка КУПАЛА

***Я ў Расію, Украіну —***
***Клянуся небам! —***
***Не толькі каменем не кіну —***
***Не кіну хлебам.***

***Дружу я з Латвіяй***
***і Польшчай,***
***На "ты" з Літвою.***
***Не трэба долі лепшай,***
***большай,***
***Чым жыць раднёю.***

***Адно прашу вас, пабрацімы:***
***Зла не трымайце,***
***Маёй любоўю да Радзімы***
***Не пагарджайце.***

***Адно прашу, браты-народы:***
***З агнём не грайце,***
***Маё імкненне да свабоды***
***Не зневажайце.***

***У гэтым свеце жорсткім,***
***тлумным***
***Хачу я, браце,***
***Каб кожны — дурань,***
***ці разумны —***
***Быў пан у сваёй хаце.***

ІМПРЭЗЫ

# Віншаванне пераможцаў

На 29-й Сусветнай выставе дзіцячага малюнка, якая праводзілася летась у сталіцы Тайваня Тайбэі, нечакана для многіх пераможцамі сталі беларускія хлапчукі. На выставе прадэманстравалі свае работы дзеці з 60-ці дзяржаў. Школьнікі з Беларусі ў гэтай штогадовай мастацкай акцыі ўдзельнічалі ўпершыню. З 41 работы навучэнцаў дзіцячых мастацкіх школ N 1 і N 3 г. Мінска і СШ N 19 г. Гомеля, прадстаўленых на выставе, 14 былі адзначаны спецыяльнымі дыпломамі, а работы Дзмітрыя Пархамчука і Аляксандра Саўчанкі заваявалі залатыя і сярэбраныя медалі.

Каардынатарам і арганізатарам гэтай акцыі выступіў Міжнародны фонд эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж Мінскам і Тайбэем (Тайвань) ТайМін. ТайМін — гэта міжнародная грамадская некамерцыйная арганізацыя, якая займаецца праектамі ў галіне эканомікі, навукі і тэхнікі, мастацтва і культуры. Фінансава і арганізацыйна ў дасылцы работ на Тайвань дапамагла Тайбэйская гандлёва-эканамічная місія ў Мінску. Гэта натуральны працяг яе дзейнасці па культурным абмене паміж нашымі дзяржавамі. Тайбэйская гандлёва-эканамічная місія ўжо неадночы прадстаўляла ў Мінску выставы традыцыйнага мастацтва, апошняя з якіх зараз дэманструецца ў Полацку.

У Музеі сучаснага мастацтва фонд ТайМін і Тайбэйская гандлёва-эканамічная місія правялі цырымонію ўзнагароджання маладых мастакоў-пераможцаў. А таксама паведамілі, што рыхтуецца чарговы ўдзел беларускіх дзяцей (ад 5 да 15 гадоў) у 30-й юбілейнай выставе дзіцячага малюнка, якая адбудзецца сёлета ў жніўні-верасні.

**Н. Ш.**

*На здымку: падчас цырымоніі ўзнагароджання.*



ВЕЧАРЫНЫ

# З Бабчынам і сэрцам, і душой

Кнігі пішуцца па-рознаму. Адны з іх з'яўляюцца як водгук на пэўныя падзеі. Іншыя становяцца сведчаннем роздуму аўтара над пражытым і перажытым... І ўсё ж, думаецца, асаблівая павага да кніг, якія можна (і трэба) назваць кнігамі-ўчынкамі. Інакш і не скажаш, бо пішуцца яны па абавязку сэрца і сумлення. І пішуцца таму, што не могуць не быць напісанымі. Пацвярджэнне гэтаму і дзве кнігі Міколы Мятліцкага — "Палескі смутак" і "Бабчын". Менавіта ў іх асабліва ярка раскрыўся талент паэта, родныя мясціны якога пакрыты чарнобыльскім прысакам.

Да гэтай балючай для яго, як і для ўсіх нас, тэмы М. Мятліцкі звяртаўся і раней: яго першыя вершы пра Чарнобыль і наступствы страшнай катастрофы ў жыцці чалавецтва з'явіліся адразу пасля 26 красавіка 1986 года. Яшчэ тады, калі паэт мог наведацца ў родную вёску Бабчын. Яшчэ тады, калі Бабчын быў вёскай. А пасля Чарнобыль не адпускаў М. Мятліцкага (і па сённяшні дзень не адпускае!) ад сябе. Не адпускаў (і не адпускае!) Бабчын. А боль, роздум выліваецца ў паэтычныя радкі, што кладуцца ў вершы. І як вынік гэтай напружанай творчай працы — згаданыя кнігі, апошняя з якіх адзначана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Адначасова "Бабчын" стаў і свайго роду падрахункаваннем паэта на першым жыццёвым і творчым этапе: у сакавіку М. Мятліцкаму споўнілася 45 гадоў.

З гэтай нагоды ў Доме літаратара быў наладжаны юбілейны вечар, на які прыйшлі прыхільнікі таленту паэта, у тым ліку сабраліся колішнія бабчынцы, што прыехалі з розных куткоў Бацькаўшчыны, куды іх закінуў няўмольны лёс. І адразу, кінуўшы позірк на сцэну, нібы пабывалі там, дзе пісаліся многія вершы кніг "Палескі смутак" і "Бабчын" — на сцэне знаходзілася карціна мастака А. Драбышэўскага "Хата паэта ў зоне". А ў ёй, што сіратліва прытулілася ў апусцелым Бабчыне, М. Мятліцкі бываў неадночы, пасля перасялення землякоў, а нярэдка правадзіў там і бяссонныя ночы.

Адкрыў вечар старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў У. Някляеў, а вёў галоўны рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" А. Пісьмянкоў. Пра творчасць юбіляра хораша гаварылі народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, першы намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь І. Ралевіч, крытык С. Андраюк, празаікі Л. Левановіч, А. Савіцкі, землякі М. Мятліцкага — намеснік старшыні Хойніцкага райвыканкама І. Гапоненка і рэдактар раённай газеты У. Далгалычанка, Глыбачане — старшыня райсавета М. Стоцік, пісьннікі У. Сауліч і В. Гарановіч уручылі юбіляру ганаровую грамату Глыбоцкага райвыканкама, якой М. Мятліцкі ўзнагароджаны за вялікі ўклад у духоўнае жыццё Глыбоччыны (дарэчы, ён з'яўляецца лаўрэатам літаратурнай прэміі мясцовага саўгаса "Азярцы"). Ад імя жыхароў Астраўца, другой радзімы М. Мятліцкага, паэта вітала рэдактар раённай газеты, празаік Н. Рыбік. На вечары выступілі паэт-бард Э. Акулін, артысты М. Захарэвіч і Т. Нікалаева, удзельнікі тэатра "Жывое слова", фальклорны гурт "Палессе" Акадэміі мастацтваў.



І, канечне ж, было слова самога вінаўніка ўрачыстасці. І, вядома ж, гучалі яго вершы. І, як заўсёды ў падобных выпадках, не абышлося без кветак, а іх было так шмат, што, думаецца, многія з "жывых класікаў" могуць пазайздросціць. Што ж, прыхільнікі таленту М. Мятліцкага не памыліліся ў сваіх сімпатыях і ўлюбёнасці ў яго паэзію.

**Віктар РУНЕВІЧ**

*Фота А. ПРУПАСА*



ЧАСАПІС

## Берасце — Будапешт

З году ў год пашыраюцца сувязі між кафедрай гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта і кафедрай усходнеславянскай і балтыйскай філалогіі Будапешцкага універсітэта імя Этвеша Лоранда. На аснове двухбаковай дамоўленасці ўжо пяты год на факультэце славістыкі галоўнай вышэйшай навучальнай установы Венгрыі выкладаецца беларуская мова, чытаюцца спецкурсы па надзённых пытаннях беларускага і ўсходнеславянскага мовазнаўства. За прайшоўшы час значна паглыбілася супрацоўніцтва не толькі між кафедрамі, але і факультэтамі названых навучальных устаноў: актыўна ідзе абмен вучэбна-метадычнай і мастацкай літаратураю, навучальнымі праграмамі, аўдыа-, відэа- і іншымі дыдактычнымі матэрыяламі, таксама пашыралася тэматыка сумесных навуковых і навукова-метадычных канферэнцый, што прайшлі ў розных навучальных установах Беларусі і Венгрыі. Навукоўцы і студэнты беларускага аддзялення Будапешцкага універсітэта неаднаразова наведвалі нашу рэспубліку і наш горад, сустракаліся са студэнтамі Брэсцкага дзяржуніверсітэта.

Сумесная праца працягваецца. Пра гэта сведчыць і тое, што сёлета ў пачатку года ў акадэмічным выдавецтве Венгрыі ўбачыла свет грунтоўная энцыклапедыя "Мовы свету" (1700 старонак). У складзе рэдакцыйнай калегіі даведніка і загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі БрДУ дацэнт Мікола Аляхновіч, якому належыць артыкул-нарыс пра беларускую мову, што змешчаны на старонках энцыклапедыі.

## Падарунак Астрожскай акадэміі

У 1994 годзе ў старажытным украінскім горадзе Астрозе (Ровенская вобласць) аднавілася першая па часе ўзнікнення вышэйшая навучальная ўстанова ва Усходняй Еўропе, якой вярнулі гістарычную назву "Астрожская акадэмія". А цяпер можна толькі па-добраму здзівіцца, што ўжо ў 1997 годзе намаганнямі выкладчыкаў маладой ВНУ выходзіць грунтоўнае энцыклапедычнае выданне "Острозька Академія XVI—XVII стст."

Энцыклапедыя "Острозька Академія XVI—XVII ст.ст." з'яўляецца першаю спробаю энцыклапедычнага выдання, прысвечанага першай ВНУ ва Усходняй Еўропе (прыблізна 1576—1638 гг.). Тут вы не знойдзеце абагульненне набыткаў папярэдняй гістарыяграфіі, выкладку сістэматычнай інфармацыі пра першую ВНУ ва ўсходніх славянаў, звесткі пра дзеячаў акадэміі, яе фундатараў і мецэнатаў, пра кнігі, выдадзеныя ў Астрозе, пачынаючы з Буквара (Азбукі) (1578) па Часаслоў (1612).

Дзейнасць акадэміі была цесна звязана з рэальнаю гістарычнаю абстаноўкаю Астрога таго часу — у выданні ёсць артыкулы пра культавыя ўстановы розных канфесій, архітэктурныя помнікі і г.д. Дастаткова будзе нагадаць, што выпускнікамі акадэміі былі Г. і М. Сматрыцкія, Д. Налівайка, К. Лукарыс, А. Рымша і іншыя.

Энцыклапедычнае выданне надзвычай карыснае для даследчыкаў беларускай гісторыі і культуры. Асаблівая цікавасць да кнігі ў берасцейскіх вучоных і краязнаўцаў, бо Астрог быў цэнтрам палемічнае літаратуры, якая сваім зместам была накіравана супраць Брэсцкай уніі.

Рэктар акадэміі доктар псіхалагічных навук Ігар Пасечнік падараваў адзін асобнік энцыклапедыі кабінету украіназнаўства Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта. Такое ж выданне падаравана і Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Уладзімір ТАРАСЮК

## Музыка пакаленняў

Упраўленне культуры аблвыканкама і Гомельскі каледж мастацтваў імя Н. Сакалоўскага правялі першы рэгіянальны конкурс маладых музыкантаў — выканаўцаў на фартэпіяна і струнна-смычковых інструментах. Ён займеў назоў "Натхненне". У ім бралі ўдзел навучэнцы Гомельскага каледжа, Мазырскага і Магілёўскага музычных вучылішчаў. Юныя таленты прадэманстравалі высокае выканаўчае майстэрства. Лепшыя з іх узнагароджаны прызамі і дыпломамі.

У Гомелі таксама адбыўся абласны тур пятага рэспубліканскага фестывалю народнай творчасці ветэранскіх калектываў "Не старэюць душой ветэраны".

Аляксей ШНЫПАРКОЎ

*г. Гомель*

НАДЗЁННАЕ

***Амаль год назад, 23 красавіка 1998 года адбыўся чарговы, XII з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў. На ім, як вядома, старшынёй творчага саюза быў выбраны Уладзімір Някляеў, а неўзабаве пасля гэтага форуму змянілася і ўсё кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі. Не абышлося без змен і ў Беларускім літаратурным фондзе. Старшынёй праўлення яго і дырэктарам стаў Уладзіслаў Мачульскі, юрыст па адукацыі. Дарэчы, апошняе, як высветлілася, немалаважна, бо з першых жа крокаў сваёй работы на новай пасадзе Уладзіслаў Антонавіч сутыкнуўся з праблемамі, вырашэнне якіх патрабуе добрага ведання законаў. А папярэдняе кіраўніцтва фонду, а таксама структур, што падначалены яму, з гэтымі самымі законамі часта было не ў ладах. Таму У. Мачульскаму, наводзячы парадак, у многім даводзілася пачынаць, як кажуць, з нуля. Што ж змянілася ў дзейнасці Беллітфонду за гэты час? Наколькі фонд адпавядае сваім асноўным функцыям, з якіх на першым плане стаіць забеспячэнне нармальных бытавых умоў для актыўнай творчай працы літаратараў? Пра гэта і гутарыць наш карэспандэнт з Уладзіславам МАЧУЛЬСКІМ.***

# Пра "Іслач" ведаюць і... у Танзаніі

**— Уладзіслаў Антонавіч, калі гаварыць пра забеспячэнне бытавых умоў для нармальнай творчай працы, дык, безумоўна, для гэтага на сённяшні дзень неабходны вялікія фінансавыя сродкі. Раней, скажам так, у даперабудовачныя часы нямала давалі адлічэнні ад дзейнасці выдавецтваў, якія, як вядома, былі рэнтабельнымі. Падтрымку аказвалі і партыйныя органы. А цяпер адкуль гэтыя грошы браць?**

— Грошы трэба зарабляць...

**— Але ж прыкладна так гавораць цяпер усюды. Гэтыя словы чуюць дырэктары выдавецтваў, калі скардзяцца на цяжкае фінансавае становішча; галоўныя рэдактары перыядычных выданняў, што апынуліся ў гэткім жа незайздросным становішчы. Аднак жа зарабіць грошы, калі не звязаны з вытворчасцю, не так і проста.**

— Не проста, але трэба ўмець. На сённяшні дзень Літфонд гэта павінен рабіць з дапамогай колішняга Дома творчасці, а цяперашняга санаторыя-прафілакторыя "Іслач", які з'яўляецца адзіным нашым гаспадарча-разліковым падраздзяленнем. А ўжо заробленыя грошы і павінны быць скарыстаны на дапамогу пісьменнікам.

**— І вы, прыйшоўшы на пасаду дырэктара, пачалі з таго, што вырашылі навесці парадак у "Іслачы"?**

— "Спадчына" мне засталася незайздросная. Калі правялі рэвізію ў санаторыі-прафілакторыі, дык высветлілася, што яго можна лёгка страціць з-за таго, што крэдыторская запазычанасць склала амаль 8,5 мільярдаў рублёў. Сюды ўваходзіла плата за энерганосьбіты, іншыя выдаткі. Не плацілася і зарплата работнікам "Іслачы", запазычанасць па ёй склала пяць месяцаў.

**— Але ж, як гаварылася дагэтуль пастаянна на розных пасяджэннях у Саюзе пісьменнікаў, у тым ліку і па пасяджэннях Літфонду, у "Іслачы" усё ў парадку?**

— Сапраўды, праверкі раней там рабіліся. Прытым неаднаразова, але ніхто сур'ёзна ўнікаць у сутнасць становішча не збіраўся, таму ўсё і заканчвалася звычайнымі адпіскамі, паводле якіх у "Іслачы" ўсё было ў парадку. А такую няўважлівасць тагачаснае кіраўніцтва санаторыя-прафілакторыя і выкарыстоўвала на сваю карысць. Начальства будавала катэджы, а гаспадарка "Іслачы" прыходзіла ў заняпад. Колішняга дырэктара "Іслачы" Сяргея Лысуху давялося звальняць па артыкулу "за парушэнне фінансавай дысцыпліны". Пазбавіліся таксама сваіх пасад галоўны адміністратар, загадчык вытворчасці... Прызначылі новага дырэктара. Ім стаў Аляксандр Каспер, чалавек, які ведае, што такое сапраўдная дысцыпліна — Каспер былы вайсковец, мае званне падпалкоўніка.

**— А як з запазычанасцю "Іслачы" перад дзяржавай?**

— З даўгамі давялося разлічвацца. І тут вялікі дзякуй ад імя пісьменніцкай арганізацыі хочацца сказаць Прэзідэнту краіны. Аляксандр Рыгоравіч пасля сустрэчы з членамі рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, што адбылася ў жніўні мінулага года, зразумеў цяжкае становішча, у якім апынуліся мы, і пайшоў насустрач. Па распараджэнні Прэзідэнта было выдзелена для ўратавання "Іслачы" 9,3 мільярда рублёў. Гэта і дазволіла нам стаць, як кажуць, на ногі, вырашыўшы на той час самую галоўную праблему, бо, яшчэ раз паўтараю, стаяла пытанне быць "Іслачы" ўвогуле ці не быць у падпарадкаванні Беллітфонду.

**— Вы кажаце галоўную праблему. Значыць, ёсць і іншыя?**

— Сярод іх і такая, якую нават цяжэй вырашыць. Маю на ўвазе становішча, што склалася са службовым домам, які знаходзіцца на тэрыторыі "Іслачы". Першапачаткова ён задумваўся для таго, каб стаць жыллём для работнікаў тагачаснага Дома творчасці. Ён на шаснаццаць кватэр, але сёння ў ім жывуць толькі дзве сям'і, што працуюць у санаторыі-прафілакторыі. Астатнія 14 — чужакі. некаторыя з іх у свой час былі скарочаны, іншыя звольнены, але ў сувязі з юрыдычнай непісьменнасцю ранейшага іслачскага кіраўніцтва засталіся тут жыць... Трэба праводзіць і рамонт. Неабходныя матэрыялы ўжо закупілі, хутка возьмемся за справу.

**— І ўсё ж, здаецца, пісьменнікі па-ранейшаму не вельмі ахвотна едуць адпачываць у "Іслач"? Не тое, што гадоў дзесяць назад, калі ўлетку пуцёўка набывалася з цяжкасцю...**

— На жаль, гэта так. Летась адпачывала ў "Іслачы" толькі чатырнаццаць чалавек. Але прычына не ў тым, што там не створаны належныя ўмовы. Зноў жа — грошы! Пакуль Літфонд не ў стане прадастаўляць вялікія льготы членам фонду, а імі, як вядома, з'яўляюцца ўсе члены творчага саюза. А расходы за пражыванне, харчаванне з кожным днём павялічваюцца. Кошт аднаго дня знаходжання ў "Іслачы" сёння складае 2,2 мільёна рублёў. Канечне, гэта шмат. Праўда, як нам ні цяжка, даём членам фонду скідку у памеры 50 працэнтаў. Яны плацяць толькі за харчаванне, а гэта ў суткі — 1,4 мільёна рублёў. Але мяркуем, што ў наступным, 2000 годзе кожны жадаючы пісьменнік зможа адпачыць у "Іслачы" бясплатна дзесяць дзён.

**— Адкуль вы возьмеце такія грошы?**

— За адзін раз мы можам прыняць 180 чалавек. Тыя, хто хоць аднойчы бываў у "Іслачы", добра ведае, якія прыгожыя там мясціны. Вакол пабудоў санаторыя знаходзіцца 37 гектараў хвойнага лесу. Паветра чыстае, азонавае. Вабіць і рэчка Іслач. Так што жадаючых прыехаць сюды — шмат, у тым ліку і на выхадныя дні. Дарэчы, і перспектывы ў нас неблагія. На перыяд з 18 мая па 12 верасня рэалізавалі ўжо сто працэнтаў выдзеленых пуцёвак, пакінуўшы толькі рэзерв для пісьменнікаў. А ў выніку санаторый-прафілакторый не толькі апладціў усю запазычанасць дзяржаве, а і стаў рэнтабельным. Імкнёмся разнастаіць адпачынак у "Іслачы". Сёлета купілі нават двух коней, каб дзеці, пры жаданні, маглі праехаць на брычцы, а то і верхам. А зімой маглі пакатацца на санях. Утрымліваць коней будзе нескладана, сена назапасіць няцяжка, улетку наўкола расце шмат травы. Яшчэ плануем наладжваць канцэрты, выступленні артыстаў. Балазе выканаўцаў і калектываў нямала ахвочых прыехаць у "Іслач". Гатовы нават выступаць бясплатна, абы толькі мы далі магчымасць.

**— Стаўшы санаторыем-прафілакторыем "Іслач" усё ж, мабыць, не страціў свайго першапачатковага статуса?**

— Зразумела, не. Лімаўскі чытач добра ведае, што толькі апошнім часам у "Іслачы" прайшлі два семінары — маладых літаратараў, на які прыехала каля 70 чалавек і перакладчыкаў, на якім былі літаратары з Украіны, Расіі, Балгарыі. Розныя мерапрыемствы, у тым ліку і семінары, праводзяць у нас шмат якія арганізацыі.

**— А як, Уладзіслаў Антонавіч, наконт далейшых кантактаў з замежнымі літаратарамі. Зноў жа прыходзяць на памяць "добрыя старыя часы". З якой толькі саюзнай рэспублікі ў "Іслач" ні прыязджалі пісьменнікі! Дый і з цяперашняга так званага далёкага замежжа ахвотна наведваліся.**

— Добра наладжваюцца сувязі з балгарамі. Нядаўна яны прыслалі дагавор, паводле якога ўносяць прапанову займацца абменам. Для прыкладу, калі балгарскія літаратары атрымаюць у "Іслач" 10—15 пуцёвак, дык столькі ж пуцёвак яны дадуць нам узамен, а гэта значыць, што 10—15 беларускіх пісьменнікаў змогуць паехаць адпачываць у Балгарыю. Аб падобных абменах ёсць прапанова і з боку Румыніі. Просіць адкрыць сваё аддзяленне ў "Іслачы" Міжнародны літаратурны фонд, членам якога з'яўляюцца і беларускія літаратары. А гэты фонд багаты... І што самае цікавае, тыдні два прыйшоў факс з Танзаніі...



**— З Танзаніі?!**

— Але, з Танзаніі. Яны прапануюць нам, паколькі мы ўвялі "Іслач" у сістэму "Інтэрнэт", а таму пра нас ведаюць у свеце, кантракт па турызме ажно на некалькі мільёнаў долараў. Запросім іх для перамоваў.

**— Атрымліваецца, што асноўнае ў вас спадзяванне на паспяховую працу "Іслачы"...**

— "Іслач" — наша галоўная апора ў паляпшэнні фінансавага становішча Беллітфонду. Але, як я ўжо гаварыў, не абыходзіцца і без падтрымкі дзяржавы. Мы атрымалі ліцэнзію на права займацца выдавецкай дзейнасцю, дык вось нядаўна Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання даў нам заказ на выданне двух падручнікаў. А гэта поўнае дзяржаўнае фінансаванне. Фінансавала дзяржава і правядзенне двух згаданых семінараў. Акрамя таго, заводы, розныя прадпрыемствы даюць нам без нацэнак будаўнічыя матэрыялы для рамонту.

**— Атрымліваецца, што ўзаемаадносіны з дзяржавай наладжаны належным чынам?**

— Плануецца ў бліжэйшы час правесці пасяджэнне рады СБП на тэму "Узаемадзеянне Саюза беларускіх пісьменнікаў з дзяржаўнымі структурамі". На яго будуць запрошаны намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта РБ І. Пашкевіч, міністр культуры А. Сасноўскі, старшыня Дзяржкамітэта па друку М. Падгайны і іншыя адказныя асобы.

**— І апошняе пытанне, Уладзіслаў Антонавіч, ці не самае канкрэтнае... Калі хто-небудзь з пісьменнікаў ці з членаў іх сем'яў хоча паехаць адпачыць у "Іслач", за колькі дзён падаваць заяўкі?**

— Цяпер можна і за сем, а летам за дзён дзесяць. Для прыкладу, калі нехта хоча выехаць у "Іслач" 10 ліпеня, дык дастаткова падаць заяву 1 ліпеня. А пра ўмовы аплаты я ўжо гаварыў. Канечне, з ростам мінімальнай зарплаты могуць быць змены ў бок павышэння, але прынцып застанецца ранейшым. А ў 2000 годзе будуць і бясплатныя пуцёўкі на дзесяць дзён. Для членаў сям'і пісьменнікаў яны будуць каштаваць так, як цяпер для самых пісьменнікаў, — 50 працэнтаў.

**— Дзякуй, Уладзіслаў Антонавіч, за гутарку і поспехаў вам у працы!**

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Згадкі пра будучыню

## У ПОШУКАХ СЭНСУ І ЖАНРУ

### ХТО Я?

Ягоная памяць, як бяздонная кішэня скнары-ліхвяра. У час, калі настрой кепскі ці надвор'е не вельмі, ён намацвае ўспаміны, якія заўжды напагатове, выцягвае іх з нябыту на святло. І яны ажываюць. А ён прыглядваецца і прыслухоўваецца, нібыта ўпершыню. І з асалодаю адчувае свой колішні настрой, колішнія думкі і перажыванні, нават пах таго, чаго, мабыць, ніколі з ім і не было...

●

Зямля хварэе вясной, паспешлівай і легкадумнай. А я — калектывізацыяй. Я — старшыня калгаса "Грушаўка", што пад Цэрахоўкай. Галодны, малады, упарты і непахісны. "А я сказаў вам, недарэкі, мы ліквідуем кулацтва як клас! На аснове бязлітаснай калектывізацыі! Вось так і ніяк інакш!" Перад вачыма стайня Кузьмы Крывашэева, пабудаваная з розумам, на вякі. Ужо праз хвіліну яна стане калгаснай. Але як доўга цягнецца гэтая хвіліна! Калі крывашэеўскія вілы прабіваюць маю спарахнелую і выцвілую да белага гімнасцёрку, да пранізлівага і невыноснага болю шкрабуць зубам па рабрыне, з крэктам упіваюцца ў дубовае бярвенне, я паспяваю заўважыць і здзвіцца: няўжо кроў на белай гімнасцёрцы сапраўды мая? Чаму неба такое чырвонае? І што нагадвае мне гэты, адпаліраваны кулацкім мазалём вілачнік, па якім б'юць кроплі нечаканага веснавога дожджыку. І з кожным новым ударам гэтых бязлітасных кропляў мне баліць усё болей...

Ды не, які вілачнік?! Пад пахай дзіда. Доўгая і нягнуткая, як мая рашучасць. Сорак княжацкіх харугваў сышліся на гэтых пагорках. Да крыжакоў — палёт арбалетнай стралы. Спёка, пах поту, зброі, смерці і перамогі. "Наперад, вої!" Крыкі, стогны, лямант. Харугва князя Сямёна Мсціслаўскага за лічаныя хвіліны ўтаптана ў зямлю. Святы Божа, нічога не паспяваю зрабіць! Мяне збівае з ног. Як апошнюю надзею, губляю прытомнасць. Божа, выратуй мяне! "Пагоня" — дапамажы!..

— Лежать, сволочь! Руки за голову и не рыпаться. Так говоришь, советская власть тебе надоела?!

Патыліцу свідруе ствол нагана. Нахабны і халодны, як сёлетняя ранняя вясна. Жаданне адно: не наглытацца б гразі. Колькі можна, сыты ёю па горла! Курапацкі пясок нажджаком рыпіць на зубах. І вострае жаданне пакурыць. Краем вока бачу-адчуваю камлі маладзенькіх соснаў ля высачэзнага плота, густа наваксаваныя боты перад тварам. Боты тых, хто ўжо вырашыў мой лёс. А як я хацеў вырашаць яго сам!

— Темников, кончай его.

Стрэлу я ўжо не чую. Ужо не бачу, як камісары ў пыльных шлемах моўчкі схіляюцца нада мной, з агідаю б'юць шыкоўнымі ботамі, пераварочваюць ужо мёртвага...

Я ёсць, але мяне няма. Ніяк не пазбаўлюся гэтага неадчэпнага пачуцця. Яно перашкаджае мне кіраваць людзьмі. На маім рабочым стале кніга — "Псіхалогія натоўпу". Куды б я без яе? Куды б яны без мяне? Упэўненасці дадае тое, што хтосьці калісьці ацэніць, зразумее, аддасць належнае. Зроблена шмат. "Мы установили диктатуру пролетариата, поддержанного беднейшим крестьянством, и начали широко задуманную систему социалистических преобразований". Але ўсё роўна чагосьці не хапае. Дыктатуры ці дэмакратыі? Дэмакратыі ці дыктатуры? Гэткая творчая незадаволенасць...

Вясна па-ранейшаму вар'яцее пахамі, неакрэсленымі пакуль колерамі, прагай да жыцця. Але я ўжо нічога не адчуваю. Мяне ўжо няма. Ці яшчэ не з'явіўся? Неабдымная неўтаймаваная вясна. Лес, бясконцае неба, першыя кволыя зялёныя парасткі. Ніякіх калгасаў і гарадоў з правадырамі. Ніякай дыктатуры з дэмакратыяй. Пакуль ці ўжо? Што гэта — мінулае ці будучае?..

●

Ягоная памяць бясконцая. Дзівосны паноптыкум, дзе генетычнае з падсвядомым змяшалася з вычытаным, пачутым і ўбачаным, з пажаданым і кімсьці здзейсненым. Апантанае апазіцыянерства поруч з удзячным задавальненнем любой дзяржаўнай палітыкай. Шавінізм у цесных абдымках з ваяўнічым патрыятызмам. Кунсткамера ўяўленняў, пазіцый, пунктаў гледжання. Ён разумее, што ў гэтай мешанцы — і ягонае адзінае. Але далей гэтага разумення не ідзе. Млосна, пасуе рашучасці, урэшце трывожна, а таму пакуль бессэнсоўна. Ён чакае. Чакае той святочнай зоркавай гадзіны, калі ўсё стане акрэсленым і зразумелым. Тады, натуральна, ён у чарговы раз (і дзякаваць Богу, у апошні) адкрые шафу памяці і ўпэўнена выйдзе на вуліцу не часткай прагназуемага да дробязяў натоўпу, а асобай і грамадзянінам... А пакуль ён чакае. Сочыць і канстатуе. Пасіўнае глядацкае задавальненне ад абсурднасці бясконцага жыццёвага тэатра...

### ДЗЕя?

**Дзейныя асобы:**

**Маці** *(1918 года нараджэння)* — старая, укленчаная, але пакуль жывая.

**Сын** *(1960 года нараджэння)* — яшчэ не стары, але ўжо немалады; пастаянна штосьці шукае і не знаходзіць.

**Старац** — чалавек збоку.



*Фота А. МАЦЮША*

**Карціна першая і апошняя**

*Па-ранейшаму вясна. Неяк трывожна і брудна. Дзень канае за весніцамі. Па сценах — лахманы неажыццёўленых мараў. У цэнтры — хата. На прызбе — М а ц і і С ы н. На заднім плане — будучыня. Яе амаль не бачна.*

**Маці** *(уздыхаючы)*. Дзе ж ты валэндаўся, даражэнькі?

**Сын** *(адводзячы вочы)*. Ды ўсё часу, мама, не было, каб да вас завітаць. Усё шукаў чагосьці. Спачатку зямлі. Так шукаў, што ледзьве мову не адняло. За мовай кінуўся — волю згубіў. За праўдай ганяцца спрабаваў — таксама рады не даць... Так і жыў...

**Маці.** Ці ж гэта жыццё?

**Сын.** А іншага, мама, вы мне і не наканавалі. *(Дастае з кайстры скрыпку, грае штосьці самотнае).*

**Маці.** Збалелася сэрца па табе. Досыць, сынку, па свеце бадзяцца. Досыць жыцця чужога каштаваць. Сваё наладжваць час. Жыві, дзе продкі жылі. Жыві так, як яны вучылі...

**Сын** *(адкідваючы скрыпку)*. Не магу, бачыць Божухна! Не магу, мамачка! Вы ж ведаеце, з дзяцінства крыві баюся, ад уласнага голасу на калені цаляюся, ад улады вар'яцею, ад безуладдзя канаю. Без зямлі не выжыву, з зямлёю — не спраўлюся. А з воляй што рабіць — і па сёння не ўцямлю!

*Маці ў роспачы яшчэ ніжэй схіляе галаву. З-за весніц раптоўна з'яўляецца сівы С т а р а ц. Хапае С ы н а за руку, кудысьці ўпэўнена вядзе яго. Будучае на заднім плане сцэны знікае зусім.*

**Зацямненне**

### З КІМ Я?

Сакавік. З акна сваёй трохпакаёўкі сачу, як паўдзесятка выхавацелек бліжэйшага садка выводзяць на экскурсію доўгую чараду сваіх далёка непаўналетніх выхаванцаў. Скачуць тыя рознакаляровымі шарыкамі ў калоне па двое, пад пільным вокам садаўскіх "цёцяў". Усё, быццам, як след. Але ўсё роўна сумнавата. Не, я не супраць парадку, не супраць "жорсткасці" ў выхаванні дзетак, якіх калі не дагледзець, дык разбягуцца ўмомант, як тыя мышы. Але штосьці ў душы паўстае насуперак. Штосьці генетычна вядомае перад вачыма. Шэрыя панылыя калоны напрадвесні. "Шаг влево, шаг вправо — считается побег..." Гэтак і мы, былыя акцябраты, піянеры, камсамольцы, камуністы, звыкла шыбуем немаведама куды па нявольнай эканамічнай зоне. Паспешліва мацуем еднасць дзяржавы, галасуем спраўна за ўсё, аднадушна змагаемся за ўласны дабрабыт, адстойваем да апошняга сваё беларускае. Пад пільным кантролем уласнага цэнзарства, выпрацаванага шараговым існаваннем у межах бясконцай калоны, пад уважлівым вокам засяроджаных "выхавацелек". "Шаг влево, шаг вправо..." 25 сакавіка. Як хочацца ісці не ў калоне пад "ненавязлівым" наглядам, а ў магутнай грамадзе сяброў і аднадумцаў...

Мой колішні вучань, яшчэ нядаўна заўзяты валацуга і штукар, зараз студэнт педуніверсітэта. Палітыкай не цікавіцца прынцыпова. Музыкай — так (куды толькі ні ездзіў са сваім рок-гуртом!), біялогіяй з хіміяй — так (будучы хлеб як-ніяк!), а палітыкай — ні ў якім разе.

— Вы ж казалі ў свой час, Яўген Мікалаевіч, што вучыцца трэба, каб чалавекам заможным ды адносна незалежным стаць. Вось і вучуся!

У чарговы раз чырванею ад выказаных калісьці ментарскіх банальнасцяў. Мяне таксама ад палітыкі ванітуе, але ж, у адрозненне ад Ромкі, у мяне — сям'я, і не даруюць сыны ні абыякавасці, ні прыстасавання, ні кепскага ўласнага жыцця. Ды што казаць, куды ні кінь зараз вокам — палітык на палітыку. У чэргах па яйкі і цукар, у набітым да немагчымага грамадскім транспарце, ва ўкленчаных вёсках і занядбаных калгасах ідзе зараз самае зацікаўленае абмеркаванне ступені нашай "падмочанасці" ад лужыны, у якую мы з такой гатоўнасцю калісьці селі. Прапаноў выратавання рэпутацыі — мора. Ад вырошчвання гуркоў на стадыёнах і пляцах да хутчэйшага далучэння хаця б да нейкіх Злучаных Штатаў. Прапаноў самых абсурдных— мора, спраў — ніякіх. Пад дахамі нашых розумаў упарта ідзе ціхая і не вельмі "грамадзянская вайна" пазіцый і светапоглядаў. Дахі "едуць", мы застаёмся на месцы, у звыклай ужо і па-свойму ўтульнай лужыне. Долар, здзекваючыся, па-вясноваму зелянее. Мы губляем здаровы колер твару дый сам твар ад авітамінозу і пошукаў уласнай годнасці седзячы. З паўдзесятка варыянтаў нацыянальнай ідэі, якая, як быццам, прымусіць узняцца, згуртуе і павядзе (не ўсіх, а хто захоча), становішча не выпраўляюць. Не дадаюць аптымізму супярэчлівыя, а іншым разам і супрацьлеглыя намаганні савецка-беларускай народнай адукацыі і беларуска-савецкай сям'і...

Ды і Ромку жыццёвыя абставіны вось-вось перад выбарам паставяць, нагадаюць хваравіта і прымусова, што захаванне ўласнага сумлення пры асэнсаванні свайго "Я" — рэч надта няпростая. За кім ён пойдзе? З кім застануся я? Няўжо пакуль з самім сабой? У гэтай "самадастатковасці" і маё выратаванне, і мой асабісты крах. Так, на гэтай спакутаванай зямлі мы каты і ахвяры адначасова. Мы даўно забыліся, што толькі адна ўлада не разбэшчвае ўшчэнт. Улада над сабой. Улада, заснаваная на перамозе над уласнай подласцю, сквапнасцю, няшчырасцю, над голадам і жабрацтвам. Як цяжка даецца гэтая перамога! Усё больш пераможаных, з патухлымі вачыма, з пахмельнай абыякавасцю да ўсяго, што адбываецца за межамі ўласнай кватэры. Пераважная большасць ахвяруе мінулым дзеля сённяшняга. Будучыня напаўміфічна існуе толькі ў пустых закліках і дэкларацыях. Пачуццё не кулака, а локця, не раздраю, а талакі страчваецца на вачах як недарэчны атавізм. З нешматлікіх незалежных і вольналюбных "Я" ёмістае і непадзельнае "МЫ". ўтвараецца толькі на непрацяглы час нацыянальных маніфестацый і эпізадычных палітычных акцый. У чэргах жа за маслам і ў чаканні выплаты заробкаў "Я" па адмысловых жыццёвых законах нівеліруецца да нулявога статкавага ўзроўню. Будучыня застаецца недасягальнай. На двары ўладарна пануе мінулае не ў самых лепшых сваіх праявах. Хваравітае ўздзеянне іх мы, заплюшчыўшы вочы і заціснуўшы вушы, з гатоўнасцю тлумачым непазбежнасцю патрабаванняў сённяшняга дня, жорсткага да духоўнасці і інтэлігенцкай сентыментальнасці. Круціцца і трываць трэба, маўляў, каб выжыць; вось выжывем, тады і зажывём...

Правінцыйная цётка з торбамі ў метро:

— Малады чалавек, площадь Независимости, гэта там, дзе Ленин?

Моўчкі ківаю, хаваючы твар у каўнер. Ніякавата і сорамна. Паходжанне і прызначэнне слоў "свабода", "воля" і "незалежнасць" патрабуюць тэрміновага ўдакладнення са скідкай на той самы дзень сённяшні, расцягнуты ў беларускім часе і прасторы больш як на 80 гадоў. Карыстацца дэмакратычнай лексікай усё ж дазволілі, а вось давесці што да чаго так з часам і не сабраліся. Сэрцам разумею, што кахаць, верыць і спадзявацца на вуліцах Камсамольскай, Камуністычнай і Піянерскай — усё роўна што падманваць сябе. Вуліцы Калініна, Лібкнехта, Люксембург і Цэткін уздзейнічаюць на свядомасць дакладна і мэтанакіравана. Хочацца перачытваць класікаў марксізму-ленінізму і ў чарговы раз супакойваць сябе: а мо і не

*(Працяг на стар. 12)*

Мы сапраўды вельмі блізкія да таго, каб нашы гарады ператварыліся ў сметнік Антаніёні.

Пра тое, што Л. Турбіна ўжо ідзе па гэтым шляху, нас упэўніваюць, да прыкладу, вось гэтыя радкі паэткі:

***Ветер с Невы все пьянее,***
***и запах помойки...***

Хаця адначасова нельга не адзначыць, што суседства сметніка з "ветром с Невы", як нам падаецца, выдае ўласцівую аўтару ў дадзеным выпадку некаторую долю (долечку) снабізму: так, сметнік, чаму б не, але ленінградскі сметнік, пахі якога далятаюць з ветрам — носьбітам г о л а с у. Небяспека такіх эстэцтвуючых адносін да рэчаіснасці падпільноўвае ў наш час не толькі Л. Турбіну, тым болей, што душа яе гераіні "несется в опустевших просторах".

З аднаго боку — усё гэта так і ёсць; з другога боку, у гэтай неверагоднай хуткасці, у гэтай здольнасці на рашучае "прэч" ёсць і свае несумненныя плюсы, свае перавагі, якія рэалізуюцца толькі ў тым выпадку, калі падобныя натуры маюць**сталы, нязменны** характар. Тады гэтыя перавагі выяўляюцца ў тым, што гарады і паўстанкі, людзі і кнігі, мільёны на першы погляд нічога не вартых дробязяў жыцця не ператвараюцца ў дурную бясконцасць, але ўважліва адбіраюцца беспамылковай інтуіцыяй і свядома называюцца с л о в а м, г. зн. уваскрашаюцца да духоўнага быцця.

Што ж накіроўвае ў гэтым адборы Л. Турбіну?**Любоў**. Дзякуючы менавіта пачуццю л ю б о в і ў лірыцы Турбіной тое, што не мае імені, — набывае яго, што спіць, — прачынаецца, што зледзянела — адтайвае; "далекий тайный зов" Музы робіцца блізкім і зразумелым. Але галоўны цуд, галоўная тайна — жыццё — так і застаецца для яе тайнаю, якой можна толькі пранікнуцца, а гэта немагчыма зрабіць без пачуцця л ю б о в і і да Бога і свету, да чалавека і самай маленечкай жывой істоты. Таму заканамерна, што два апошнія раздзелы зборніка "Жыццё — гэта згублены цуд" і "Далёкі водгук" амаль цалкам прысвечаны каханню, і яны ж з'яўляюцца ў мастацкіх адносінах найбольш дасканалымі.

Каханне, якое апісвае Л. Турбіна, як правіла, кароткае, кволае, і толькі памяць пра яго застаецца назаўсёды як магчымасць страчанага цуда. Згодна з лірычнай гераіняй, пачуццё любові можна толькі назваць, назваўшы — пакахаць рэальнае ягонае ўвасабленне і потым адпусціць, застаючыся яму вернай, г. зн. дазволіць каханню застацца цудам у імя не-парушэння ўсеагульнае гармоніі. ("Ты есть — случилась весть...", "Не чужая я здесь..." і інш.). У гэтай гармоніі — усё да месца — і сумка з бялізнаю для прання, і цёмная Нярыс, і матыў "Эўрыдыкі", і зрэнкі кацяняці. "Усё, што зачароўвае нас у гэтым свеце, — лясы і даліны, рэкі і горы, моры, стэпы і далей, і далей, — гарады, палацы, камяні, і яшчэ далей — нябёсы, захады сонца, завірухі, і яшчэ далей — снягі, зоркі, вецер, — гаварыў адзін з герояў Дзіна Буццаці, — усе гэтыя рэчы, якія самі па сабе стракатыя і неадухоўленыя, напаўняюцца чалавечым, людскім зместам толькі там,у што неўпрыкмет для нас яны з'яўляюцца носьбітамі прадчування пачуцця любові, кахання... Паэты больш востра, чым астатнія людзі, улаўліваюць у прыродзе гэты фатальны намёк..." Менавіта гэта здольнасць да ўлаўлівання "фатальнага намёку" — самая моцная старонка творчай індывідуальнасці Л. Турбіной.

Дыяпазон катэгарыяльнага асэнсоўвання духоўнага ў Л. Турбіной даволі шырокі — ад катэгорый новаеўрапейскай культуры да катэгорый культуры праваслаўнай.

***А мне наказ — молись усердно,***
***Пока судьба жестокосердна...***

Патрэбна вялікая любоў, — сцвярджае ў сваіх вершах паэтка, каб у пакорлівасці адмаліць не толькі свае грахі, але і грахі блізкага чалавека, які жыве ў эпоху, калі куды большай каштоўнасцю за Божы дар лічацца практычнасць, дзелавітасць, спрытнасць і г. д., г. зн. тыя чалавечыя якасці, якія вядуць да матэрыяльнага дабрабыту, славы, улады. Лірычная гераіня Л. Турбіной здольная на разуменне безумоўнага трагізму такіх адносін да свету, таму што яна ведае: Бога абысці нельга, нельга перайсці праз Хрыста і жыць так, быццам Яго і не было:

***Богооставленность свою***
***Никак в слезах не изолью.***

Адкуль жа гэтыя слёзы, калі, як сцвярджае сама паэтка: "стал мир почти прозрачен"? Мабыць, адтуль і таму, што свет стаўся амаль празрыстым, а душа блізкага чалавека — яшчэ не, і невядома, ці будзе такою; а каб зрабіць яе празрыстай, патрэбны "глаголы", здольныя "жечь сердца людей", патрэбны дар прароцтва і казання, а гэтага дару Бог не даў. Але Ён даў іншае — магчымасць абраць на жыццёвым скрыжаванні тую дарогу, якая вядзе ўгору.

**Таццяна АНДРЭЙЧАНКА**

КНІГАРНЯ

# Пра зайку з балалайкай... і не толькі

Выпадак не такі і часты, каб дарослы чалавек узяўся перачытваць кнігу для дзяцей. Асабліва — паэтычную. І зусім не для таго, каб пазнаёміць з імі сына ці дачку, а каб яшчэ раз атрымаць эстэтычнае задавальненне ад твораў, зноў парадавацца аўтарскаму майстэрству, здзівіцца, наколькі дасканала валодае ён словам, як умее аб традыцыйным пісаць ярка і непаўторна.

А такое жаданне з'явілася ў мяне — перачытаць "Зайкаву балалайку" Віктара Гардзея. Чытаў гэтую кнігу адразу па выхадзе яе ў выдавецтве "Юнацтва". І па-добраму парадаваўся таленту В. Гардзея, нават ці не пазайздросціў яго ўменню весці з малечай дыялог (нават калі твор і не напісаны ў форме гутаркі), падзвівіўся, наколькі ўмее ён адчуваць псіхалогію хлопчыкаў і дзяўчынак, як удала знаходзіць патрэбны сюжэт. Падумалася тады: няўжо не знойдзецца сярод крытыкаў ахвочых паразважаць над гэтым зборнікам, засведчыць, што такія яркія, захапляльныя кнігі з'яўляюцца не часта?

Ды нешта ніхто не адгукнуўся. Сказалася, пэўна, звычайная наша абыякавасць. А між тым...

"Зайкава балалайка" складалася няспешна, творы адбіраліся старанна, усё, у вартасці чаго ўзнікалі сумненні, "адсейвалася". А калі прыходзіла натхненне, нараджаўся цікавы сюжэт, які "прасіўся" ў твор для дзяцей, паэт адкладваў працу над аповесцю ці раманам, забываўся пра "дарослыя" вершы. А ў выніку атрымалася тое, што і мусіла атрымацца: цудоўная кніжка!

Цяпер, перачытваючы "Зайкаву балалайку", я зноў зведаў тыя ж добрыя пачуцці, якія стварылі адчуванне свята. Яно прыйшло да мяне дзякуючы, вядома ж, В. Гардзею. Нават не з адной кніжкай яшчэ раз пазнаёміўся, а як бы адразу з чатырма. Тэматычна атрымаліся як бы кніжкі ў кніжцы: "Жураўліны "будзільнік", змест якой склалі вершы аб роднай зямлі; "У бары, на гары" — сюды ўвайшлі небыліцы і пацешкі; "Добры ўнучак" — гэтым разам В. Гардзей прапаноўвае дзецям жарты; і, нарэшце, "Як Мурлыку ашукалі" — ажно дзевяць невялікіх памерам ды багатых зместам казак. Прачытаеш усе — і перад табой паўстае свет маленства — вабны, прыцягальны, у якім няма месца няшчырасці, хлусні, абыякавасці, подласці. У В. Гардзея ўсё як у сапраўднасці, нібы наяву вяртаешся ў той час, калі ўсе дрэвы былі вялікімі, а далягляд — заманлівы і недасягальны, калі здавалася, што дзесьці там, наперадзе, неба зліваецца з зямлёй і толькі трэба набрацца смеласці, выбрацца ў дарогу, і тады, вядома ж, удасца пабачыць штосьці незвычайнае, невядомае.

Віктар Гардзей піша так, што ад судакранання з яго творамі цябе не пакідае пачуццё першароднасці. Асабліва ў вершах аб прыродзе, роднай зямлі. З вершаў паўстае само зямное хараство, а малюнкі, народжаныя фантазіяй аўтара, вобразна-насычаныя. Паэт не мудрагеліць, не прагне ўразіць метафарычнай ускладнёнасцю. Ён як бы занатоўвае тое, што ў душы, а душа лірычнага героя, як самога творцы, вельмі чуйная да прыроды, а ў выніку адбываецца такое адкрыццё яе, якое магчыма толькі тады, калі на ўвесь свет глядзіш праз прызму нечаканасці і непаўторнасці.

Для падмацавання гэтай думкі можна прывесці шмат прыкладаў. Цяжкасць іншага шэрагу: хоць бы не прапусціць нешта істотнае, бо выпадковага ў кнізе якраз і няма. Але і пры гэтым можна адшукаць самае-самае, куды, несумненна, просіцца і верш "Малочны туман", які хочацца прывесці цалкам, тым больш, што ён, як і пераважная большасць іншых, невялікі: паэт надзіва лаканічны і чытацкай увагай не злоўжывае:

***Вербалозы і ракіты***
***Зелянеюць над вадой.***
***У нізках туман разліты —***
***Белы, быццам сырадой.***

***Малако туманных раніц***
***Сонца п'е каля ракі,***
***І таму ў яго румянец***
***Не сыходзіць са шчакі.***

Малюнак атрымаўся вельмі пераканаўчым, хоць, як на першы погляд, вобразнасць крыху не "дзіцячая". І сапраўды, сёетое, магчыма, трэба хлопчыку ці дзяўчынцы і патлумачыць, каб дзіця лепш адчула вобразную насычанасць твора. Але гэта і добра. Вершы, падобныя "Малочнаму туману", актывізуюць мысленне малых, адначасова яны дапамагаюць наладжванню больш цесных кантактаў паміж дзіцем і дарослымі. Пра нешта пытаючыся, яно лепш спазнае навакольны свет, адкрывае для сябе яго таямніцы. Тым самым узмацняецца пазнавальна-выхаваўчы аспект твора. Як і ў вершы "Лось": "Лось бязрогі выбег з гаю, Дзе звініць птушыны грай. Пастаяў на полі з краю І назад пабег у гай. След панюхаў ля дарогі, Затрубіў і ў смутку сціх. Лось згубіў у снежні рогі І цяпер шукае іх".

Дзякуючы В. Гардзею, дзеці ўпэўняцца, наколькі ў прыродзе ўсё ўзаемазвязана, як у ёй нічога лішняга, а ўсё да месца. Пра гэта і верш "Мухамор і мурашы": "— Кепска мне На свеце жыць, — Мухамор Пачаў бубніць. — Доля горкая мая. Ну, каму патрэбны я? — Не бядуй! — Тут у цішы Запішчалі мурашы, — Парасон твой Кожны раз Ад імжы Хавае нас".

А яшчэ ў творах В. Гардзея (у тым ліку і ў "дарослых", як паэтычных, так і празаічных) прываблівае тонкі, дасціпны гумар. На такую ўсмешку здатны чалавек назіральны, кемны. Але адной кемнасці і назіральнасці мала. Трэба мець за душой запасы мудрасці, дзякуючы якой кожная, нават самая маленькая з'ява ці выпадак даюць магчымасць зірнуць на іх нібы паблажліва. Маўляў, я і так магу ўсё ўспрыняць, а ты ці здатны на гэта? Як у вершы "Часнок". Рос часнок наградзе, "мерз у непагоду", а таму і "тонкі быў". А потым... "Ды вось чаго Сталі пухнуць шчочкі? Паглядзелі, а ў яго Выраслі зубочкі".

І яшчэ куды больш досціпу ў вершы "Зайчыкавы ноты":

***У музычнай школе***
***Зайчык дзень прабыў.***
***— До-рэ-мі — фасоля! —***
***Ноты ён вучыў.***

***Потым ля загона***
***Рваў струкі за трох***
***І спяваў натхнёна:***
***— До-рэ-мі — гарох!***

Дарэчы, Заяц прысутнічае і ў многіх іншых творах. Нездарма ж кніжка называецца "Зайкава балалайка", а назву ёй дала адна з казак В. Гардзея. У ёй паэт арыгінальна тлумачыць малечы, чаму зайцы спяць з адкрытымі вачыма. Аказваецца, зайкаў брат абяцаў яму купіць балалайку. Ды як паехаў ён у горад, не адна вясна мінулася, а брата няма і няма:

***У лагчынцы прыдарожнай***
***Зайка спіць цяпер трывожна.***
***Спіць з адкрытымі вачыма:***
***"Можа, брат праедзе міма?"***

Пра яшчэ адну адметнасць зайца можна даведацца з верша "Зай, які лічыў варон". Быў гэты зай вучоны, таму і вырашыў неяк палічыць варон, але спатыкнуўся, упаў, рассек губу: "Звалі доктара сарокі, Ды ў ад'езьдзе доктар быў. Небарака ж касавокі Рану кепска залячыў. У сябе над галавою Зай не лічыць больш варон, Бо з раздвоенай губою І сягоння ходзіць ён".

А яшчэ ёсць у кніжцы казка "Куртаты зай", вершы "Белячок", "Даўгавухі зайчык", "Зайцаў хлеб"...

Дзіву даешся паэтавай фантазіі. Радуешся яго ўменню "пісаць для дзяцей, як для дарослых, але яшчэ лепш". А поруч з зайцам жывуць і іншыя персанажы, добра вядомыя дзецям, вядома ж, кожнаму прысвечаны твор — "Змяя і вожык", "Кот і крот", "Хітры ліс", "Леў", "Каза", "Хворы коцік", "Мядзведзева лапа"... І, як правіла, у кожным творы В. Гардзей знаходзіць непрыкметны "паварот", які спрацоўвае, і тады адразу з'яўляецца тое нечаканае, што робіць верш вершам. Для прыкладу: "Конік-спартсмен". Звычайны лугавы конік выбег на трэніроўку: "Над рачулкай луг зялёны Рады сонечнаму дню. Конік выйдзе ў чэмпіёны Па скачках у даўжыню!"

Сапраўднае свята прынесла мне сустрэча з кнігай В. Гардзея "Зайкава балалайка". Тым больш радаснай гэтая сустрэча будзе для тых, хто возьме яе ў рукі ўпершыню.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Адрасаты яе любові

Помню яе — вясёлую і задуменную, радасную і засмучоную — артыстку тэатра "Жывое слова", удзельніцу нашых частых выступленняў у школах (гэта ўжо па лініі літаратурна-творчага гуртка "Крокі"). Помню яе вершы пра дзяцінства, маміны дранікі, на якія яна так ахвотна, так часта спяшалася папраўдзе і ў вершах. Нязменна верыў у яе зорку. Ведаў, што будзе нялёгка ёй, такой адкрытай і сумленнай у жыцці. Пасля дачуўся, што амаль так і сталася: асабістая драма (а можа, трагедыя), памянянае месца працы...

І вось сустрэча праз многа гадоў. На прыпынку электрычак "Інстытут культуры" — яна, Вера Буланда. Настаўніца. З дзеткамі з Барысава — вазіла іх на экскурсію ў Брэст. Тая ж, што і раней. Цяпер яшчэ і паэтка. Падаравала мне сваю тоненькую, са строгай вокладкай, з прачула-шчырай назвай-позвай кніжку "Не магу без цябе...", выдадзенную прыватным чынам у Барысаве...

Адразу зачэпліваюся за загаловак, пачынаю шукаць у тэксце (у розных тэкстах) адказу на пытанне: "Без чаго ж не можа жыць маладая паэтка?". У адным, другім, трэцім вершы — розныя адрасаты: каханы, мама, дзяцінства, родная вёска, што згубілася між лясоў, малая і вялікая радзіма, Беларусь. І кожны адрасат паўстае ў арэоле таемнасці, нейкай першароднай светласці і дабрыні.

Іскры сапраўднай паэзіі, адкрытага болю і радасці шчырага пачуцця палымнеюць, не згасаюць у вершах, дзе адрасат — сама прырода. Часта яна бруяе, як састаўная частка, у інтымных вершах, перакрыжоўваецца са спавядальнымі імпрэсіямі пра перажытыя сустрэчы. Як, да прыкладу, у цудоўным вершы "Рада". Пейзаж і каханне, каханне і пейзаж — пачуцці непадзельныя ў лірыцы В. Буланды.

***Туманам сляпым ахіну я***
***Свае гарачыя плечы.***
***І травы зашэпчуць "лілую",***
***А дрэвы запаляць свечкі.***

*("Рада")*

Маці, матчына калыска, родная вёска і безыменная рачулка — адрасаты, героі яе паэзіі. Маладая паэтка і тут гаворыць сваё слова. Яе мама запамінаецца ўпісанай у вясновы ранак, у жытнёвыя каласы, у родныя і блізкія сэрцу бярозкі. Мама, тры бярозкі, ганак, каласы — чатыры вобразы-промні сцягваюцца ў адну светлую кропку і ў сваёй гарманічнай еднасці сімвалізуюць само жыццё. І таму не менш натуральнай сярод падобнай натуральнасці з'яўляецца постаць маладой дзяўчыны — у бегу, у ранні час, з босымі нагамі, якія цалуюць-песцяць росы:

***Бягу ізноў насустрач пазаранку,***
***Купаю ногі босыя ў расе.***
***І бачу маму, як заўжды, на ганку,***
***І сёстры дома, і браточкі ўсе.***

*("Не здраджу")*

А яшчэ вобраз мамы — гэта і вобраз самой лірычнай гераіні. Ён — працяг мроі пра тую, што даравала жыццё, новы вітох развіцця на гэтай аснове святой пяшчоты, святога абавязку — захінаць-затульваць родных дзетак ад бяды.

Вершы В. Буланды — маленне на Дабрыню, вернасць краю, дзе нарадзілася, якія высвечваюцца якраз у лірыцы кахання, любві да маці, да прыроды, да басаногага дзяцінства. Час ад часу паэтка імкнецца пераадолець сваю, скажам так, "камернасць", замахнуцца на псіхалагічны аналіз таго, што адбываецца ў душы лірычнай гераіні, але тут яе падсцерагаюць пэўныя выдаткі. Звычная выказвацца ціха, пяшчотна, яна раптам збіваецца на крык, на лозунгавасць, нібыта не давярае свайму ўнутранаму голасу. Вершы "Хто там плявузгаў...", "П'янства", "Без меры", "Ці варта", "Вечнасць" — гэта, на жаль, дэкларацыя прапісных ісцін, у іх шмат лозунгаў і маралізатарскіх сентэнцый.

Захопленая гучнаспеўнасцю, паэтка растрачвае сілы, свой божы дар на сцвярджэнне агульнавядомых ісцін. Чуццё сапраўднай мастацкасці нібы страчваецца: "Жывіце, людзі, для людзей, Для чалавека, не для рэчы. Жывіце мірна і часцей Вы усміхайцеся сустрэчным" ("Для людзей"), "Якое хто прыдумае, нарэшце, пакаранне — Без жартаў і пазёрства аб'явіць п'янству бой" ("П'янства"), "Сапраўдных вартасцей так многа. Каб толькі гэта ведаць нам" ("Ці варта").

Можа, падобны "грэх" — ад паспешлівасці, непатрабавальнасці да слова, да ацэнкі яго вартасцяў?

А паэтка яна, несумненна, таленавітая. Пра гэта красамоўна гавораць спробы жанравага, стылявога эксперыменту ў зборніку — тут ёсць песні, санеты, акравершы, таўтаграмы, нават віралэ...

**Мікола МІШЧАНЧУК**



## ЧАСАПІС

## "Веча славянскіх балад"

Шчаслівы лёс у гэтай кнігі Янкі Сіпакова. Раней яна выходзіла двойчы. Першае выданне з'явілася ў 1973 годзе. Другое, дапоўненае, пабачыла свет у 1988-ым. Менавіта за "Веча славянскіх балад" Іван Данілавіч у 1976 годзе быў удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР. Нарэшце, многія творы з "Веча..." уваходзілі ў зборнік яго выбраных твораў "Вочы ў вочы" і нядаўні двухтомнік. А яшчэ асобныя балады можна прачытаць у калектыўных зборніках, хрэстаматыях. А цяпер вось балады ладзяць "веча" ў серыі "Школьная бібліятэка" — кнігу выпусціла выдавецтва "Беларуская навука". Па

ЯНКА СІПАКОЎ

ВЕЧА СЛАВЯНСКІХ БАЛАД



традыцыі на чацвёртую старонку вокладкі такіх выданняў выносяцца найбольш характэрныя выказванні каго-небудзь з крытыкаў, літаратуразнаўцаў ці тых жа паэтаў, празаікаў. Цяпер слова ўзяў Уладзімір Караткевіч. Яго радкоў дастаткова, каб упэўніцца ШТО ТАКОЕ "Веча славянскіх балад": "Гэтая кніга ўся — агалены нерв. Гісторыя пакуты. Прычым не толькі гісторыя пакуты македонца, беларуса, рускага, славенца, а і ўвогуле гісторыя пакуты Чалавека, імя якому Славянін... Гэта дужа беларуская рэч, нягледзячы на прысвячэнне той ці іншай балады таму ці іншаму народу". А ў якасці прадмовы да кнігі ўзяты артыкул У. Караткевіча "Справядлівасць". "Роздум над "Вечам славянскіх балад" Янкі Сіпакова", як пазначана ў падзагалоўку артыкула, У. Караткевіч напісаў у 1977 годзе.

Я. Сіпакоў амаль трыццаць гадоў назад, калі ў яго нарадзілася задума "Веча...", засяродзіўся над пытаннямі, якія сёння ўсё больш авалодваюць беларусамі: "Хто мы, адкуль мы прыйшлі, куды мы ідзём?" Тады задумаўся, калі многіх паэтаў (і не толькі паэтаў) хвалявалі іншыя, куды больш ідэалагічна выйгрышныя тэмы. Прадчуваю, як чытач, які знаёмы з "Вечам..." запярэчыць, але ж і кніга Я. Сіпакова пачынаецца баладай "Дасвецце", у якой "Ленін спяшаецца ў Смольны, //Дзе яго чакае працоўны Савет..." А трэцяй стаіць балада "Камуніст". Тым, хто зацыкліўся на неўспрыманні чырвонага колеру, ці прытрымліваецца колішняга лозунга "разбурэння старога свету", хіба пад іншымі лозунгамі, наўрад ці ёсць патрэба нешта даказваць. А іншым хацелася б параіць, а вы ўважлівей перачытайце кнігу і тады лёгка ўпэўніцеся, што гэтыя балады ў "Вечы..." вельмі да месца. Бо за імі (і ў іх) таксама наша гісторыя. І гісторыя славянства, і гісторыя Беларусі. Паэт, узяўшы за пачатак XX стагоддзе, пачынае, кажучы словамі У. Караткевіча, "каласальны віток", зазіраючы ў саму глыбіню стагоддзяў. Тады У. Караткевіч пісаў: "І кніга гэта добра паслужыць людзям і Беларусі". Хіба застаецца дадаць: "І людзям новай, суверэннай Беларусі". А яшчэ не лішне сказаць, што было б вельмі добра, калі б яна стала свайго роду падручнікам у пазашкольнай рабоце настаўнікаў з вучнямі. У выданні прадстаўлены таксама паэмы ў прозе "Одзіум", "Хата", "Экстаз", у якіх асэнсоўваецца чарнобыльская трагедыя, гаворыцца пра Т. Шаўчэнку і А. Пушкіна.

Лявон ЮРЧЫК

## Вам, дзятва

Выйшла трэцяя кніга лідскага паэта і празаіка Віктара Бачарова "Калі адзвінеў званок". Аўтар працаваў грузчыкам, будаўніком, аператарам кацельні, арматуршчыкам, камсамольскім работнікам і вось ужо 25 гадоў працуе на ніве асветы, 13 з іх — дырэктарам СШ N 13 г. Ліды.

У кнізе дзве аповесці. У першай "Калі адзвінеў званок" падзеі адбываюцца ў вёсцы, дзе сустракаюцца гарадскія і сельскія школьнікі, а другая "Ура, лагер працы!" напісана ў форме дзённіка галоўнага героя, які знаходзіцца ў выязным лагеры працы і адпачынку ў калгасе.

З'явілася гэтае выданне дзякуючы падтрымцы спонсараў. А пераклалі кнігу на беларускую мову мясцовыя паэтэса Марына Масла і празаік Лілея Сазанавец.

Таццяна СІНЦОВА

ПАЭЗІЯ

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК



# Ірландыя

Ахвярую арфе

1

*Сініца-адамант, на твой далёкі спеў*
*Ляцеў я, да любых дзівос гатовы;*
*У Дублін трапіў і цябе займеў, —*
*Купіў у нейкім закуце партовым.*

*Мог не купляць, але ў тваіх вачах*
*І ў крылцах, што амаль спазналі стому,*
*Я прачытаў мне зразумелы страх:*
*"Не купіш — дык не вернешся дадому!*

*І давядзецца (Божа, сцеражы!),*
*Не маючы ні ласкі, ні прытулку*
*І роднае не маючы душы —*
*Бадзяцца век па Джойсавых завулках;*

*І давядзецца нерваў карані*
*Выкідваць долу пры жабрацкай місе;*
*Прасіць, як міласціну, дзень пры дні*
*У Патрыка святога: заступіся;*

*Прасіць-маліцца*
*й на крыштальны цуд*
*Былой выратавальнай акавіты,*
*Чакаючы збавення ад пакут*
*Пад вязам дублінскім*
*святой Брыгіты..."*

*Страх эміграцыі —*
*мой непазбыўны страх,*
*І каб не апынуцца ў эмігрантах,*
*Схапіў цябе і сціснуў у руках, —*
*Фальшывым засцярогся адамантам,*

*Прыкінуўшы: калі з усіх канцоў*
*Гнёт безграшоўя сцісне па вяртанні,*
*Цябе я здам аж за мільён зайцоў*
*У біжутэрыю "Цэнтральнае кнігарні".*

2

*Сініца-адамант, але чаму я тут?!*
*Няўжо свае апошнія даляры*
*Я выкінуў, каб нейкі ўбачыць цуд*
*У Дубліне, — аб чым бясконца марыў?!*

*Вядома ж, не...*
*Не марыў ні аб чым...*
*Узбуджаны самотай ідылічнай*
*Узяў квіток паветраны і з ім*
*Уцёк сюды ад звыкласці лірычнай.*

*Мог выбрацца зусім у іншы бок;*
*Ірландыя ж узнікла выпадкова,*
*Найперш таму, што авіяквіток*
*Быў упрыгожаны арфічнаю падковай.*

*А я люблю, люблю знаходзіць скрозь*
*Празрыстай арфы звонкую выяву,*
*Бо ў той выяве сонечнае штось*
*Пяе мне, што спакой вышэй за славу.*

*Спакоем жа, як марнасцю самой,*
*Я быў багаты ля білетных касаў,*
*І гэта вызначыла выбар мой,*
*Куды ляцець з імперыі калгасаў...*

*У самалётнай самапахвальбе*
*З нядаўняга кахання смешкі строіў*
*І павучанне рыфмаваў сабе*
*Не як паэт, а як цынічны стоік:*

*"Ты з арфаю жыві, не лямантуй,*
*Шчаслівы, што забыўся пра жанчыну,*
*Перад якою гнуўся, як халуй,*
*У кожную гадзіну і хвіліну.*

*Ты быў анёлам, лёкаем, слугой,*
*Але найперш ты быў яе паэтам,*
*Ды лёсу дзякаваць, што розум свой*
*Да самай рэшты не згубіў пры гэтым!*

*Занятак слаўны —*
*што тут ні кажы! —*
*Занятак варты вартага мужчыны*
*Забыць зусім, да холаду ў душы,*
*Пустое хараство пустой жанчыны..."*

3

*Сініца-адамант, няхай арфічны шоўк*
*Арфічным упіваецца ядвабам;*
*Я ў Дубліне зялёны дом знайшоў*
*Паміж царквою і вясёлым пабам.*

*На міг здалося — гэты дом даўно*
*Атулены рахункам крэдыторскім,*
*Авеяны паветрам казіно*
*І славалюбствам змучаны акторскім.*

*На фрызе бард, паранены стралой,*
*Аплакваў мармуровай песняй страту*
*Мінуўшчыны, паэзіі былой*
*І розуму зямлі — арыстакратаў.*

*Непадалёку дыхала, жыла*
*Уся раскоша хваль Мананаана,*
*І — мроілася, — нібы цень ад шкла,*
*Сінеў партрэт паэта Асіана;*

*Струменіліся ў струнныя шаўкі*
*Валынкі плач і водар канюшыны,*
*А ў паб натоўпам беглі маракі...*
*Па дзве, па тры —*
*ішлі ў царкву жанчыны...*

*Зялёную гадзіну ў доме тым*
*Спаборнічалі юныя арфісты, —*
*Пасля выходзілі на ганак па адным*
*І гаманілі з лонданскім прысвістам.*

*Ірландыі маленькія сыны...*
*Ніхто не навучыў іх мове гэльскай,*
*Таму ім па-ангельску сняцца сны*
*І па-ангельску лаяць ім ангельцаў.*

*І ў пабе (па-ангельску ж!) маракі*
*Спявалі: "Мэры муж кахаць не можа!*
*І раз ужо нягеглы ён такі,*
*То беднай Мэры кожны*
*з нас паможа!.."*

*(Мне сумна...) Ці ірландскай мы крыві,*
*Ці людзі на балоце там якія,*
*Аднак жа мы аднолькава глухія*
*Да гукаў родных... (Божа, барані...)*

*Каб гукі родныя не зніклі назусім, —*
*Павевы-шолахі і скрыпы-рыпы, —*
*Напэўна ж, паклапоцяцца аб тым*
*Нямыя дрэвы і нямыя рыбы.*

4

*Сініца-адамант,*
*я ў парку Стывенс-Грын...*
*І — "што далей?" —*
*любімае пытанне*
*Бунтуе кроў, нібы адрэналін,*
*І верыць прымушае ў пакаранне.*

*За праўду будзе кара?! За ялей?!*
*За Беларусь, што ў полечцы-трасусе...*
*Любімае пытанне "што далей?" —*
*Галоўнае пытанне Беларусі...*

*Сініца любая, магчыма, ты адна*
*Трывалая да старасці надзея*
*На клопат боскі, на глыток віна,*
*На стрэл дуэльны ў пошлага сугнея.*

*Я ведаю, ты запяеш савой*
*Над санкамі, прыбранымі ў рагожы,*
*Калі прастрэленай навылет галавой*
*Ён тыя санкі раптам упрыгожыць...*

*Каму — даліна, а каму — турма,*
*Галеча без адхлання-шкадавання,*
*Бяссонная жабрацкая сурма*
*Гучацьме ад світання да світання.*

*Пад гэтае сігнальнае выццё,*
*Каб выжыць, свае мерачы этапы,*
*І мне маё ласкавае жыццё*
*Падорыць іклы воўчыя і лапы.*

*Тады, сябе не помнячы... Тады*
*З дубоў авечых у адно імгненне*
*Здзяру я залатыя жалуды*
*І залатое выгрызу карэнне...*

*І быццам у чаканні тых часін,*
*Якія будуць бедныя на вершы,*
*Адпачываў я ў парку Стывенс-Грын,*
*Гадзіны дзве на лаўцы адсядзеўшы.*

5

*Сініца-адамант, я сніў славянскі снег,*
*Яго піла ірландская адліга,*
*І ў той адлізе гінула навек*
*Бясконцая славянская інтрыга.*

*Расія клікала, — я не хацеў туды,*
*Прыеліся імперскія прысмакі;*
*Не правакуючы нервовае нуды,*
*Маўчала Польшча — малайцы, палякі.*

*Расія-азія, расцісні кулакі,*
*Вучыся мудрасці нямога панавання,*
*Каб мог я вандраваць у два бакі,*
*У два бакі цудоўнага маўчання;*

*Каб мог адчуць і ў міг апошні свой,*
*Што светам не пакінуты і Воляй;*
*Каб мог спакоем, як вадой святой,*
*Сябе крапіць — і чым далей,*
*тым болей;*

*Хаваючы крапідла ў рукаве,*
*Каб мог па Менску навіну развесіць:*
*"Шчаслівы той паэт, які жыве*
*На Францысканскай 3, кватэра 10.*

*Прыходзьце і за сходную цану,*
*А то й за так, як чалавек зычлівы,*
*Да разумення вас я павярну,*
*Як адчуваць сябе штодня шчаслівым...*

*"Штодня шчаслівым..." —*
*гэта ўжо найперш*
*Патрэбна кожнаму, як сон трывалы,*
*Хоць шчасце — шчасце нашае, як верш,*
*Недашаптаны бронзаю Купалы.*

11 сакавіка 1999 г.



Фота А. МАЦЮША

ПРОЗА

Алесь МАСАРЭНКА

# ДЫЯЛОГІ, АПОВЕДЫ



## Удзячны калодзеж

— Помніцца тэй наш калодзеж... Адзін на ўсю вёску быў. І такі ўдзячны: выберуць ваду, пастаіш — і яна зноў набяжыць па жылах. Тры ключы ў ім... І гэта ж твой дзед Андрэй патрапіў так: акурат падземную крынічку ўскрыў!.. Во, такей калодзеж загацілі, закідалі ламаччам. А ўсё, што не на вуліцы, кружна хадзіць па ваду. Але ж і вадзіца — смачная, дужа смагу збівала: ужадобку глынеш — і сухомы ў горле, горкай сцятасці як не было!

— Мне гарбата на той вадзе падабалася... Нідзе яшчэ падобнай не піў.

— Ці толькі гарбата!.. Што ні згатуеш, і ўсё смачнае... Помніш, якія хлябіны з пшанічнай мукі пякла?.. Смак хлебу вада надае.

— Яшчэ б не помніць... Ой, мама, не будзем успамінаць, бо хачу той гарбаты з тым тваім белым хлебам.

— Скібачку канаплянай тоўчанкай прыцерусіў, кусаеш — і гарбаткі глыток, і толькі з мелісай каб, мятай ды зверабоем, але — без чабору...

— А чаму так?.. Пчолы на чабаровы цвет дападныя, ён багаты на мёд.

— Чабор у нас тут не ўжываюць — ім усцілаюць труну ды набіваюць падушку, каб нябожчыку мякка спалася на тым свеце... Так спакон веку было...

## Антыподы

— Националиста не исправишь... Он хуторянином родился и хуторянином умрет. Сталин был прав в национальном вопросе, нисколько не ошибался.

— Дык ты, значыць, інтэрнацыяналіст?

— Именно... И знаешь, мне все равно, где жить: в Белоруссии или в Англии, Канаде или в Нидерландах...

— І ў Чачні — таксама?

— Чечня — это Россия... Я так понимаю.

— Я правільна зразумеў: у Расіі не хочаш жыць?..

— При Сталине — да, согласен... А вот при этих руководителях — меня туда на цепи не затянешь... Самоеды.

— Дзякуй за шчырасць... Дык вось, па-мойму, твой інтэрнацыяналіст, а гэта і ты сам, — духоўна ўбогі, варты жалю пярэварацень з сэрцам здрадніка і дарэшты выпетранай душой, слізнякбяздума, які самахоць, па дурноце сваёй пішчом лезе туды, дзе ён і блізка непатрэбны... Па-простаму — пад усе бочкі шпунт.

— Да тебя, землячок, пора в психушку сожать... Ты ненормальный.

— Дзякуй Богу, што не такі, як ты.

## Шэры кот

Ён штовясны й штовосені так паляваў: залезе на дрэва, упадабанае цецерукамі, схаваецца між вілакоў і чакае, пакуль не даможацца свайго... Цецерукі аблепяць крону, чуфыкаюць, заходзяцца ў спеве, а мондры котка ўхопіць тым часам блізшага птаха і падае з ім уніз, на траву. Дзіўна, цецерукі нават і не ўспалошацца — як спявалі, так і співаюць... Па ўсім відаць, ім здавалася, што калега проста па сваёй ахвоце зляцеў.

Паляўнічы, ад якога пачуў я гэтую показку, спачатку намерыўся быў застрэліць ката-браканьера, як ён сказаў. Стрымала тое, што кот не стаў жэрці цецерука, а некуды падаўся з ім. І паляўнічы мусіў прасачыць...

Дык вось, здабычу кот прынёс дахаты й паклаў на ганку. Гэта быў хутар, дзе жыла сям'я смалакопа Івана Дробкі, аднаасобніка, да якога так і не дацягнулася "калгасная рука" — улады гвалт не сталі чыніць, бо інвалід вайны, а сам ён адмовіўся перабірацца ў вёску, падшукаў работу ў дзяржаўнай структуры. Чым, зрэшты, і ганарыцца. Роўна як і сваім катом Есіфам.

## На схоне маладосці...

Пазнаёміліся яны падчас работы ў падшэфным калгасе. Ён — навaспечаны інжынер-механік. Яна — студэнтка-завочніца тэхналагічнага інстытута, рабіла на тым жа заводзе, дзе і ён, у аддзеле забеспячэння. Тут, у вёсцы, яны сустракаліся штовечар: хадзілі ў мясцовы клуб на танцы, у кіно. За дзень да ад'езду ў горад падаліся ў лес па грыбы, заблукалі й выйшлі позна ўночы на лугавіну, атуленую кустоўем. Заначавалі ў стажку сена...

І ўсё, на тым і расталіся. Прызначылі, праўда, сустрэчу, але так сталася, што не спаткаліся — яго тэрмінова прызвалі на вайсковыя зборы.

Пасля, здаецца, яны й зусім забылі адно аднаго, ён абзавёўся сям'ёй, яна — таксама. Часам і яна, і ён згадвалі той незвычайны начлег, але, як правіла, без усмешкі не абыходзілася: трэба ж, адно гаварылі, гаварылі... Аб чым? Ні ён, ні яна ўжо не помнілі зместу той іх размовы ў стажку — аб нечым, відаць, нязначным баялі, калі нічога не запала ў памяць, абмінула душу...

І вось — лёс нечакана зноўку іх звёў. Выпадкова, на схоне маладосці сустрэліся ў адной з абласных гасцініц. Запознелае спатканне сэрцы прынялі жадана, прагна...

Наіўнае, блазенскае імгненне — зыркі водбліск успомненай узаемнасці.

## Лыч на патэльні

Прыслалі з Расіі ў заходнебеларускую вёску двух настаўнікаў. Мужа і жонку. Яны нядаўна, якраз перад размеркаваннем, пабраліся, абодва маладыя, і дзяцей яшчэ ў сваім шлюбе не нажылі.

У гэтай вёсцы, вялікай, са школайдзесяцігодкай і бальніцай, жыла адзінокая жанчына. Муж яе быў за польскім часам жаўнерам-пагранічнікам, загінуў ад кулі савецкага лазутчыка, і ўдавіца, калі гаварыць шчыра, ненавідзела рускіх, а тут — згадзілася ўзяць да сябе на пастой гэтую маладую пару...

Праз колькі часу пра "яе" маскалёў ведала ўся вёска — і хто яны, і адкуль, і што ложак, хоць і жалезны, так расшасталі за якія месяц-два, што ўжо хутка разваліцца. Яны абодва — гарадскія, нібыта ажно з самага Курска. Адзін — гісторык. Гэта ён. А яна — біёлаг. Адукацыя ў іх, вядома ж, вышэйшая...

І вось неяк гэтая маладзічка-біялагіня з'ездзіла на райцэнтраўскі базар і купіла... свіны лыч! Ну прывезла — і добра, відаць, халадца ім захацелася.

Назаўтра гаспадыня бачыць, што кватарантка зусім не так, як трэба, уходжваецца з лычом — усклала ўвесь цалкам на патэльню дый сунула ў печ на палымнеючае вуголле...

— Зоя Іванаўна, гэта ж хто і калі свінячы лыч смажыў? — не ўтрымалася ад здзіву гаспадыня.

— Как — кто?.. Я вот взялась... Петя любит поджарку.

— Дык вы купілі б дзеля гэтага кумпячок... А не — пячонку.

— Не было печенки...

— Вы дастаньце-такі лыч. З яго добры студзень атрымаецца.

— Важданины с ним много, с этим вашим студнем... Петя поджарку заказал.

— Ну калі заказаў, то — смажце... — Гаспадыня зняла фартух, выцерла ім рукі й прайшла ў сенцы, з сенцаў — на агарод.

Яна не стала замінаць Зоі Іванаўне гатаваць для свайго Пеці смажаніну са свінога лыча.

## Нічыйны конь

1931 год... Ведама ж, у калгас заможных сялянаў цягнулі насілкам, і некаторыя з іх жывёлу рэзалі на мяса ці проста выпускалі на волю, абы не дасталася калгасу... Асабліва людзі шкадавалі коней сваіх: маўляў, у абагуленым хаўрусе ім дрэнна будзе, заездзяць. І нічыйных коней, пакінутых, па тым часе напаткаць можна было дзе заўгодна...

Убачыў такі конь лесніка, ідзе следам, рэгча — быдта гаворыць: "Прыпуці ты мяне, міл-чалавек, буду служыць табе верай і праўдай... Гэтулькі бадзяюся адзін, ваўкі задушаць, і які толк з таго будзе людзям? Аніякага!"

Ляснік абрытаў каня, завёў як найглыбей у чмурэчу, зрабіў з тапорніку будан, сена накасіў... І стаў на тым кані калодзе на продаж цягаць. Пры дарозе ў кустоўі схавае дзве-тры каладзякі, затым і прадае... Аднаму пакупніку так, прыкладна, казаў: "Везлі даўжанскія мужыкі бярвёны... Крывалы зламаліся, а ўжо цёмна, не начаваць жа ў лесе, от і пакінулі... Сказана — не сваё. Сам бачыш, якія лясіны дабрэнныя, ды паляжаць не акораныя колькі месяцаў — і хана ім, шашаль абалонь зрашэціць так, што ўжо не кожны й на дровы захоча ўзяць... От, я і надумаў прыбраць іх з вачэй, пакуль свежыя..."

## Мудудай

Недзе пасля вайны гэта было... Карова падавілася бураком, давяліся прырэзаць. Мяса засалілі, у кадоўб склалі. Што са шкурай рабіць? Занесці й здаць?.. Гаспадар (яго звычайна называлі па мянушцы: Мудудай) з'ездзіў у раён і пацікавіўся, колькі тых грошай атрымае. Ажно столькі, што нават самому на боты не хопіць, а ўжо каб жонцы ды дзецям хоць на якія буркі перапала, дык пра гэта і казаць не варта. Вырашыў каровіну шкуру занесці ў торхвішча, пакласці ў дрыгвяністую багну, каб поўсць вылезла, і потым зрабіць або выцяжку на боты, або цалкам пусціць на лапціскуракі, якімі можна ўсю сямейку забяспечыць... І як жа ён абурыўся, калі ўбачыў, што ад вялікай скуранoй посцілкі застаўся адно нейкі шматок — воўк як не ўсю зглэмзаў. А ён, Мудудай, калі немцы адступалі, знайшоў у пакінутай імі зямлянцы падсумак, і там было некалькі маленькіх мін-іголак. Такую міну можна ўдзёўбаць у дрэва, чапляць за чаку дрот і рабіць расцяжку — на дарозе, на мосце або дзе ў хаце. Зручная міна, як і ўсё іншае ў немцаў...

І такі адпомсціў ваўку — удзяўбнуў міну ў пень, да чакі прывязаў той самы скураны недаедак, і воўк у наступную ж ноч падарваўся...

Мудудай здаў воўчую шкуру і атрымаў за яе пяцьдзесят рублёў, купіў сабе і жонцы кірзавыя боты, а дзецям — сандалікі.

## Сукарадзь

Слоўца гэтае, як мне здаецца, нават больш чым каларытнае... Так некалі гарадзілі, у сукарадзь, без цвікоў і дроту: сперш заганяюць у зямлю — адзін пры адным — два калы, лазовымі вітамі пераплятаюць іх унізе, пасярэдзіне і ўверсе, на віты кладуць жэрдкі... Звычайна селянін абгароджваў такім плотам увесь свой падворак і прысядзібны надзел.

На Каляду гаспадар браў тапор, адсякаў з плота-сукарадзі віту, наколькі можна было распрамляў, і выганяў ёй з хлява карову; лёгка сцёбаючы, прыгаворваў: "Хадзі, кароўка, панадворкам і вакол яго, віся, як гэтая віта, і нікуды далёка ад пуні не сыходзь".

## "Санітары"

Глыбокая восень... Снежныя хмары вісяць зусім нізка над лесам.

Прыйшлі ў Жалезінку, канешне ж, каб налаташыць грыбоў — бацькава ініцыятыва, бо ён колькі дзён таму прынёс адсюль паўнюткі кош крамяна-тлустых зялёнак.

І як жа мы былі здзіўленыя, калі ўбачылі, што менавіта ў гэтым урочышчы — так, чамусьці толькі тут! — выпаў уначы, як не па забарсні, пухкавільготны снег. І ўжо хацелі "паварочваць аглоблі" назад, ды бацька ўглядзеў на снезе не проста ланцужкі слядоў лясных насельнікаў, а цэлыя кругловіны-вытапты... Ён і стаў паказваць мне, як ваўкі палююць на дзікіх казуль, нішчаць іх, пакуль тыя не схуднелі ад бяскорміцы. Вось, двое драпежнікаў — гэта ўсё добра відаць на слядах — засталіся ў засадзе, а тройца (загоншчыкі) усчалі пагоню. Казулі нейкі час трымаліся дружна, купкай — кружляюць соснікам у спадзеўцы згубіцца ў гушчэчы, хітруюць, каб неяк зблытаць загоншчыкаў. Неўзабаве і адна збочвае, і другая... І тыя сапраўды не звярнулі на іх увагі. Адасобіўшыся, заспакоеныя, казулі сышліся і павярнулі назад... Так яны, дурнухі, і патрапілі ў абладу засаднікаў, "санітарыя" якіх чынілася знячэўку, адным скокам.

Як відаць, казулі зусім не хворыя, наадварот — усе ўкормленыя, у целе, таму ваўкам яны й даспадобы менавіта цяпер, каб да першых калядных маразоў падужэць і стаць паўнавартаснымі сапернікамі ў барацьбе за права валодаць ваўчыцай...

Вось тая яны санітары, ваўкі. І няма чаго выдумляць — нібыта выбіраюць сабе на харч адно жывёл-дахадзягаў старых ды хворых... Ці не распаўсюджваюць "навуковыя" пагудкі тыя самыя чалавекі-драпежнікі, хто займаецца падобнай "санітарыяй" сярод людзей?



Мал. Ул. ЛУКШЫ

 **ЧАСАПІС**

## *Яна малюе беларускія храмы*



**У памяшканні Саюза архітэктараў адбылася выстава акварэляў архітэктара і мастака Галіны Бараноўскай. Родам з Іркуцка, яна скончыла архітэктурнае аддзяленне Новасібірскага інжынерна-будаўнічага інстытута, працавала ў Іркуцку, Новасібірску, Керчы. З 1975 г. яна з сям'ёй пераязджае на Беларусь. Зараз кіруе групай архітэктараў Белдзяржпраекта.**



**Галіна з дзяцінства захаплялася маляваннем. А з прыездам на Беларусь проста ўлюбілася ў прыгожыя сілуэты беларускіх храмаў. Па працы і так проста яна неаднойчы вандравала па рэспубліцы, замалёўвала Жыровічы, Заслаўе... Усё гэта вылілася ў вялікую акварэльную серыю, якую мастачка прадставіла на сваёй выставе.**

**Н. К.**

*На здымках: мастачка Г. БАРАНОЎСКАЯ; "Зіма ў Жыровіцкім манастыры". Фота А. ПРУПАСА*

## *Поспех былой мінчанкі*

**Напэўна, аматары тэатра (асабліва старэйшага і сярэдняга ўзросту) яшчэ памятаюць таленавітую актрысу Рускага тэатра Галіну Долю, якая была актыўна занятая ў спектаклях 80-ых гадоў. На пачатку 90-ых актрыса пераехала ў Кіеў, а некалькі гадоў таму выйшла замуж і апынулася ў невялічкім гарадку ў Брэтані ў Францыі. Зразумела, праблема працаўладкавання нават не ставілася. Але таленавіты чалавек, як гавораць, таленавіты ва ўсім. Сябры Галіны памятаюць яе маленькія акварэльныя малюнкі, якія ствараліся ў адзін вечар і шчодра дарыліся знаёмым. Яшчэ ў Кіеве былая актрыса амаль у 40 гадоў пачала маляваць "метафізічныя" карціны. Па рэкамендацыі вядомага французскага скульптара мэтра Луі Дэрбрэ яна прыняла ўдзел у Міжнароднай выставе ў Эрні і нечакана сярод 150 удзельнікаў атрымала першую прэмію прафесійнага журы (і чэк на 1000 долараў). Зараз 15 карцін Галіны Долі ўпрыгожваюць кафэ на Манмартры.**

**Н. М.**

## *Выставы ў музеі*

**Архіў-музей літаратуры і мастацтва — найвялікшая скарбніца твораў і дакументаў дзеячаў беларускай культуры і мастацтва выступіў з ініцыятывай арганізацыі цыкла невялікіх графічных выстаў мастакоў, чые "справы" захоўваюцца ў архіве. Мэта гэтых міні-выстаў — пазнаёміць спецыялістаў і аматараў мастацтва з творчасцю малавядомых мастакоў і дзеячаў культуры, для якіх мастацтва стала другой справай.**

**Першай выставай з гэтага цыкла стала экспазіцыя архітэктурных краявідаў архітэктара Г. Бараноўскай з відамі Мінска, Лошыцы, Міра і іншых мясцін.**

**Нядаўна адбылася і выстава кандыдата мастацтвазнаўства супрацоўніка НММ РБ Л. Налівайкі.**

# Паехалі далей?..

### З 18 ПА 21 САКАВІКА ДОЎЖЫЎСЯ ФЕСТЫВАЛЬ "МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ САКАВІЦА"

СЁЛЕТНЯЯ "САКАВІЦА" скаланула смерцю Міколы Трухана.

...Яму ўсё жыццё бракавала вялікіх, трывалых, — акадэмічных пастановачных магутнасцяў. Рэжысёрскую драму М. Трухана вызначала неадпаведнасць ягонага таленту рамкам, у якія шторaз даводзілася гэты талент уціскаць, — у невялічкія сцэны ды сціплыя магчымасці (не здольнасці!) людзей, якія дапамагалі спраўджвацца ягоным тэатральным ідэям. Налаўчонасць, кемлівасць, гнуткасць выканаўцаў былі яму неабходныя, як любому іншаму таленту-лідэру, аднак сама тэатральная справа вымагала з Трухана ўсяе душы. Змушала шукаць душ-паплечніц. М. Трухану, здаецца, безумоўна давяралі дыхтоўныя, выдатныя акцёры, — яны пайшлі за ім у тэатр "Дзе-Я?", агоралі некалькі заўважных пастановак. Між тым доўгае змаганне за саму магпрацоўвае шэраг сцэнічных падзей нароўні з рэжысёрам. Піша тэкст або прыстасоўвае гатовы тэкст да патрэб спектакля. І так далей. Гаворка не пра банальнае перапісванне рэплік, а пра тое, як важна было мець п'есу паводле Гогаля, п'есу паводле Адамовіча. Пэўны, дакладна распрацаваны па падзеях, характарах, дачыненнях і г.д. твор!

Мікалай Дзінаў (Рэспубліканскі тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі) прадставіў "Апошнюю пастараль" таксама паводле сваіх уяўленняў пра драматургію. Тэкст акцёры ўцямна прамаўлялі і па-англійску, і па-французску, і нават на матчыну мову не пераскочылі, а пераплылі ўразліва й перакаman… 

Гэтыя два спектаклі аб'яднаў удзел (у першым) ды вызначальны ўдзел (у другім) рэжысёра Дзмітрыя Саладухі, вучня Валерыя Раеўскага і Ўладзіміра Рудага, пра якіх Дзмітрый адразу згадваў ва ўсіх сваіх пераможных інтэрв'ю. Пераможных, таму што "Дзень нараджэння Чылентаны" ганаравалі як лепшы спектакль "Сакавіцы".

...Тройка персанажаў у савецкіх вайсковых шынялях з драпіроўкамі спазнілася на цягнік. Ён пайшоў з-пад носа, і расчараванню не было межаў. Тройка, пад перастук колаў ды гучную музыку гуртуючыся ў трыа, сварыцца ды лаецца... моўчкі, толькі адкрываючы раты. Гук уключаецца, калі прыкрая акалічнасць робіцца відавочнай. Персанажы вызначаюцца і прадстаўляюцца: Каламбіна (Алену Шагаву адзначылі дыпломам), П'еро (Юрый Марціновіч) ды Арлекін (Сяргей Лагуценка).

чымасць ставіць вызначала мастацкую пуцявіну Трухана.

"Мёртвыя душы", — Труханавы рэфлексіі з нагоды Гогалевай паэмы, — усё адно як пацягнулі за сабой жывога. Празрысты і напорысты спектакль месцамі быў падобны на хэпенінг, — адмысловы парад класічных літаратурных персанажаў, кожны з якіх прадстаўляўся пад руку або навыперадкі з уласнаю палавінай — душой. Сабакевіч хаваўся ад яе ў футарал-мундзір. У Плюшкіна яна кульгала, выстаўляючы мыліцу, як паходню. За Наздровым бегала з ліхтарыкам і шторaз атрымлівала плескача. З Манілавым таньчыла ды цалавалася. За рашуча-дзелавой Каробачкай ледзь паспявала...

А Чычыкаў са сваёю душой доўга перамаўляўся, раіўся, то шчыра і слязліва баючыся сваіх гандлярскіх планаў, то падбіваючы душу іх ажыццявіць. На гэты акцёрскі дуэт, дзе ролю вядучага адыграў Артур Федаровіч (душа), прыпадала ўся Гогалева філасофія, — тая, што не пацярпела ад умяшання пастаноўшчыка. Зрэшты, як жа ёй было не пацярпець, калі тэксты паэмы задужа доўгія для сцэны, а тэмпарытм, зададзены Труханам, прыспешваў акцёрскае пражыванне. Найменш спрактыкаваныя выканаўцы збіваліся на сціплае прадстаўленне. Паказу на "Сакавіцы" моцна не ставала Таццяны Паповай, Тамары Міронавай, Ігара Падлівальчава, — іхняму ўдзелу ў фестывалі перашкодзілі паважныя жыццёвыя прычыны...

Гогалевы героі, адбегаўшы свае сцэнічныя (жыццёвыя?) кругі, выйшлі на фінал-эпілог, змяніўшы пабытавыя апранашкі на раскошныя чырвоныя строі работы мастачкі Алены Ігрушы (больш за чырвоны парад уразіла тое, як Ігруша абышлася з чырвоным колерам, як рознафактурныя, рознаструктурныя матэрыялы праз яе абыходжанне займелі абсалютна аднолькавае чырвонае адценне!). Іх яшчэ і ледзь жывыя душы гуртаваліся ля парталаў ды заднікаў. Грамада ў чырвоным рушыла па мёртвыя душы...

Выбітная рэжысёрская ідэя не адразу рабілася ўцямнай. Збіваў з тропу, дарэчы, і акцёрскі пол увасобленай душы, і кастрыбаватасці масавых сцэн, і нявырашанасць сцэнічнай прасторы (у тэатры "Дзе-Я?" няма звыклай сцэнічнай каробкі). Уяўлялася, што задума М. Трухана мусіла б яшчэ ўвасабляцца й пераўвасабляцца...

Фестываль міжволі акрэсліў праблему праблем, якая на нашых сцэнах паспяхова не вырашаецца не першы і не другі год. Тэатр адыходзіць не ад літаратурнасці, як меркавала адна з наймалодшых калежанак-крытыкаў, ды ад **літаратуры**. Адыходзіць зусім не на шчасце і змушае згадваць Уільяма Самэрсета Моэма, які па-свойму кпіў з рэжысёрскіх ідэй, заўважаючы, што ідэй у шмат каго з рэжысёраў мала, — самаўпэўненасці больш. Драматургія — гэта не толькі тэкст, якога часам баяцца да скажэння сэнсу, але і ўвесь шэраг вялікіх ды малых сцэнічных падзей паводле класічнай рэжысёрскай школы, — было б у чым вызначацць скразное дзеянне! Чаму толькі я мушу нагадваць пра гэта ў газеце?!

М. Трухан з "Мёртвымі душамі", М. Дзінаў з "Апошняю пастараллю" — узоры таго, наколькі неабходны драматург у самім тэатры, а не каля яго, а не побач з ім. У немцаў, дарэчы, яго называюць драмацікам, — чалавекам, які афармляе дзеянне. Рассцэнічнага часу бавілі... на сцэне пры задніку, у празрыстай капсуле тамсама, на лонжы, на канаце... А праблема дзіўнага абыходжання, чытайце, грэбавання драматургіяй між тым паўставала. Ці не ўвесь першы акт ператварыўся ў экспазіцыю, — зацягнутую, хоць і па-майстэрску пражытую Людмілай Сідаркевіч ды Ігарам Сіговым (абодва атрымалі прызы фестывалю за лепшыя ролі, — жаночую ды мужчынскую). Здавалася, калі не ў метафару, дык у пэўны стыль ператворыцца ўвесь набор рэжысёрскіх уяўленняў пра часіну Апакаліпсіса. Склеп-бункер, вайсковыя скрыні, з якіх так прыдатна здабываць прыкметы загубленай цывілізацыі (маскі розных народаў або далікатныя жаночыя ўбранні, якімі апошняя жанчына лекуе амнезію апошняга мужчыны), празрыстыя кветкі-дроцікі без каранёў (лёгка выдраць, лёгка перасадзіць, лёгка забіць), чорная бабаідал, да якой хутка прыцвічуць ляльку-немаўля (самае безгустоўнае месца спектакля), супрацьвагай насупраць — белая і чыстая безгаловая Венера, акварыум-акіян... З яго апошні мужчына выцягне кавалкі газеты і, тлумачачы сабе сябе, прыклеіць да сцяны. Яны, апошнія людзі, па гэтых кавалках разам будуць шукаць агульную мову, — літаральна! Адметнасць гэтага трапнага рэжысёрскага ходу палягае ў тым, што жанчына выдзера з гэтых мокрых прастакутнікаў слова LOVE, тлумачачы сэнс сваіх чаканняў ды пераўвасабленняў. Падмануты ў сваіх надзеях апошні мужчына здзяра літары са сцяны, калі з'явіцца трэці... Але замест кульмінацыі, паводле крытыка Галіны Алісейчык, Людміле Сідаркевіч хвілін пяць прапануецца павісець на лонжы, а яе партнёрам — хвалямі папускаць даўжэзны падол яе сукенкі, ператвараючы яго, здаецца, у ветразь. Іншыя — бясконцыя і маласэнсоўныя — паўторы другога акта ўвогуле звялі ягоны змест на нішто. Дарэчы, абвешчаны жанр таксама: у прапанове М. Дзінава, ганараваны трылерам-кліпам, не было ні таго, ні іншага, хоць уплыў на ягоны тэатр усемагчымых кінады тэлепрыёмаў відавочны (з маладзёнавайскоўца Л. Сідаркевіч адметна ператвараецца ў закаханую жанчыну). Трылер-апакаліпсіс, адзначаны, урэшце, з'яўленне трох постацяў у процівагазах ды іхнім замахам на трох апошніх пастаральцаў, выклікаў хіба што смех...

Сюжэт А. Адамовіча з пластычнага боку меў усе падставы ператварыцца ў балет. Стаўленне да прадметаў на сцэне вымагала ад акцёраў налаўчонасці лялечнікаў. Каштоўнасць "Пастаралі" якраз у тым, што ўвасаблялася яна на памежжах відаў мастацтва, на сутыках жанраў — намаганнем злучыць прыёмы мімадрамы з баевікам або цыркавога нумара з традыцыйным акцёрскім пражываннем...

Міровіч ("Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча" ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы) і Мрожак ("Дзень нараджэння Чылентаны" Гомельскага абласнога драматычнага тэатра) гэты раз дамагліся вызначэння капуснікаў. Прапаную ўзаконіць капуснік як жанр, калі нам не выстачае вадэвіля, жарту, розыгрышу, сцёбу або пародыі ў стылі дэль артэ, тэатра з чэхаўскай атмасферай, пецярбургскага салона, дзе не здымаюць паліто або маленькага — Інтымнага — тэатрыка з жартамі на колішнюю японскую злобу дня.

Увесь тэкст Мрожака быў расказаны імі ў пралогу. За пяць хвілін. А потым з кожнага радка, які бяруцца паўтараць, ілюстраваць, разыгрываць, фантазіраваць на ягоную тэму і да т.п., разгортваюцца ды згортваюцца інтэрмеды-забаўлянкі, правакацыі, дурылкі, розыгрышы... Дабротная, падрабязная і нават філігранная работа. Рэквізіт з падарожных куфраў, які набывае якасці аксесуараў і аб'ектаў (гэтае нязвыклае ў драматычным тэатры стаўленне да прадмета ці аб'екта ўласціва рэжысуры Саладухі ўвогуле), узровень выканання пластычных прыёмаў і танцавальных па (асабліва звяртае на сябе ўвагу Алена Шагава) змушае вярнуцца да гаворкі пра памежжы відаў мастацтва. У старыя, традыцыйныя мяхі дэль артэ Дзмітрый Саладуха шчыра ўлівае новае п'янкое тэатральнае віно, настоенае на правакацыйнай Мрожакавай драматургіі (віно часам разбаўляецца вадой непатрэбных паўтораў паўтору ў абыгрыванні інтанацыі, зместу, сэнсу).

Віталь Баркоўскі, ачоліўшы Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску, задаў трупе работы не адно з драматургіяй Алены Паповай (годна і высока ацэнены спектакль "Таму што люблю"). П'еса Георгія Марчука, таксама абраная В. Баркоўскім, уяўляе сабою кірунак узорнага кічу з інтанацыямі на злобу дня. На фестывальнай сцэне ён не набыў узроўню стылю. П'еса — гісторыя жонкі, ад якой пайшоў муж, ды жончыных высілкаў, каб яго вярнуць. Спектакль — сола актрысы Жукоўскай, якая па-добраму звярнула на сябе ўвагу.

Між тым віцябляне запэўнівалі, што паводле Марчука існуюць два спектаклі. Першы, маўляў, з поспехам ідзе на вялікай сцэне тэатра і яго павезлі... у Вілейку, якая сёлета чынна далучылася да "Сакавіцы", а ў Маладзечне быў прапанаваны... вызыны варыянт! Анягож... (Вызыныя варыянты, падобна, спатрэбіліся горкаўцам ды купалаўцам, — Вілейка прычакала абодва акадэмічныя тэатры на свае падмосткі).

... А Жана-Поля Сартра ў рэжысуры Венедыкта Растрыжэнкава гаспадары-маладзечанцы (Мінскі абласны драматычны тэатр) не ігралі амаль год і раптам выставілі пад фестывальныя ацэнкі. "Пры зачыненых дзвярах!" З дня публікацыі ў "ЛіМе" рэцэнзіі відавочна набрала, належна, не расчаравала Таццяна Грасевіч, мякка і дакладна правеў сваю ролю Віктар Багушэвіч (не перацісну, не перакрычаў). Барыс Донін у ролі калідорнага не парушыў рэжысёрскай волі, але, здалося, выконваў на сцэне нейкія свае, толькі яму вядомыя задачы.

Сартра гралі апошнім, і эпілог спектакля з люстрам, у якім адбівацца глядзельная зала, ды рэплікай "Паехалі далей!" уявіўся адметным фінальным жэстам фестывалю. Так, яму бракуе ўстойлівай, вызначанай канцэпцыі, найноўшых пастановак ды свежасці адкрыццяў. Кожную сустрэчу ў Маладзечне на гэта роспачна наракаюць пры зачыненых дзвярах на абмеркаваннях. Носяцца, як... з дзвярыма. Але відавочна, што кожную новую "Сакавіцу" можна і трэба ладзіць паводле новай задумы, канцэпцыі, ідэі, — балазе, іх для зайздросна камернай тэмтэйшай сцэны не бракуе ні ў крытыкаў, ні ў журналістаў, ні ў рэжысёраў, не кажучы пра арганізатараў. Паехалі далей?..

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

КІНО

# Пракляты ўтульны серыял

## СУМНАЕ ПАСЛЯСЛОЎЕ

Першы беларускі тэлесерыял "Пракляты ўтульны дом" чакалі з нецярпеннем, адчуваючы наперад мастацкі пераварот у нацыянальным кінематографе. Аднак ніякага перавароту не адбылося (паглядзелі і забылі). Чакалі, чакалі і дачакаліся — беларускага "мыла". Асабіста мяне расчараванне апанавала з першай серыі: марудная, расцягнутай, надакучлівай. А якія былі выбітныя рэкламныя козыры — актуальная гістарычная тэма (паўстанне 1863 года), цудоўны акцёрскі склад — Д. Баніёніс, В. Тарасаў, Г. Шкуратаў, В. Рэдзька, І. Забара, М. Кірычэнка...

...Прэм'ера "Праклятага ўтульнага дома" адбылася на БТ 13 студзеня. Праўда, "няўдачы" трыццаціпрохсерыйнага серыяла пачаліся не з гэтай нешчаслівай лічбы, а значна раней — са сцэнарыя. Жаданне зняць першы беларускі серыял захапіла У. Арлова яшчэ ў 1992 годзе (а пачалі здымаць у 1993). Ідэю ахвотна падтрымаў сцэнарыст У. Халіп: сцэнарый, па яго словах, пісаўся лёгка, з настроем. Лёгка, з настроем, У. Халіп расцягнуў маленькую аповесць Жэромскага "Верная рака" да памераў вялізнай "мыльнай бурбалкі". Здаецца, куды лепш было б зняць чатыры альбо пяць серый — дынамічных, відовішчных. Тады, прабачце, і таннасць рэквізіту была б не гэтулькі заўважальнай, і польскія княгіні не былі б апранутыя, як гувернанткі.

Такі расцягнуты, марудлівы серыял я не глядзела ніколі. Прайшло і пяць, і дзесяць хвілін, а ледзь жывы паўстанец яшчэ паўзе па снезе, пакідаючы крывавы след. Прабегла і трыццаць хвілін — паранены цяпер моўчкі ляжыць на зямлі і зрэдку падымае галаву. З кожнай серыяй "Праклятага ўтульнага дома" трэба было звыкацца, прыстасоўвацца да адсутнасці руху, дынамікі ў кадры, цікавых, захапляючых сюжэтных перыпетый. І нарэшце, трэба было забыцца пра ўсе астатнія серыялы, якія глядзелі раней (мексіканскія, амерыканскія, канадскія), каб цалкам адчуць смак беларускага тэлесерыяла. Жуйкавы смак.

Жыццёвы пульс беларусаў канца XX стагоддзя ўчашчаны — беганіна па крамах, пошук працы, бясконцы выбар паміж рухамі, партыямі, кандыдатамі ў прэзідэнты. Расцягнуты, павольны "Пракляты ўтульны дом" спазніўся, не патрапіў у час. Рытм серыяла і рытм чалавечага сэрца (майго сэрца) не супалі. Героі "Праклятага ўтульнага дома" робяць свой выбар (паміж жыццём і смерцю, вайной і каханнем, шматпакутнай Бацькаўшчынай і сытым замежжам) павольна, доўга думаючы. У рэчаіснасці ж гледачу трэба рабіць свой выбар хутчэй. Несумненна, тэма серыяла — актуальная, злабадзённая. Але злабадзённыя думкі ледзь заўважальны ў марудным патоку падзей, якія толькі перашкаджалі зразумець самае галоўнае: Беларусь знаходзіцца паміж двума жорнамі — Польшчай і Расіяй і, калі не супраціўляцца, ад яе застанецца толькі пыл.

"Тэма малой радзімы, бацькоўскай хаты, увогуле тэма Радзімы — мая тэма па жыцці. Яна мне заказаная", — казаў некалі У. Арлоў. На жаль, у "Праклятым утульным доме" вобраз Беларусі складаецца з бедных дэталяў. Камера апаратара ўвесь час сочыць за прыродай (узыход, заход сонца), ствараючы банальныя "кадры-карцінкі", якія не адлюстроўваюць трагедыйнасць тых гістарычных падзей, не раскрываюць псіхалагічны стан герояў. Мо адна з адметных дэталяў, карчма яўрэя Шчапсі (М. Кірычэнка). Герой Кірычэнкі, кожнае з'яўленне якога суправаджае сумны голас скрыпкі, падаўся мне самым удалым, тыповым для тагачаснай Заходняй Беларусі.

Я сапраўды здзівілася: першы нацыянальны серыял і нечакана — рускамоўны. Марна я спадзявалася пачуць беларускія слоўцы (памятаю, у рускамоўным тэлефільме "Людзі на балоце" В. Турава іх было шмат). Нават "гарбата" з вуснаў вяльможнай паненкі гучыць як "гірбата". У тым, што ствараль нікі серыяла спыніліся на рускамоўным варыянце, ёсць нешта камічнае: у Расіі, з якой марыць інтэгравацца ўрад Беларусі, наўрад ці будзе попыт на "Пракляты ўтульны дом", жыхары якога змагаюцца за сваю незалежнасць...

...А паранены паўстанец усё ж да нейкай мэты дапоўз. У напаўспаленым шляхецкім фальварку Нядолы яго схавала прыгожая паненка Саламея Брыніцкая (А. Мазгова). Дагледзела, вылечыла, нягледзячы на шматлікія выпрабаванні. "Кожную ноч у нас нехта кватаруе: драгуны, жандары, дэзерціры, князі і халопы", — кажа Саламея. Нядолы — праклятае месца. Яго гаспадары — пан Рудзецкі і тры сыны — былі паўстанцамі і загінулі. Таму ў Нядолах ёсць свае таямніцы, цені, здані (ролю Нядолаў "выканаў" маёнтак графаў Храптовічаў, што ў мястэчку Шчорсы).

У серыяле тры сюжэтныя лініі: паўстанне, любоўны трохкутнік, узаемаадносіны паміж рускімі афіцэрамі. Лініі ўвесь час перакрыжоўваюцца, ствараючы ўяўную насычанасць дзеяння. Ачуняўшы ад раны, нечаканы госць Саламеі — паўстанец, князь Юзаф Адравонж (В. Рэдзька) прызнаецца, што паўстанне было бессэнсоўным, але, убачыўшы месца, дзе былі расстраляны яго сябры, ён зноў ірвецца ў атрад паўстанцаў. Галодныя, абарваныя паўстанцы ноччу прыходзяць у Нядолы.Ператварыўшыся ў звяроў, яны падымаюць кубкі за тое, што перасталі быць людзьмі (адзін нават імкнецца згвалтаваць Саламею). У. Арлоў "робіць выразны антываенны акцэнт" у вобразе Саламеі. Дзяўчына ўвесь час пытаецца ў Юзафа, а потым — у графа Альбромскага, кіраўніка ўрада паўстанцаў (Д. Баніёніс), навошта і за што ўсе яны змагаюцца (тут пан Альбромскі і расказвае Саламеі пра двое жорнаў). Калі Саламея кажа Юзафу, што яна не хоча быць жонкай паўстанца, ён праклінае гэты абыякавы да ўсяго, пракляты ўтульны дом — Беларусь. Няцяжка здагадацца, што антываенны накірунак мяжуе з палымянымі адраджэнскімі заклікамі. Бо нават сама Саламея, калі рускі афіцэр Іван Мікалаевіч Вясніцын прапануе ёй руку і сэрца, кажа яму: "У нас з вамі розныя Бацькаўшчыны".

Адметны ў серыяле вобраз рускіх афіцэраў. У дзікім беларускім мястэчку, яны, верныя цару і айчыне, вымушаны ганяцца за паўстанцамі ды бязбожна, з прычыны славутага рускага суму, піць гарэлку (запамінальны вобраз палкавога ўрача, якога сыграў В. Баркоўскі). Паручык Вясніцын (Ю. Паплёўка) — белая варона ў палку: маўклівы, задумлівы. З гэтым героем у серыяле звязана своеасаблівая дэтэктыўная лінія. Шмат гадоў назад бацька Вясніцына кінуў свой полк і стаў паўстанцам. Іронія лёсу — у разгар новага паўстання малады паручык размеркаваны ў той самы полк. Інтуітыўна, але астатнія афіцэры глядзяць на яго падазрона, недаверліва.

Можа, дзякуючы генетычнай памяці Вясніцын і закахаўся ў Саламею — мужную ганарлівую дачку паўстанца? Наогул А. Мазгова іграе ракавую жанчыну, да якой залицаюцца многія, нават мястачковы донжуан доктар Кулеўскі (І. Забара). У серыяле — гэта камічныя эпізоды. На мой погляд, любоўны трохкутнік ствараецца няўмела, без глыбокага асэнсавання стану маладых герояў. Сапернікі — Юзаф і Вясніцын — нават ніколі не сустрэнуцца...

Як вядома, хэпіэнд — неабходная дэталь "мыльнага серыяла". Аўтары "Праклятага ўтульнага дома" "рызыкуюць" — прыдумваюць веласіпед: Вясніцын вяртаецца на Радзіму, а Саламея і Юзаф (так і згадваюцца радкі О. Мандэльштама: "...І мяне толькі роўны заб'е") застаюцца разам. Яны бягуць па полі насустрач адно аднаму, шчаслівыя, свабодныя...

Я паглядзела ўсе трыццаць тры серыі. Аднак цяпер, калі зрабіла гэтае сумнае пасляслоўе, думаю, а навошта? Бо нават ведаючы пра тое, што серыял рабіўся з вялікімі цяжкасцямі, я ніяк не магу выціснуць з сябе словы падзякі яго стваральнікам, падбадзёрыць іх...

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**





*На здымках: Саламея — А. МАЗГОВА; "Пракляты ўтульны дом", рабочы момант.*

*Фота В. ЖЫЛІНА*

МУЗЫКА

# "Шчасце, калі вучні — вераць..."

***"Каго любіць Бог, той любіць музыку" — гэтая італьянская прымаўка ўспомнілася мне, калі я слухала чароўныя гукі скрыпкі на канцэрце ў Беларускай акадэміі музыкі. Узнёслыя, трапяткія пачуцці выклікалі амаль усе юныя выканаўцы, а гэта былі студэнты акадэміі і вучні Рэспубліканскага каледжа пры ёй. Клас старшага выкладчыка Рэгіны КРЫВЕЛЬ. Разнастайнасць, шматпланавасць праграмы канцэрта (у ім прагучала музыка ад эпохі барока да XX стагоддзя), выразная вобразнасць выканання зрабілі гэты вечар цікавым і запамінальным. Захацелася пагутарыць з Рэгінай Дзмітрыеўнай — пра асаблівасці творчага працэсу выхавання сучаснага музыканта.***

— Я люблю ўсіх сваіх вучняў. Яны вельмі працавітыя, улюбёныя ў музыку, у сваю справу. Зразумела, што да кожнага ўдзельніка нядаўняга канцэрта можна прад'явіць пэўныя заўвагі, але цалкам іх выступленнем я задаволена. Гэта наш сумесны творчы вынік, — кажа Р. Крывель.

**— Вы працуеце ў Акадэміі музыкі і ў Рэспубліканскім каледжы, такім чынам выхоўваеце музыканта ад першых крокаў да стала ўзросту. На ваш погляд, які этап больш важны і які больш цікавы для вас?**

— Кожны па-свойму важны і цікавы. Патрабаванні мае да ўсіх аднолькавыя: якасць штрыха, інтанацыі, фразіроўкі. Толькі ўзровень іх выканання будзе розны, бо адразу немагчыма зрабіць усё. Але ж і пачаткоўцаў прывучаю, каб у выкананні самага маленькага твора быў пэўны вобраз, зразумелая логіка. І ўсё ж такі мне цікавей ужо са старэйшымі.

**— Вашы вучні вельмі розныя па тэмпераменце, характары. Гэта ўплывае на выбар рэпертуару для іх?**

— Я прыкладаю ўсе намаганні, каб развіццё кожнага было шматбаковым і ў тэхнічным, і ў эмацыянальным плане, безумоўна, зыходзячы з магчымасцяў вучня. Стараюся не ісці па лініі найменшага супраціўлення, не рабіць акцэнт толькі на моцныя бакі, але для публічнага выступлення трэба выбіраць творы найбольш выйгрышныя менавіта для гэтага вучня. Падбіраючы рэпертуар, я часта прыслухоўваюся да саміх вучняў. Яны просяць развучыць тыя ці іншыя творы. Я заўсёды гэта падтрымліваю, бо калі цікава, заўсёды ёсць вынік. Пэўныя рэчы падказвае мой канцэртмайстар Алена Антонаўна Афанасьева. Яна вельмі добры музыкант, чулы чалавек, ведае і любіць маіх вучняў. Але, бадай, самае галоўнае — яна мой аднадумец і ў жыцці, і ў творчасці. Без яе падтрымкі было б нават немагчыма зрабіць той канцэрт класа.

**— Рэгіна Дзмітрыеўна, як вы працуеце над стварэннем музычнага вобраза, над трактоўкай, у якой меры дазваляеце ўносіць вучню нешта сваё ў выкананне?**

— Я вельмі рада, калі ў студэнта ёсць сваё бачанне твора. Выканаўцу ўрэшце трэба мець пэўны інтэлектуальны багаж, шырокі музычны кругагляд, добры густ, тэхнічную аснашчанасць — неперадзе самастойнае творчае жыццё. Безумоўна, усё падрыхтоўваецца паступова. З маленькімі вядзецца гаворка пра пачуцці, якія выклікае музыка, робіцца шмат параўнанняў з прыродай, з жывапіснымі вобразамі. Для студэнтаў асацыяцыі больш складаныя: літаратура, іншыя музычныя творы. Напрыклад, 10 прэлюдый Шастаковіча. Геніяльная трагічная музыка! Кожная прэлюдыя — нібы найтанчэйшая псіхалагічная замалёўка. Тут узнікаюць то шэкспіраўскія вобразы, то Кацярына Ізмайлава, з яе трагічным жыццёвым шляхам, то згадваюцца вобразы 8-ай сімфоніі Шастаковіча...

**— У педагагічным майстэрстве вельмі многа значыць пераемнасць. Якую ролю ў вашай цяперашняй працы адыгралі вашы настаўнікі?**

— Усім ім я вельмі ўдзячная, асабліва майму першаму настаўніку — Грушэўскаму Станіславу Іосіфавічу. Ён быў надзвычайна цікавым чалавекам, улюбёным у музыку, у мастацтва. Сцэны ягонай кватэры былі ўвешаны карцінамі беларускіх, польскіх мастакоў. Зразумела, што яго апантанасць перадалася і нам, вучням. Потым былі цікавыя заняткі ў Віталя Георгіевіча Чарныша, у Мікалая Данілавіча Браценнікава. Многае з іх педагагічных прыёмаў я таксама выкарыстоўваю.

**— На ваш погляд, у чым жа шчасце настаўніка?**

— Шчасце — калі твае вучні павераць табе, павераць у сябе, калі мы разам будзем імкнуцца абуджаць музыкай цудоўныя і добрыя пачуцці.

**М. ЮР'ЕВА**



*На здымку: Рэгіна КРЫВЕЛЬ з вучнямі.*

*Фота С. БУРАВА*



## ЧАСАПІС

## Ён ушаноўваў песняра



**Чарговы літаратурны чацвер у музеі Якуба Коласа прысвячаўся 90-годдзю з дня нараджэння беларускага жывапісца і графіка Лазара Рана. Майстар плённа сваёй творчасцю далучыўся да жыццяпісу незабыўнага дзядзькі Якуба. Коласаўская тэма займае ладнае месца ў ягонай мастацкай спадчыне. Карціны "Якуб Колас у вызваленым Навагрудку" і "Міхал ідзе ў свае абходы" шмат гадоў знаходзіліся ў экспазіцыі музея. Майстрам створаны цікавы цыкл афортаў "Мой родны кут" (родзічы вялікага песняра і яго памятныя мясціны на Стаўбцоўшчыне). Работы былі выдадзены ў выглядзе альбомаў і з'яўляліся вабным дарункам ад музея для некаторых шаноўных юбіляраў.**

**Пра Лазара Саулавіча Рана, сціплага і няўтомнага працаўніка ў мастацтве, пра яго творчую адметнасць, пра выразнасць, праўдзівасць, тонкі псіхалагізм работ майстра гаварылі на сустрэчы доктар мастацтвазнаўства Віктар Шматаў, народны мастак Беларусі Май Данцыг, калегі па працы Людвіг Асецкі і Аляксей Марачкін.**

**Загадчык філіяла музея Якуба Коласа Мікалай Семяняка прыгадаў вясёлыя эпізоды з жыцця-быцця мастака падчас яго кватаравання ў знакамітага дзядзькі Юзіка, калі ствараліся памятныя вышэй афорты і карціны "Міхал ідзе ў свае абходы", бо М. Семяняка — зяць Коласавага брата.**

**Гарэзлівы настрой публікі падмацаваў непаўторным чытаннем урыўка з "Дзядзькі-кухара" вядучы інжынер-канструктар Мінскага завода колавых цягачоў Язэп Гарэцкі.**

**Міла кампазіцыю "завязаў" ансамбль "Менскі гармонік" пад кіраўніцтвам Івана Раманчука. У гэты ж дзень у Коласавым доме адкрылася выстава мастацкіх работ Л. Рана з музейнай калекцыі і прыватных збораў.**

**Іван КУРБЕКА**

*Фота С. ЛУК'ЯНАВА*

## Імя: Гадар

**З 15 па 30 сакавіка ў зале ДК прафсаюзаў адбылася рэтраспектыва фільмаў славутага Жана-Люка Гадара. Паказ ладзіў сталічны кінаклуб "Элітарнае кіно". Непаўторную французскую калекцыю склалі фільмы: "На апошнім дыханні" (1959, поўнаметражны дэбют Гадара), "Маленькі салдат" (1959), "Карабінеры (1963), "Альфавіль" (1965), "Кітаянка" (1967), "Імя: Кармэн" (1982), "Ж.Л.Г." (1994, аўтапартрэт Гадара).**

**...Хутка аматараў еўрапейскага кіно чакае новая рэтраспектыва. Сталічны кінаклуб "Элітарнае кіно" прадставіць фільмы нямецкага рэжысёра В. Вэндэрса, зробленыя майстрам філасофскага кіно ў 80-ыя гады.**

**В. Б.**

## "Маладосць", N 2

**Чытач пазнаёміцца з вершамі В. Ліцвінава, В. Баброўца, А. Кацапава, Л. Паўлікавай-Хейдаравай, К. Камейшы. Паэму ўкраінскага паэта М. Рачука "Зона" пераклаў А. Гуцаў. Змешчаны пачатак дэтэктыўнага рамана В. Праўдзіна "Вяртанне з апраметнай", занатоўкі В. Супрунчука "Парадоксы быцця", апавяданне М. Кулеша "Рэйс".**

**Пра маршалаў Савецкага Саюза С. Ахрамеева і Д. Усцінава расказвае У. Шулякоўскі ("Два маршалы"). З вядомымі военачальнікамі — ураджэнцамі Беларусі знаёміць У. Грыняк ("Айчыны верныя сыны"). Пра забойцаў таксістаў можна даведацца з артыкула Я. Конева "Бізнес на крыві".**

**Пра прозу Л. Рублеўскай разважае А. Мельнікава ("Выбірае жанчына..."). Г. Далідовіч ("З узнятай лініі небакраю") прадстаўляе мастачку Л. Андзілеўку, якая вядома і як празаік. А. Наркевіч ("Зборы моўных залацінак") рэцэнзуе чарговую, дванаццатую па ліку кнігу народнай мовы "Сучасная народная лексіка. З гаворкі Мсціслаўшчыны. Р—Я", якую падрыхтаваў Г. Юрчанка. П. Саковіч выступае з эпіграмамі.**

# Адлюстраванні

## НАТАТКІ НА ПАЛЯХ

"Я НІКОЛІ НЕ БЫЎ алкаголікам. Я не піў ад любові да пітва, да закусвання, да крэкання, а піў таму, што не ведаў, што рабіць у перапынках..." Гэта словы з не публікаваных раней дзённікаў Юрыя Алешы ў сёмым нумары расійскага часопіса "Знамя" за мінулы год.

Лёс Юрыя Карлавіча — лёс чалавека на стыку фармацый, духоўная і фізічная драма інтэлігента ў таталітарным грамадстве. Тонкая далікатная ўнутраная арганізацыя і жорсткі, грубы, несправядлівы свет вакол.

У яго не было сіл і жадання змагацца з ім, ён не ведаў, што рабіць у перапынках паміж пісаннем і жыццём.

Дарэчы, бацька Юрыя Алешы з 1930 года жыў у Гародні. "Мне было дваццаць два гады, — чытаю ў дзённіках пісьменніка, — я плакаў, я быў малады, без грошай, без прафесіі, я застаўся адзін, абсалютна адзін, у краіне, праклятай маім бацькам". Тая праклятая бацькам Алешы краіна не надта ласкавай аказалася і для сына. Але сёння ўспамінае пра яго, як пра аднаго з лепшых творцаў. Гэтак бывае часта, на жаль.

●

Зноў Алеша. "Чалавечы лёс, адзінокі лёс чалавека, узяты ў развіцці эпохі, у руху мас, — ёсць найбольш хвалюючая, найбольш неабходная пакаленням тэма. Сусветныя творы пабудаваныя на ёй..." Напісана ў 1931 годзе.

А ў 1955 годзе Юрый Карлавіч занатоўвае для сябе: "Я добры мастак. Часам асобныя месцы асляпляюць бляскам. Гэта хвароба. Потым бачыш, як яна распаўсюджваецца, ліст перастае падабацца...

Я маю права так гаварыць, паколькі мяне няма, я не аўтарытэтны, паколькі, калі гэта прачытае, то толькі сябра, які даруе і зразумее. Мае самаўхваленне, чорт пабяры, нікога не сапсуе..."

Цікава, ці думаў тады аўтар гэтых радкоў, што яго ў мінулым сябра і зямляк Валянцін Катаеў, які ў той час, калі Алеша выклянчваў у пісьменнікаў грошы на выпіўку, меў пасады, званні і ўзнагароды, будзе на схіле свайго жыцця ганарыцца і выхваляцца дружбай з майстрам, якога ён у свае шчаслівыя і сытыя часы пазбягаў?

●

*Над табою бясхмарнае неба,*
*пад табою вільготная глеба.*
*Ты не бачыла, як спаквала*
*пад табой высыхала зямля.*
*Ані хмар, ані сонечнай дымкі.*
*Ты рабіла свае фотаздымкі.*

Вершы не вядомага мне дагэтуль Андрэя Хадановіча ў дзесятай кніжцы "Крыніцы" за 1998 год. З фотапартрэта перад даволі вялікай падборкай глядзіць зусім яшчэ юнак. Вершы часам з выклікам, з "выпендронам", але — таленавіта. А мы звыкла скардзімся, што моладзь ідзе ў літаратуру не тая, як было раней, што няма яркіх імёнаў... Паэт, калі ён сапраўдны, — заўсёды малады, хоць яму 60, хоць 18, і мудры, хоць яму 18, хоць 60.

●

Юры Станкевіч сваім раманам "Любіць ноч — права пацукоў" ("Крыніца", N9, 1998г.) абвергнуў шмат каго, хто лічыць, што беларуская проза выдыхлася. І сам ён, як пісьменнік, і твор яго — у непасрэдным прамым кантэксце сучаснай еўрапейскай літаратуры. Наколькі гэта значна і важна ў гэтым кантэксце, — разбірацца спецыялістам. Але радасна, тым не менш, ужо сёння, бо даўно зачакаліся мы нечага не сумна-шэрага, а яркага і прафесійнага. Ды і абрыдлі ўжо разумныя дэкларацыі і слабыя творы.

●

Заўсёды любіў мемуарную літаратуру. Успамінаючы сучаснікаў, аўтары такіх твораў дапамагаюць прыадчыніць заслону, якая ўтойвае ад чытача творцу-чалавека, часам куды больш цікавага, як цяпер гавораць "па жыцці", чым нават яго творы. І адкінуўшы тэндэнцыйнасць ці самаўсхваленне мемуарыста, можна вельмі ярка ўбачыць цэлы зрэз часу, пэўную эпоху развіцця культуры, літаратуры і мастацтва.

Таму першым, што прачытаў у 10-й кніжцы "Нёмана" за 1998 год, былі ўспаміны Галіны Васюковай-Собалевай "Гори, гори, моя звезда". І хоць, шчыра кажучы, яе нябожчыка-мужа Анатоля Собалева не надта да гэтага ведаў як пісьменніка, з зацікаўленнем прачытаў пра яго лёс, сяброўскія стасункі з Васілём Быкавым і Віктарам Астаф'евым, Мікалаем Рубцовым, Генадзем Бураўкіным...

І нават дэталі асабістых адносін жонкі і мужа ўпісаліся ў канву аповеду арганічна і далікатна.

Узгадаў, што колькі разоў прасіў аднаго нашага вядомага паэта напісаць кнігу ўспамінаў. Думаецца, што калі б ён апісаў хоць бы палову таго, што мне распавядаў пры доўгіх гаворках, твор мог атрымацца не горшы, чым яго папярэднія. А, можа, у нечым нават глыбейшы і больш важкі.

●

"Паняцце аўтарства за гэтыя гады спачатку размарозілася, пасунулася, потым папльло. Аўтар перастаў быць Успрымальнікам дум, Прарокам, Настаўнікам... Стаў аўтарам..." Так піша вядомы расійскі крытык Наталля Іванова ("Дружба народов", N 12, 1998 г.).

Увогуле, чытаючы сённяшнюю расійскую літаратурную перыёдыку (што, вядома, удаецца прачытаць), міжволі ловіш сябе на думцы: літпрацэс у бліжэйшых суседзяў у крызісе. Тыя тэмы, якія раней складалі гонар сучаснай расійскай славеснасці, занядбаныя, маскультура, андэграўнд паглынулі літаральна ўсё. Дарэчы, які ён цяпер андэграўнд, калі практычна заняў месца прывычнага некалі сацрэалізму?..

Сумна і нецікава. А ў нас, у "балоце", яшчэ толькі мараць пра гэта. У нашай "адсталасці" — наша надзея. Бо няма той "пресыщенности", паняверкі, яшчэ не захліснула ўсё хваляй купецкага разгулу, маргінальнага чарнасоцецтва, крымінальна-парнаграфічнага разводдзя, якое паглынула амаль усё сапраўднае, значнае, духоўнае. Дзіва, але так віталася сэрцам спачатку тая разняволенасць і свабода, якая аказалася не пад сілу, ад якой захлынуліся і перасталі дыхаць многія.

●

"Паміж кубкам і вуснамі" Казіміра Камейшы ("Маладосць", N 11). Чамусьці адразу пачаў чытаць не іншыя творы, а менавіта гэты. Хочацца верыць жывой споведзі. Сёння гэта, часам куды мацней, чым прыдуманы сюжэт, гладкае прафесійнае апісанне. Эсэ як жанр усё больш перамагае... Ну, і вершы, як заўсёды, вершы:

***Адлегласці, адлегласці***
***ва ўсе бакі разбегліся:***
***ад цаліны —***
***да ворыва,***
***ад руні —***
***і да коласа,***
***ад доктара —***
***да хворага,***
***ад нематы —***
***да голаса,***
***ад гукаў —***
***да мелодыі,***
***што сэрцамі валодае.***

Гэта са спадчыны Петруся Макаля з таго ж самага нумара "Маладосці". Пайшоў ад нас значны еўрапейскі паэт, гэта даказалі яго вершы, якія жывуць і сталеюць, хоць аўтара іх ужо няма на гэтым свеце.

●

Пакрыўдзіцца, відаць, на мяне харошы чалавек і паэт Хведар Гурыновіч. Далібог, не хачу гэтага рабіць, але ж надрукаваў ён у "Полымі" (N 11) "Баладу пра карову". Разумею яго боль, бо і ў нашай сям'і была падобная сітуацыя. Але ж, радкі, радкі:

***З жывёлай цяжка без гаспадара,***
***У хлеўчыку занадта сена мала.***
***Карову мама вывела з двара,***
***Нібы ад сэрца штосьці адарвала...***

І так ажно... васемнаццаць строф або 72 радкі. Боль ёсць, шкадоба ёсць, праўда жыцця ёсць, але вось паэзіі...

А ў той жа падборцы выдыхнулася і сапраўднае:

***Восень. Воблакі. Туман.***
***Быццам аптычны абман.***
***Лужы ўтапілі траву.***
***Так ці не так я жыву?..***

Ох, як цяжка быць крытыкам самому сабе, як няпроста адмовіцца ад халоднага і "праxаднога" радка. А мог жа ж нехта, прачытаўшы злашчасную "Баладу..." і не чытаць далей!..

●

"Владимир Бутрамеев. Корона Великого Княжества. В этом авантюрном мифологическом сочинении много фантазии, игры, юмора. Не чужд автор и мистификации — недаром текст осенен именем Александра Дюма". Наўмысна не стаў перакладаць анонс таго, што абвясціў для публікацыі ў 1999 годзе часопіс "Дружба народов". А мы плачамся і скардзімся на нашу сярмяжнасць... А вось табе "осенен именем Александра Дюма". Будзем чытаць Бутрамеева!..

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Згадкі пра будучыню

(Працяг. Пачатак на стар. 5)

так усё кепска вакол. Проста "широко задуманная система социалистических преобразований" — справа не аднаго дня, нават не года, нават не дзесяцігоддзя. Прадзеды чакалі, дзяды спадзяваліся, бацькі верылі. А мы што — горшыя?! З жахам пераконваюся, што любіць і верыць, застаючыся чалавекам, ніяк не атрымліваецца на сёння і побач з праспектам Скарыны, вуліцамі Дуніна-Марцінкевіча, Танка і Бядулі. Хранічна не стае таго, што прынята называць годнасцю.

Вуліцы і плацы нашых родных гарадоў, мястэчак і вёсак, замчышчы і былыя родавыя маёнткі, нівы і лясы — мы перасталі вас разумець, мы ўжо не працяг ваш, не адзінае непарушнае цэлае. Мы "незалежныя" і да непрыемнасці "самастойныя" ў сваіх інстынктыўных памкненнях. Хто супраць? Не чую! Не бачу! Амаль аднадушна згаджаемся, даражэнькія: ну не хочацца мяняць абрыдлы, але такі знаёмы і прадказальны ў сваёй нерухомасці лад жыцця, хочацца, пакуль ёсць сілы і здароўе, спакойна "зашыбаць" рубель, матляцца дзеля дабрабыту сям'і па шабашках, прадаваць і прадавацца і пераконваць пад старасць недаверлівых унукаў: я зрабіў усё, каб вы былі не горшымі. І словы Каліноўскага ў "Мужыцкай праўдзе" звернуты на сёння толькі ў мінулае, а значыць — у нікуды: "Мы пазналі ўжо, што нам не маніфестаў, а вольнасці трэба — і то вольнасці не такой, якую нам цар схоча даці, но якую мы самі, мужыкі, памеж сабою зробімо..." Дзе тыя беларускія мужыкі, для якіх праўда і воля, што хлеб і вада?!

Сябра, разважаючы над гэтым жа, жартуе не без горычы: Беларусь, маўляў, вялізны аэрадром для беларусаў-камікадзэ, з адной паласой толькі — узлётнай. Нараджаемся, забываем, што беларусы, лётаем немаведама дзе, канаем душой у заходнеебнай прасторы, а да Радзімы так і не вяртаемся. Як нам не хапае ўлады над сваім "Я". Як цяжка даецца гэтая ўлада! А Беларусь чакае. Ці хопіць у яе цярпення?..

І ў соты раз сам сабе пра банальнае. Падмурак заўтрашняму я закладваю сёння. Той толькі жне, хто пасее. І як апошні напамін: "Так сейце ж, дзецюкі поўнай рукой, не шкадуючы працы..." Дзеля саміх сябе, дзеля ўнукаў, дзеля роднай і адзінай Беларусі.

Дык з кім я?

### МЫ

**Эпілог у якасці ўступу**

...22 сакавіка 1864-га. Зноў бясконцая, як мора, вясна. Гандлёвая плошча старажытнай Вільні. Ранак, свежы і марозны, як пацалунак каханай... Шыбеніца. І апошняя хваля жыцця. Як першая. З шалёным жаданнем жыць, кахаць і радавацца. "Марыська чарнаброва..." І памерці, каб застацца, бо іншага, сапраўды, не наканавана. І адраджацца ўвесну кветкай, лісткам, першым цёплым промнем. І вярнуцца ў родныя сэрцы словам і ўчынкам. І абудзіцца верай і годнасцю. Губляць і знаходзіць. Памыляцца і разумець. Апошняя хваля. І вось ужо няма сённяшняга. Толькі мінулае і будучае. Вы чуеце? Страсянулася зямля ад першага вясновага грому, і птушкі ўзняліся з гнёздаў, і Бог спусціўся на зямлю нашу, а Чалавек узняўся ў неба... Вы чуеце! Значыць МЫ жывём...

**Яўген РАГІН**

# "Сяло не прападзе"

## СУСТРЭЧЫ Ў ДАРОЗЕ



*Фота А. КЛЕШЧУКА*

I

Колькі гадоў таму давялося мне ехаць цягніком па нейкіх справах у Прыбалтыку. Спадарожнікамі маімі аказаліся двое старых. Адзін ужо сапраўдны дзядок — з слухавой прыладай на грудзях, але яшчэ жвавы, рухавы, які безупынна балбатаў дабрадушным сіплым баском нешта, чаго не заўсёды было разабраць. Другі, на выгляд маладзейшы, хударлявы, са скалечаным вокам і маўклівы. Расклалі рэчы, супакоіліся, пасядзелі моўчкі і разам палезлі па харч. Харч у іх быў стандартны для дарогі: пляшка віна, каўбаса, хлеб, сыр, яйкі. Запрасілі і мяне да стала, але я адмовіўся. Адсунуўся, каб не замінаць, і маўчаў. А яны кульнулі па першай і распачалі гаворку: як жывецца і як жылося, хто куды і з якой нагоды. Гаваркі стары прадставіўся Вітольдам Антонавічам са Шчорсаў, былым паравозным машыністам. Ён паведаміў, што мае шмат нашчадкаў, і цяпер, на пенсіі, вандруе ад аднаго да другога, каб весялей жылося. Худы быў настаўнікам з Віцебшчыны, былым, партызанам, і накіроўваўся ў санаторый. Я змаўчаў.

Вітольд Антонавіч назваў патрэбную яму станцыю ў Літве з незразумелай для славянскага вуха назвай, якая адразу ж забылася. На тое ягоны суразмоўнік пацікавіўся, ці не кепска яму там будзе — літоўцы вельмі ваяўніча ставяцца да "рускіх".

— Па-першае, я не рускі, а паляк, — адказаў Вітольд Антонавіч. — А па-другое, людзі заўжды здольны паразумецца, нават у самых складаных акалічнасцях. Я ўжо казаў, што ўсё жыццё быў машыністам — і пры Польшчы, і пры немцах, і пры Саветах. Колькі ўладаў перабачыў, ніякія змены мяне ўжо не палохаюць.

— І пры немцах?

— А як жа. Мне яны да дупы, але жэрці трэба штодзень, куды падзенешся?

— А вось я партызаніў.

— Гэта ўжо як каму наканавана. Я дык працаваў. І пад самы Новы год вёў таварняк да Коўна. Ужо вечар, бачым удалечыні, як у горадзе пускаюць ракеты — пачалі ўжо адзначаць; размаўляем між сабою, хто куды пабяжыць, як паставім цягнік на станцыі. А тут раптам партызаны ўзарвалі рэйкі перад намі. Сталі, выйшлі зірнуць на разбурэнне, мяркуем, колькі ж тут кіснуць давядзецца. А з лесу падышлі партызаны, таксама пацікавіцца. "Што ж вы нарабілі, хлопцы? — пытаюся. — Новы год, няўжо нельга было ў іншы дзень?" — "А што Новы год? — кажуць, — Вайна ж, дзядзька". — "А што вайна? — кажу. — Вайна можа быць ці не быць, а Новы год бывае заўсёды. І людзі яго святкуюць. А вы — сам не гам і другому не дам". — "Чаму, дзядзька? У нас самагону шмат, давайма адзначым разам!" — "Давайма, але ж не тут. Хадзем да апошняй цяплушкі, там немцы, у іх цёпла, як у хаце". Немцы тыя былі старыя ды хворыя, няздатныя да фронту, таму і прызначылі іх у ахову. Яны як даведаліся, што стаяць доўга, залезлі ў свой вагончык да печкі і не выходзілі. Пайшлі да іх, выпілі, пагаманілі кожны на сваёй мове. Я спрабаваў перакладаць, ды хіба тое магчыма, калі ўсе гамоняць разам і кожны пра сваё? Так і пілі — разам, але кожны за сваё: партызаны — за перамогу, а немцы — за хуткае вяртанне дадому. Немцы ўзяліся прыгадваць сваіх, расчуліліся, адзін нават пачаў спяваць "Ду, ду, ду лігст майн герцэн..." Але старэйшы партызан сказаў: "Ну, нам пара". І яны пайшлі. Немцы пасядзелі трохі моўчкі, самотна, потым кажуць: "Добрыя хлопцы. Хто яны, адкуль?" — "Як хто? Партызаны!" У немцаў сківіцы адвіслі, ледзь з услончыкаў не пападалі. Для іх партызаны — бандыты, галаварэзы...

Стары густа парагатаў.

— Я з немцамі ваяваў, — пачуўся напружаны, на высокім тоне голас хударлявага, — яны мяне ледзь вока не пазбавілі! А ты, свалата, з імі гарэлку піў?!

Хударлявы імпэтна падаўся наперад. Я спалохаўся, што ён пачне бойку, і ўмяшаўся. Здолеў суцішыць хударлявага, які засяродзіўся і надалей толькі змрочна глядзеў у вакно. Жывая натура Вітольда Антонавіча не дазваляла яму быць у гэткім жа стане, і ён пачаў распавядаць мне нешта неістотнае, пасмейваючыся і напяваючы непрыстойныя польскія "пясёнкі". А я маўчаў.

На станцыі з незразумелай для славянскага вуха назвай Вітольд Антонавіч выйшаў. Я дапамог яму сабраць і вынесці рэчы. Ля вагона яго сустракалі разам з дзецьмі, якія радасна заверашчалі, убачыўшы старога. А той ледзь не паляцеў са сходаў, бо зап'янеў. Дарослыя незадаволена забурчэлі: "Ну, вось, дзеці радыя дзеду, а дзед — на табе!"

Я вярнуўся ў купэ. Сусед гэтак жа моўчкі глядзеў у вакно.

II

Вяртаўся неяк з Беларусі ў Маскву. У купэ нас было чацвёра. Пра аднаго можна было беспамылкова сказаць — вясковец. І па вопратцы, і па вымаўленні, і па шматлікіх клунках, і па цёмным ад сонца твары з глыбокімі маршчакамі. Другі, бадай, — малады інтэлігент з уяўнай непавагай да сваёй знешнасці і сумкаю на плячы. Трэці быў мажным, яшчэ не старым чалавекам з вельмі прамою спіною, у ахайным касцюме, з новенькім куфэрчыкам на "маланцы". Відаць, калісь наперадзе ў яго вылучаліся грудзі, але цяпер авангардам служыў дабрэнны жывот. Селі, моўчкі дачакаліся адыходу, аддалі квіткі праваднiку, забралі пасцелі — наперадзе была ноч, — нарэшце сабраліся вячэраць.

Першы заклапаціўся вясковец, ён пакапаўся ў шматлікіх клунках і выцягнуў шматок сала з кавалкам хлеба, чамусьці белага. Інтэлігент паставіў на столік бутэльку віна з імпартнымі пакуначкамі ежы. Мажны — бутэльку гарэлкі, кансерваваную гародніну і каўбасу. Тады вясковец пакрактаў, зноў палез у свае клункі і выкапаў адтуль брудную пляшку, заткнутую газетай. А мне недаспадобы дарожныя застоллі, таму я набыў у праваднікоў кіпеню, заварыў гарбаты і адсунуўся паасобку са сваім карцом у руцэ.

— М-да-а, вось які час настаў, — пачаў размову мажны, пасмакаваўшы чарку і заеўшы яе гуркам з каўбасой. — Раней пайшоў бы ў вагон-рэстаран дый добра павячэраў. Цяпер усё гэта ужо ў мінулым. Давялі краіну дзермакраты. Вы, відаць, з сяла, скажыце, хіба так жылі? Усё ж было, і заробкі плацілі своечасова. А што цяпер — сальца кавалачак дый самаграй... Загаманілі па-беларуску: "незалежнасць", "мова", а што "мова", калі жраць нямашака? Бывала, возьмеш каньячку, асятрынку з лімончыкам, шашлычок ці купаты... Ды яшчэ бабёнку прыхопіш... Цяпер гэта недаступна.

Ад успамінаў мажны аж захліпнуўся. Калгаснік пережоўваў сваё сала і толькі лагодна, нават лісліва ківаў галавою. Малады пацікавіўся:

— Што недаступна: асятрынка ці бабёнка?

Мажны незадаволена зірнуў на яго і прадоўжыў са злосцю:

— Дзермакраты ўсё забралі: і ўладу, і маёмасць. Абрабавалі народ.

— Што вы кажаце? — не вытрымаў малады. — Хіба ў нас хаця б дзень былі пры ўладзе дэмакраты? Хаця б у адным горадзе ці раёне? Мо так і не было б, каб улада сапраўды памянялася.

— Во-во! Было б, як у Польшчы, калі гаспадыня купляе... купляла, — папраўіўся ён, — адно яйка на абед. Слава Богу, у нас улада пакуль яшчэ ў надзейных руках і не дае адбыцца гэткаму сораму. Добра яшчэ, што ў мяне вайсковы пенсіён, больш-менш прыстойны, а што ім рабіць, калгаснікам?! Узяў бы аўтамат ды перастраляў усіх гэтых бэнээфаўцаў! "Мова", "незалежнасць"! Разню збіраюцца ўчыніць у нас, як...

Ён запнуўся, шукаючы прыклад, і ў гэтую паўзу калгаснік улез са сваёй капейкай:

— Сяло ніколі не прападзе! Гэта горад...

Але ўблытаўся і малады:

— Ды якую разню?! Не паспелі хлопцы каўкнуць пра мову, пра годнасць, пра захаванне нацыі, як іх ужо гатовы з аўтамата!

— Ну так: "людзьмі звацца". Абвяшчаюць на ўвесь свет сваю непаўнавартасць! Нібыта не былі дасюль людзьмі. А сепаратызм і нацыяналізм трэба рваць з каранямі яшчэ парасткамі, потым запозна. Распусціў Гарбачоў!

— Гарбачоў распусціў? Ды ён жа першы ўсё і заварыў. Варухнулася Грузія — тут жа Абхазія з Асеціяй. Азербайджан узрушыўся — пачаўся Карабах. Малдова з Прыднястроўем... Спрабавалі і Беларусь нацкаваць на Літву з-за Вільні. Разварушылі вулей, цяпер самі пакутуюць ад джалаў. Зрэшты, пакутуюць іншыя, тых "арганізатараў" ужо няма.

— Прыднястроўе тут недарэчы. Там іншая справа, я там бываў. Гэта вялізны камандны пункт паўднёва-заходняга напрамку, склады на ўсе войскі гэтага напрамку — і савецкія, і балгарскія, і румынскія, і ўсе. Нельга было аддаваць тое ў чужыя рукі. А што да Карабаха — яны б стагоддзямі біліся, дай толькі волю. Так што вашыя прыклады непераканаўчыя.

Яны каўтнулі яшчэ, і малады прапанаваў:

— Хадзем папалім.

— Куды? Тут папалім.

— Не трэба тут, — не згадзіўся малады.

— Сварыцца будуць, — падтрымаў яго вясковец.

— Акно адчынім! — упарта стаяў на сваім мажны і паспрабаваў адчыніць акно, але безвынікова. Урэшце неахвотна зміры́ўся і выйшаў за маладым на калідор.

— Усё ж праўду кажа чалавек, — падаў голас калгаснік. — Быў Саюз, жылі ніштавата, трывала. Разбурылі ўсё... Цэны якія! І хто іх паназначаў, знайсці б яго... Сына наведаць ледзь грошай назбіраў. Сын у мяне ў Арэнбургскай жыве. Паехаў на заробкі дый застаўся. Даўней штогод ездзілі адзін да аднаго. А цяпер... Вось харчы вязу свае, дзеравенскія — мо галадна яму там.

— Калі ёсць грошы, дык пражыве не горш за нас, — адказаў я яму.

Памаўчалі.

— Вось вы чалавек адукаваны. Адкажыце мне на адно пытанне, я даўно збіраюся высветліць адну рэч ды сціплюся. Толькі не смейцеся з мяне. Хачу зразумець вось што: усюды кажуць, што Зямля круціцца вакол Сонца, але ж я бачу штодзень, як Сонца ўсходзіць, абыходзіць неба і заходзіць за Зямлю. Як гэта растлумачыць? Што Зямля вакол Сонца, а не наадварот?

— Ну-у, каб было б проста растлумачыць, не было б і сумненняў. Не адразу людзі гэта ўцямілі, назіралі за зоркамі, зацямненнямі... Не адразу людзі здольны зразумець і гэткую простую рэч: не таму зрабілася кепскае жыццё, што Саюз разбурыўся, а Саюз разбурыўся, бо жыццё пагоршала.

— Мо яно і так, — без натхнення згадзіўся калгаснік. — А гэты мужчына — чыста наш дырэктар саўгаса.

Зноў замоўклі.

— І чаму ён такі зласлівы? — уздыхнуў калгаснік. — Чаго яму не хапае? Пенсія не наша, мазалёў няма. А ён — "з аўтамата, з аўтамата"! Сам, відаць, зброі ў руках ніколі не трымаў, інакш бы ведаў, што гэта такое... Яму б вілы ды ў саўгас, хай бы паварочаў сена ці гной, мо крыху пахудзеў бы, яму толькі на здароўе...

Вярнуліся курцы. Відаць, іхняя спрэчка працягвалася і ў тамбуры, бо яны пра штосьці яшчэ ўзрушана дыскутавалі.

— Як я буду камандаваць салдатам, калі ўсе яны разнамоўныя? Каманда павінна быць адна для ўсіх, і разумець яе павінны ўсе аднолькава.

— Я згодны. Пры ўмове, што войскі будуць розныя.

— Ну, гэта ўжо чысты "Голас Амерыкі". Як яны атруцілі вам, маладым, мазгі! Усіх гэтых агентаў уплыву я бязлітасна расстраляў бы з аўтамата! Уласнаручна, з аўтамата!

— А чаму вы не зрабілі тое, калі служылі? Ці ў вас не было зброі па сваіх абавязках? Дарэчы, кім вы былі? Ці не па палітчасткы?

— Камуністам ніколі не быў! Хаця і шкадую цяпер, трэба было падтрымаць.

— Хіба гэта так проста было — сабраўся і ўступіў? Усё ж у партыю імкнуліся прымаць лепшых.

— Вось і напрымалі "лепшых"! Яны і здалі дзяржаву Амерыцы. Гнілая інтэлігенцыя на чале са здраднікамі.

— Не кажыце, — знянацку запярэчыў маладому калгаснік. — Вось у нас фуражыр на ферме — цвярозым ніколі не бачыў, але ж камуніст!

— Ага, ці вось гэткіх... Напрымалі. А беспартыйнаму палкоўніка не давалі. Пакінулі дастойных за парканам, а кар'ерыстам — зялёнае святло.

— Як я зразумеў, вы — падпалкоўнік? — Малады зноўку ўзяўся за сваё. — А якіх войскаў?

— Гэта няважна. Апошнія гады служыў у штабе акругі.

— Дык што, у вас там не было аўтамата?

— Ну што вы ўсё: "аўтамат, аўтамат". Ну не было, я будаўнік.

— Бадлівай карове бог рогаў не дае. — Задаволена ацаніў сітуацыю малады.

Калгаснік міжволі рагатнуў, але спалохаўся і прымоўк, прыкрыўшы рот рукою. Пакашляў і сказаў сур'ёзна, пакуль мажны соп і думаў, як бы з'едліва адказаць:

— Давайма ўкладацца. Ужо запозна, а заўтра рана ўставаць.

Моўчкі "знялі стрэс" чаркаю і ўкладаліся на полкі. Але мажны, з якога ніяк не сыходзіла барвовасць — ці то ад выпіўкі, ці то ад гневу, — прабурчэў са свайго месца:

— Чакайце-чакайце, хутка ўсё зменіцца. Спачатку злучымся з Расіяй...

— Што вам тая Расія? Яна цяпер не прывабіць нават папуаса: заробкі не плацяць, забойствы, хабар, крадзеж, бруд... Гэта вам не Еўропа. Нават суседзі нашы — гляньце, як зажылі. Палякі, прыбалты...

— Не кажы, ублытаўся ў спрэчку калгаснік. — Пенсію будуць плаціць расійскімі грашыма, дырэктар нам казаў.

— А цэны? — не згадзіўся малады.

— А цэны старыя прэзідэнт абяцаў трымаць. Ён і цяпер стрымлівае, яму можна верыць.

— Справа не ў тым, — зноў падаў голас мажны. — Галоўнае — пачаць. Адновім Саюз, потым...

— Што "потым"? — спытаўся малады, пачакаўшы і не дачакаўшыся працягу.

Мажны маўчаў.

— А хто гэта "мы"? Вы кажаце — "злучымся, адновім"?

— Народ! — з выклікам выгукнуў мажны.

— А канкрэтна?

— Я, вось ён, селянін, усе простыя людзі.

— Ну, з ім усё зразумела, але вы ці "мы" — гэта хто?

— Дзяржаўна мыслячыя людзі. Не за тое кроў праліваў народ у вайну, каб так проста здаць гэткую дзяржаву.

— Так, крыві пралілі-і... — узрушыўся калгаснік. — Вось наша сяло, як аслабанялі, дык загінула больш за 700 чалавек. Гэта казаў былы камандзір, калі прыязджаў на ўгодкі баёў. Мы ў той час таго не ведалі, большасць забітых свае пазабіралі: хлопцаў мабілізавалі ў суседнім раёне, нават пераабуць, пераапрануць не паспелі. Як прыйшлі хто ў гумах, хто ў лапцях, так і палеглі шэрагамі. Адно стрэльбы далі, а ваяваць не навучылі. Дык прыехалі за імі крэўныя, — колькі галасу было! А немцаў, — раптам паважвеў ён, — немцаў загінула ўсяго 32. Я ведаю, бо нам загадалі пахаваць іх. Сабралі навакол і закапалі. Толькі двух асобна пахавалі, далёка было везці дый абгарэлі моцна — іх "кацюшай" накрыла.

— Вот вам і жукаўска-сталінскае вайсковае майстэрства: трупамі ворага завальваць! — падсумаваў малады.

— Ты Сталіна не чапай! — імпэтна ўскінуўся калгаснік. — Каб не Сталін, мы б вайну не выйгралі!

Яны паспрачаліся яшчэ, але стаміліся і неўзабаве заснулі. Мажны моцна хроп, варочаўся, нешта бурчэў. Пахропваў і калгаснік, замінаў спаць. Ранкам я падняўся разбіты, незадаволены. Спадарожнікі таксама былі не ў гуморы. Моўчкі сабралі рэчы і разышліся, не развітаўшыся.

І толькі на выйсці з вагона мажны не стрымаўся і настаўніцкім тонам звярнуўся да маладога:

— Запомніце, малады чалавек: адзіны народ разарваць на часткі немагчыма!

— Які народ — савецкі? — імгненна зрэагаваў малады.

Мажны змоўчаў, адно гнеўна зыркнуў вачамі і пашыбаваў у горад.

**Алесь ДРАЯНКОЎ**

*г. Масква*





## “У час узлётаў і пару крушэнняў”

Добрую справу робіць творчы калектыў тэатра “Зніч” пад кіраўніцтвам Галіны Дзягілевай. Монаспектаклі “Белы сон”, “Мне сняцца сны аб Беларусі”, “Любіць!”, “Выгнанне ў рай” у выкананні гэтай таленавітай артысткі запомняцца тым, хто бачыў іх. Акрамя спектакляў, тэатр “Зніч” ладзіць тэатралізаваныя сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі, паэтамі. Так, днямі ў гарадской бібліятэцы “Юнацтва” адбылася вечарына-сустрэча з Сяргеем Іванавічам Грахоўскім. Вечарына мела назву “У час узлётаў і пару крушэнняў...” На сустрэчу з паэтам прыйшлі навучэнцы Мінскага педагагічнага каледжа N 1. Вечар адкрыла і вяла супрацоўніца бібліятэкі Наталля Стрыгельская. Літаратурную кампазіцыю па творах паэта чытаў артыст тэатра Алесь Вінарскі. Гучалі вершы пра лёс паэта, “пра нас, пра час, пра заўтра і бязмежнасць”, пра каханне. А пасля выступіў сам паэт. Ён распавёў пра сваё жыццё, якое было нялёгкае, на яго долю выпала шмат нягод, выпрабаванняў і пакут, а пасля чытаў свае вершы, адказваў на шматлікія пытанні будучых настаўнікаў, даваў аўтографы. Нашаму каледжу пажадаў настаўнік: “Жадаю чыстага сумлення, сціпласці, высокага інтэлекту, адданасці ўсяму роднаму, зберажонаму пакаленнямі продкаў і вартага вашай адданасці ўсяму роднаму”.

Кацярына ШАВЕЛЬ, навучэнка МПК N 1

## У гармоніі са светам

Сапраўдны цуд можа тварыць прырода. Удала ж аздобіць гэты цуд можа фантазія мастака ды рука майстра. І яскравым пацвярджэннем таму — чарговая выстава дзіцячай творчасці, якая разгарнулася ў абласным Палацы піянераў і школьнікаў. Экспазіцыі пад назвай “Прырода і фантазія” ўжо сталі традыцыйнымі: дзевяць гадоў запар ладзіць іх цэнтр экалагічнага выхавання, створаны пры абласным аб'яднанні па арганізацыі пазашкольнай выхаваўчай работы ўпраўлення адукацыі аблвыканкама. І штогод такія выставы адкрываюць новыя таленавітыя імёны, пашыраецца і геаграфія ўдзельнікаў. Сёлета выстава аб'яднала звыш 400 вырабаў з прыроднага матэрыялу, створаных рукамі юных майстроў Магілёўшчыны.

Сярод унікальных экспанатаў — пано з саломкі, раслінны габелен, аб'ёмныя кампазіцыі з зёлак, ільняныя і керамічныя вырабы, драўляныя фігуркі, мудрагелістыя шкатулкі і нават скульптура жорава з чароту.

І. ТАРАСАВА

## Працяг “Палескіх вандровак”

Кніга лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Генадзя Пашкова “Палескія вандроўкі”, выпушчаная летась выдавецтвам “Полымя”, пазначана як “лірыка-дакументальны дзённік”. І сапраўды — асноўныя запісы для будучай кнігі рабіліся не ў цішы кабінетаў. Сотні кіламетраў прайшоў Г. Пашкоў на вёслах па Прыпяці і Гарыні са сваімі надзейнымі сябрамі. Найбольш значныя ўражанні і занатоўвалі ў блакнот падчас падарожжа. А калі сеў за пісьмовы стол, яны шмат у чым дапоўніліся. І абагульненнямі, і звесткамі, якія тычацца ўчарашняга дня гэтага прыгожага краю. А ў выніку і з'явілася кніга, якая не пакідае чытача абыякавым і адначасова сведчыць аб высокім мастацкім узроўні сучаснай беларускай дакументалістыкі. Дарэчы, і дзяржаўнай прэміі пісьменнік разам з іншымі аўтарамі (быў удастоены за серыю радыёнарысаў), якія папярэднічалі гэтай кнізе.

Нядаўна адбыўся свайго роду працяг “Палескіх вандровак” — у памяшканні сталічнай бібліятэкі імя Л. Талстога прайшла прэзентацыя кнігі. Да чытачоў прыйшлі А. Савіцкі, С. Лаўшук, У. Пецюкевіч, дырэктар выдавецтва “Полымя” М. Івановіч, рэдактар кнігі С. Дзерангоўская, дырэктар Дзяржаўнага музея архітэктуры і побыту Г. Ткацэвіч, заслужаны артыст Беларусі І. Лапцінскі і, вядома ж, сам аўтар. І ўжо былі вандроўкі да чытацкіх сэрцаў — найперш навучэнцаў гарадскіх прафесійна-тэхнічных вучылішчаў Мінска.

УГОДКІ

***Праходзіў юбілейны з'езд — Беларускаму саюзу мастакоў споўнілася 60 год. Не з'ездзе выступаў адзін са старэйшых сяброў саюза Яўген Ціхановіч і згадваў падзеі тых часоў, калі ствралася арганізацыя. Сярод асобаў, што мелі дачыненні да стварэння Саюза мастакоў, было названае імя Івана Восіпавіча Ахрэмчыка. Прыблізна ў гэтыя ж дні адбыўся юбілей мастака — 95 год з дня нараджэння. Гэтая падзея прайшла амаль незаўважна, пра яе нідзе не пісалі. Толькі прамільгнула згадка радком у перакідным календары. Мабыць, гэта несправядліва. У Ахрэмчыка засталося шмат вучняў, многа твораў у музеях, у сям'і Івана Восіпавіча.***

***Непасрэдна ў кулуарах з'езда была размова пра Ахрэмчыка сярод мастакоў, якія яго ведалі, якія ў яго вучыліся. І прыемна было пачуць, што настаўніка не толькі памятаюць, але і вельмі добра пра яго адгукаюцца, яго высока ставяць як мастака, асобу, грамадзяніна. Згадка пра Івана Восіпавіча ўсхвалявала многіх і выклікала выразны энтузіязм вучняў падзяліцца ўспамінамі. Прапаную аповед, складзены па ўспамінах тых, хто яго ведаў і добра памятае.***

**Таццяна ГАРАНСКАЯ**

# “Вазьміце святло ў прыроды”

## ДА 95-годдзя Івана Восіпавіча АХРЭМЧЫКА

Віктар МАРКАВЕЦ. Успамінаю свае студэнцкія гады, і адразу ж выразна адчуваю прастору часу — мінула больш за 30 год. Праходзячы праз гэту прасторавую матэрыю, усе падзеі, што адбываліся раней, паўстаюць як бы ў новым вымярэнні, займаюць сваё месца ў цэльнай гістарычнай плыні, часам вельмі істотна мяняючы ранейшыя ўяўленні і ацэнкі.

На жаль, вельмі мала вывучаныя тыя унутраныя працэсы ў мастацтве Беларусі 60-ых гадоў. Менавіта ў гэты час, *на скрыжаваннях як майго асабістага лёсу, так і* ўсяго беларускага жывапісу, значную ролю адыграла постаць Івана Восіпавіча Ахрэмчыка, які з 1963 па 1971 год (да часу сваёй канчыны) узначальваў кафедру станковага жывапісу Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер — Беларуская акадэмія мастацтваў). Асоба выразная, унутрана багатая. Ён прайшоў навучанне ў старэйшых майстроў, што паспелі зарыентаваць вучня на еўрапейскія мастацкія каштоўнасці. Але жыў Іван Восіпавіч у іншым часе. Мяркую, яму цяжка было спалучаць сваё разуменне з рэальнасцю. Як выкладчык, Іван Восіпавіч здолеў укласці ў падсвядомасць сваіх вучняў такія якасці, якія праз шмат год выявіліся неацэннымі каштоўнасцямі.

Віктар ГРАМЫКА. У той час інстытут быў пераведзены “на рэйкі” прыкладнога мастацтва. Гэта была агульная лінія ў СССР у “хрушчоўскі” перыяд, калі адпаведнае распараджэнне было распаўсюджана па ўсіх мастацкіх навучальных установах. Мы ж “падпольна” пачалі рыхтаваць жывапісцаў як бы на факультатывах у прыкладнікоў. Потым жывапісцаў узаконілі, аб'яднаўшы іх у творчую майстэрню прафесара Ахрэмчыка. Іван Восіпавіч быў у гэтай справе лідэрам і ініцыятарам.

Георгій ЛОЙКА. Першы набор жывапісцаў у Творчую майстэрню Ахрэмчыка быў *вельмі дзіўным*. Мы паступалі ў інстытут, калі аддзялення жывапісу не было, таму навучаліся на розных аддзяленнях прыкладнога мастацтва, а марылі аб вялікім мастацтве. Таму былі думкі аб пераводах у ВНУ *іншых рэспублік. Раптам* высветлілася, што наладжваецца нешта накшталт гуртка, ці факультатыва па малюнку і жывапісе з мэтай, у перспектыве, арганізацыі станковага аддзялення.

Пётра ПАРШЫН. Нягледзячы на тое, што займаліся мы на прыкладных аддзяленнях Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, шмат увагі надавалі малюнку і жывапісу. На дадатковых занятках малявалі і пісалі пастаноўкі, прадугледжаныя праграмай першых курсаў мастацкага факультэта. У канцы семестра наладзілі прагляд. Нашыя працы чымсьці спадабаліся Ахрэмчыку. Акрамя таго, яны адпавядалі патрабаванням навучальнай праграмы жывапіснага аддзялення. Па выніках прагляду Іван Восіпавіч прапанаваў перайсці на аддзяленне жывапісу мне, Георгію Лойку, Аляксандру Родзіну, Віктару Маркаўцу, Зміцеру Сароку. І хаця гэта быў смелы і небяспечны крок, інстытут зрабіў яго. Раней я неяк над гэтым не задумваўся, і тады не ацэньваў адпаведна. Але цяпер, праз дыстанцыю часу, бачна, што менавіта намаганні Івана Восіпавіча, і яго непахісны для чыноўнікаў аўтарытэт, адыгралі вызначальную ролю ў аднаўленні аддзялення жывапісу ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Эльвіра ГЕРАСІМОВІЧ. У той час я была рэктарам інстытута. Мы зрабілі выгляд, што *не ведаем распаўсюджаных па ўсім Савецкім* Саюзе ўстановак на ліквідацыю мастацкіх аддзяленняў, і абвясцілі, узаконілі жывапісную майстэрню пад кіраўніцтвам Ахрэмчыка. Дапамагло тое, што ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета і ўвогуле — глыбай у культурным і грамадскім жыцці тагачаснай Беларусі. З аўтарытэтам яго нельга было не лічыцца, таму на нашыя “парушэнні” *глядзелі* “*скрозь пальцы*”. Такім чынам мы аднавілі спачатку аддзяленне жывапісу, потым— графікі, скульптуры і манументальнага мастацтва. Іван Восіпавіч выступаў з ідэяй нават *аддзялення ад інстытута прыкладных* факультэтаў, каб сканцэнтраваць намаганні па падрыхтоўцы жывапісцаў, графікаў, скульптараў і манументалістаў. І, магчыма, ён бы і гэтага здолеў дабіцца, ды толькі сэрца ў яго было хворае, і ён рана памёр, пакіраваўшы толькі двума курсамі ў інстытуце. Але яго навучэнцы сталі добрымі, арыгінальнымі мастакамі, памятаюць свайго настаўніка нават праз дзесяткі гадоў пасля яго смерці.

Уладзімір УРОДНІЧ. Маё навучанне ў інстытуце было перапынена службай у войску. Калі вярнуўся, трапіў на курс, на якім разам са мной займаліся Аляксей Марачкін, Уладзімір Тоўсцік, Віктар Нямцоў, Анатоль Сухан, Восіп Грымберг. Наш курс, і папярэдні, які быў раней набраны са студэнтаў розных іншых аддзяленняў інстытута, — гэтыя два курсы аддзялення жывапісу былі абвешчаны майстэрняй прафесара Івана Восіпавіча Ахрэмчыка.

Прафесар, яскрава выяўлены жывапісецстанкавіст, намагаўся наладзіць у нас навучальны працэс накшталт выпрацаванай сістэмы Сурыкаўскага інстытута, ВХУТЭІНА, “Рэпінкі”. Менавіта ў гэтых ВНУ практыкавалася навучанне па майстэрнях вядучых майстроў мастацтва. А да гэтага на аддзяленні жывапісу ў нас адначасна выкладалі розныя выкладчыкі, і не было адзінага прынцыпу, адзінага падыходу. Што хацеў даць сваім вучням той ці іншы педагог канцэптуальна — не прагледзалася. Ахрэмчык жа разумеў неабходнасць цэльнасці навучальнага працэсу, і побач з ім па прафесіяналізме, па маштабнасці пастановкі задач і педагагічнаму мысленні, не было каго паставіць. Гэта выдатна разумелі і мы, студэнты. Такім чынам Іван Восіпавіч аб'ектыўна адпавядаў узроўню кіраўніка такой жывапіснай майстэрні, і натуральна яе ўзначаліў.

Пётра СВЕНТАХОЎСКІ. Я займаўся на жывапісным аддзяленні яшчэ да яго закрыцця, якое адбылося па агульнай разнарадцы Хрушчова пасля “бульдозернай” выставы ў Маскве. Мы вучыліся на апошніх курсах інстытута, калі на кафедру прыйшоў выкладаць Ахрэмчык. Некаторы час ён таксама вучыў жывапісу мой курс і той, што быў перад нашым. Для мяне гэтыя сустрэчы з майстрам засталіся памятнымі на ўсё жыццё.

Мастацкая школа, якую прайшоў Ахрэмчык, была ў адукацыйным сэнсе выдатная, і з багатымі традыцыямі. У дадатак Іван Восіпавіч працаваў, а потым быў дырэктарам Віцебскага мастацкага тэхнікума, меў багаты вопыт.

Віктар ГРАМЫКА. У выкладанні ён быў жорсткім, часам мог сказаць: “Паламайце пэндзлі і палітру, ды выкіньце іх! Вам няма чаго рабіць у інстытуце”. І некаторым падавалася нудным у сваёй патрабавальнасці. Але за гэтай нудой, а часам і жорсткасцю, стаялі высокая ідэйнасць і шчырая заклапочанасць будучыняй мастацтва. Акрамя гэтага, Іван Восіпавіч быў яшчэ і вельмі тонкім жывапісцам, і унікальным майстрам валёраў і каляровай нюансіроўкі — я гэта зразумеў на яго пасмяротнай выставы да 70-годдзя жывапісца, якая адкрылася 7 красавіка 1977 года ў Дзяржаўным мастацкім музеі. Там былі выстаўленыя выдатныя па мастацкіх якасцях карціны і пейзажныя эцюды, якія Ахрэмчык не экспанаваў раней, бо ў 50—60-ыя гады было модным, зыходзячым “зверху” такое паняцце як “вайна супраць эцюднасці”. І яно ўмацавалася на Беларусі. Таму Іван Восіпавіч, трымаючыся агульнай пазіцыі, не цаніў іх належна. У кантэксце мастацкага працэсу ў Беларусі ён падтрымліваў ідэю развіцця тэматычнай карціны як галоўнага фактара станаўлення нацыянальнай школы жывапісу.

Зміцер САРОКА. Ён заўсёды вельмі акуратна апранаўся. Рухі яго былі павольныя



— ніколі не мітусіўся, размерана падыходзіў да вучняў. Бывала, стаіць ззаду, і мы спіной адчуваем ягоны позірк. Бясспрэчна, студэнты ўяўлялі, што Іван Восіпавіч сапраўды народны мастак, прафесар, адносіліся да яго з павагай і, у першую чаргу, як да чалавека ўнутрана багатай і моцнай натуры.

Пётра СВЕНТАХОЎСКІ. Выраз твару Ахрэмчыка быў унушальны, галава сівая, як срэбная. Усім сваім выглядам ён адпавядаў нашаму адчуванню асобы. Але знешняя ўнушальнасць хавала за сабой чалавека вельмі добрага, улюбёнага ў прыроду ды жыццё. Іван Восіпавіч узначаліў кафедру жывапісу, калі на ёй працавала адразу некалькі выдатных майстроў. У асноўным усе яны стаялі тады на аднолькавых пазіцыях разумення карціны і станковага жывапісу ў цэлым.

Пётра ПАРШЫН. Мяне вельмі ўражвала як Іван Восіпавіч працуе. Ён здзіўляў тым, што беспамылкова і адразу мог пісаць паўтаны, над якімі мы, ягоныя вучні, доўга і бессэнсоўна біліся, і нейк, быццам не гледзячы на палітру, нешта змешваў. А потым выходзіла трапна, на ўсе сто працэнтаў...

Зміцер САРОКА. Іван Восіпавіч нейк надзвычай смела змешваў фарбы... Для мяне гэта было нязвыкла, бо раней я лічыў, што такія фарбы нельга змешваць, пазбягаў гэтага. Але ў Ахрэмчыка атрымлівалася цудоўна.

Уладзімір ТОЎСЦІК. У беларускае мастацтва тады, выразна прэтэндуючы на лідэрства, уваходзіла новае пакаленне творцаў — Міхаіл Савіцкі, Георгій Паплаўскі, Леанід Шчамялёў, Альгерд Малішэўскі і іншыя, — пазіцыі іх прынцыпова адрозніваліся ад *ўяўленняў папярэднікаў. Але Іван Восіпавіч* заўжды і да канца адстойваў свае погляды і нікому не саступаў.

Пётра СВЕНТАХОЎСКІ. Ахрэмчык быў чалавекам паслядоўным, мэтанакіраваным. І, *як кажуць, за словам у кішэню не лазіў.* І памёр на полі бою — на сходзе мастакоў, устаўшы, каб адказаць на з'едлівую рэпліку свайго апанента...

Але запомнілася найболей, што да вучняў Іван Восіпавіч ставіўся паважліва, і ніколі не прыніжаў іх мастакоўскую годнасць. Патрабавальнасць была адной з асноўных яго рысаў выкладчыка, і ён настойваў на сваіх прынцыпах у мастацтве. Іван Восіпавіч вучыў уважліва глядзець і бачыць, каб мы глядзелі на рэчы і жыццё ўласным, сваім поглядам. Думаю, таму ўсе яго вучні вельмі розныя і своеасаблівыя ў творчасці.

Аляксандр РОДЗІН. У маім уяўленні Іван Восіпавіч быў вельмі жорсткі як выкладчык. Відаць, гэта было нармальна, бо адукацыя ў вышэйшай мастацкай установе павінна забяспечваць належны прафесійны ўзровень. Але я, мабыць, са сваёй цягай да эксперыментаў і фармалізму “не зусім” укладаўся ў акадэмічныя нормы, і таму апынуўся ў складанай сітуацыі, у поўным сэнсе “завіс у прасторы”. У першую чаргу я паважаў Ахрэмчыка як мастака, хаця яго творчасць і не адпавядала маім творчым памкненням. Тое, што ён рабіў — кампазіцыі,



партрэты, нацюрморты і іншае, — сведчыла аб яго майстэрстве і высокім прафесіяналізме, хаця гэта было "не маім", не ўкладалася ў мае творчыя арыенціры.

Сам таго не падазраючы, Іван Восіпавіч спрыяў мацаванню майго незалежніцкага духу ў мастацтве ва ўмовах штодзённай барацьбы за яго выжыванне і выратаванне. І я яму ўдзячны хаця б за тое, што ён мяне папросту не выгнаў. Ён усё чакаў, што ў нас з ім нешта атрымаецца, нешта прарвецца. І час ад часу нешта прарывалася — то жывапіс, то малюнак, то кампазіцыя. Цяпер я думаю, што гэта здорава — вучыцца ў такой атмасферы. Кожны дзень я не ведаў, што мяне чакае заўтра, і ўпарта працаваў, нягледзячы на абставіны, дамагаючыся сваіх мэтаў у творчасці.

Уладзімір ТОЎСЦІК. Пры сваім жорсткім стаўленні да вучняў у навучальным працэсе Іван Восіпавіч шчыра дапамагаў ім жа ў побытавым жыцці. Канечне ж, у першую чаргу тым, каго лічыў перспектыўным у мастацтве. Вось выпадак з Марачкіным. Меў малады Аляксей Антонавіч сям'ю, малое дзіця, з якімі жыў на кватэры ажно ў Жодзіне, і ездзіў на заняткі ў Мінск на электрычцы. Дык Іван Восіпавіч паклаў усе намаганні і дабіўся, каб студэнту Марачкіну з сям'ёй далі кватэру.

Зміцер САРОКА. На апошнім курсе навучання ў інстытуце ў мяне былі праблемы — трэба было ісці служыць у войска. А што значыць пайсці ў войска не абараніўшы дыплом — гэта згубіць кваліфікацыю, напрацаванае майстэрства, асяродак. Ці здолееш пасля двух гадоў у войску ўсё гэта аднавіць... Іван Восіпавіч добра ўсведамляў праблему, таму разам са мною пайшоў у ваенкамат на размову з генералам, каб дамагчыся для мяне нейкага кампраміснага рашэння. І такое рашэнне было знойдзена. Я зрабіў дыпломную працу і абараніў яе.

Аляксей МАРАЧКІН. Іван Восіпавіч Ахрэмчык — постаць у нашым мастацтве значная і няменш уражлівая. Жыць і тварыць яму давялося не ў лепшыя часы, тады, калі кожны твор мастака разглядаўся з пункту гледжання, як ён працуе на камунізм. Вось і паспрабуй з такой устаноўкай раскрыць свой талент на поўную моц. Яму трэба было быць у поўнай згодзе з уладамі. Іван Ахрэмчык разумеў — калі "ты не можаш змяніць абставіны, у якіх жывеш, то змяні свае адносіны да іх". Ягоны канфармізм дапамагаў яму быць на паверхні. Улады з ім лічыліся. Трэба аддаць належнае — Ахрэмчык гэтую акалічнасць выкарыстоўваў на карысць справе, якой служыў усё жыццё — беларускаму мастацтву. Ягоная неспакойная душа імкнулася хоць неяк палепшыць сітуацыю ў выхаванні маладых жывапісцаў. Што датычыць мастацкага крэда Івана Восіпавіча, стылявога пошуку, жывапісных знаходак, то мушу зазначыць, што мы, будучы студэнтамі, часам легкадумна ставіліся да яго як да педагога. Сёння разумеем, што ў такога майстра можна было б узяць куды болей. Але што зробіш — маладыя гады... Мы імкнуліся спасцігаць новыя павевы, якія, на нашу думку, найбольш адпавядалі адчуванню часу.

Уладзімір УРОДНІЧ. Ахрэмчык заўжды нам, яго вучням, паўтараў: "Жыццё — гэта барацьба. Так будуецца і сапраўдны жывапіс — барацьба святла і цені. Вазьміце святло ў прыроды", — казаў Ахрэмчык.

У канцы кожнага навучальнага года пасля выніковых праглядаў, збіраліся на іх абмеркаванні студэнты і прафесарска-выкладчыцкі склад інстытута, і Іван Восіпавіч гаварыў заключнае слова, у якім выказваў пажаданні і заўвагі прынцыповага характару. Яго выступленні гучалі як прамовы філосафа і дзяржаўнага дзеяча. У іх Ахрэмчык акрэсліваў уласныя погляды на мастацтва, якія краналі праблемы творчасці глабальнага характару. У гэтых прамовах не згадваўся сацыялістычны рэалізм, а да прыкладу даводзіліся ўзоры высокага мастацтва сусветнай велічыні.

Пётра ПАРШЫН. Іван Восіпавіч ніколі не кічыўся сваімі званнямі. У гэтым сэнсе з ім было заўсёды проста, бо паміж Ахрэмчыкам і яго суразмоўцамі ніколі не паўставала дыстанцыя прафесара, народнага мастака.

Ён быў жартаўнік і меў выдатнае пачуццё гумару. Яно ў роўнай ступені праяўлялася ў дачыненні і да калегаў выкладчыкаў, і да студэнтаў. Ахрэмчык быў вельмі востры на язык і часам жартаваў, не прытрымліваючыся субардынацыі, трапна вызначаючы сутнасць любога чалавека.

Эльвіра ГЕРАСІМОВІЧ. Улічваючы абставіны тых часоў, на якія прыпала дзейнасць Івана Восіпавіча, можна сказаць, што асоба гэта была амаль бездакорнай. Маю на ўвазе яго адносіны да мастацтва. Яго адносіны да студэнтаў, на маю думку, можна назваць узорнымі. Гэта быў чалавек свайго часу. Магчыма, з пазіцый сённяшняга дня некаторыя назвалі б яго кан'юнктуршчыкам. У гэтым разе трэба перакрэсліць дзейнасць мастакоў і дзеячаў культуры цэлага пакалення, да якога належаў і Ахрэмчык.

Пётра СВЕНТАХОЎСКІ. Чалавек ён быў масцеравіты. Сам любіў сталярнічаць, рабіць, напрыклад, падрамнікі. Тлумачыў гэта тым, што цяперашнія рамеснікі няўмела працуюць з дрэвам, выкарыстоўваюць сыры матэрыял. А потым атрымліваюцца перакошаныя падрамнікі. Сам жа Іван Восіпавіч і грунтаваў палатно.

Віктар ГРАМЫКА. Я не скажу, што ён варожа ставіўся, але вельмі стрымана адносіўся да авангардных спраў у мастацтве. Ахрэмчык быў прыхільнікам паступовага развіцця мастацтва, якое ў першую чаргу павінна абапірацца на традыцыю, на прыклады выяўленчай класікі і на грунт рэалізму, бо ў "ретивом" авангардызме мы страчваем гледача, мы забываемся на тое, для каго існуе наша творчасць. Гэта ідзе ад глыбока памылковага меркавання, што народ не ацэніць мастацтва і яго творцаў.

Памёр Ахрэмчык на маіх руках. Адбылося гэта на сходзе. Нехта з прысутных мастакоў рэзка выказаўся пра творчасць Івана Восіпавіча. А ў яго да гэтага стан быў ужо вельмі кепскі. Ахрэмчык стаў барвовым, ускочыў, каб нешта сказаць і... рухнуў! Я ледзь паспеў яго падхапіць. Хуткая дапамога прыехала толькі праз 20 хвілін, калі яна Івану Восіпавічу была ўжо непатрэбная — мастака не стала.

Віктар МАРКАВЕЦ. Пасля пахавання настаўніка мы з маім аднакурснікам, Георгіем Лойкам, увайшлі ў апусцелую майстэрню Івана Восіпавіча, якая размяшчалася ў драўляным доме. Адна палова дома належала Віталю Цвірку, другая — Ахрэмчыку. Дзве майстэрні побач, праз сцяну.

На мальберце вялікае, распачатае (толькі ў падмалёўку) палатно. Вакол звычайная атмасфера мастакоўскай майстэрні з характэрным пахам і звыклымі прыладамі. А за вакном такі знаёмы краявід, з апошнім веснавым снегам, асветлены заходзячым сонцам. У мастака Ахрэмчыка гэты краявід так і называецца — "З вакна майстэрні".

Так і засталася ў памяці гэтая майстэрня з краявідам за вакном. Неўзабаве яе знеслі — там пашыраўся Тэхналагічны інстытут. Але сам краявід з драўлянымі домікамі на завулку Круглым, што бачыў мастак праз свае вокны, існуе і цяпер.

І смерць Івана Восіпавіча, і знікненне яго майстэрні мне ўяўляюцца нейкім сімвалам, які ўбірае ў сябе вельмі шмат — разам з гэтым скончылася цэлая эпоха са сваім цэльным, аб'ёмным разуменнем сутнасці станковага жывапісу, з адметнай школай і яе метадамі. Толькі праз шмат год пачынаеш адчуваць гэта і пытаць сябе — а ці разумелі мы, да чаго ў свой час мелі дотык? Ці выкарысталі свае магчымасці?

*На здымках: І. В. АХРЭМЧЫК; студэнты творчай майстэрні прафесара І. В. АХРЭМЧЫКА (злева-направа) В. МАРКАВЕЦ, А. РОДЗІН, П. ПАРШЫН, Г. ЛОЙКА, З. САРОКА (1969 г.).*

НАДЗЁННАЕ

# Чыноўніцкія "графіці"

Сучасная вуліца заходняга горада, калі верыць інфармацыі, гэта не толькі новыя формы архітэктуры, жыллёвага інтэр'ера, дагледжанасць і трываласць камунікацый, але і рокеры, і байкеры (аматары хуткаснай язды на матацыклах па начным горадзе), і скейтбардысты (катанне на ролікавых дошках)... Гарманічна ўсё гэта дапаўняецца так званым графіці — нанясеннем на сцены дамоў, мастоў і пераходаў разнастайных малюнкаў і тэкстаў мастацкага, палітычнага, гістарычнага, літаратурнага зместу. Спакваля гэтыя нязвыкласці заходняй цывілізацыі ў той ці іншай ступені прышчапляюцца і да нашай штодзённасці. Праўда, да мыцця гарадскога бруку шампунем справа ў нас пакуль не дайшла па вельмі простай прычыне: шмат вуліц у беларускіх гарадах яшчэ нават не заасфальтаваны.

Самым лёгкім для перанясення закардонных экзотаў на нашу глебу з'яўляецца ўсё тое, што патрабуе меншых матэрыяльных затратаў. Гэта ў першую чаргу тычыцца насценных надпісаў (неабавязкова — у разуменні савецкага чалавека). Як там, так і тут графіці — праява адпаведнага таленту і рамантызаванасці непаўналетняй блазноты. Праўда, у нашых умовах мастацкія свавольствы маюць сваю адметнасць. У нас не абмежаваліся пакараннем дзесяцікласніка і студэнта-першакурсніка знішчыць іх жа насценнае "ўмельства" ўласнаручна ці за кошт бацькоўскіх сродкаў. Ды і спектр аматараў графіці ў нашых рэаліях вельмі шырокі. Апошнім часам у Мінску ёю сталі захапляцца не толькі натурыстыя школяры. Асобы больш прадстаўнічыя па гадах, пасадах, званнях усё часцей выяўляюць здольнасці да надпісаў на "сваіх" сценах. Праўда, тут ужо пэндзаль, фарба, цёмны час сутак, рызыка быць злоўленым далёка неабавязковыя.

На сценах жылых і вытворчых пабудоў усё часцей з'яўляюцца самаробныя, неахайныя, напісаныя з памылкамі вулічныя назовы, якія па тэхніцы выканання і пісьменнасці набліжаюцца да праяваў квітнеючага брыдкаслоўя на платах і агароджах. Парушаючы стандарты шыльдаў, іх памеры, колеравыя адценні, графіку напісання літараў і лічбаў, назвы вуліц пішуцца на фанерынах, падчас звычайным гудронам непасрэдна на сценах. І ўсё з-за вялікага жадання асобных кіраўнікоў замяніць беларускамоўныя назвы вуліц на рускамоўныя. А як яшчэ інакш гэта разумець?

Адпаведныя службы горада ў цэнтралізаваным парадку, пачынаючы з сярэдзіны 80-х гадоў і па сённяшні дзень, робяць надпісы вуліц г. Мінска толькі па-беларуску і прытым з выкарыстаннем выразных мастацкіх і эстэтычных сродкаў. Разам з тым павялічваецца русіфікацыя вулічных паказальнікаў высілкамі асобных ведамстваў і ўстаноў. Людзі, надзеленыя пэўнай уладай і зыходзячы ці то з ідэалагічных памкненняў, ці то сваёй нацыянальнай прыналежнасці, ці проста грэбуючы рашэннямі гарадскіх уладаў, пачынаюць на свой густ перайначваць тапонімы мінскіх вуліц. Вось, напрыклад, камерцыйная фірма "Няміга", якая спецыялізуецца на выпуску металічных дзвярэй, палічыла за лепшае, каб на будынку, дзе яна размяшчаецца, назва вуліцы (Гікала, д.17-а) была абазначана абавязкова па-руску, мо як даніна памяці "экспартнаму" рэвалюцыянеру. Падставы, сапраўды, для гэтага ёсць: Мікалай Гікала — ураджэнец Адэсы, фельдшара па адукацыі, бальшавік па перакананнях і прафесіі, першы сакратар ЦК КПБ з 1937 г., які спрычыніўся да масавых рэпрэсій і русіфікацыі ў БССР і сам зрабіўся ахвярай гэтай жа палітыкі.

Калі кааператыву "Няміга" было па кішэні вырабіць танную насценную бляшанку, то кіраўніцтва навукова-даследчага інстытута прыборабудавання на такую раскошу ўжо пайсці не здолела. Ці то з-за навукова-даследчай беднасці, ці каб замацаваць у памяці сучаснікаў прозвішча колішняга першага ў чорных фарбах, распрацоўшчыкі прыбораў будучыні звычайным гудронам на будынку накрэмзалі: "ул. Гикало, д. 5".

А вось жыллёва-эксплуатацыйная служба на сценах "сваіх" дамоў N 26, 34, 132, 148, 150 па вуліцы Чыгуначнай выкарыстала чорна-тлусты гудрон дзеля вымалёўвання назвы: "улица Железнодорожная". Як-ніяк, а абавязковым спадарожнікам чыгуначнай гаспадаркі з'яўляюцца мазут, гудрон, копаць, чад... Насценна-моўная чарнуха з чыгуначнай спецыфікай...

Не знаходзіцца тлумачэнняў дзеянням кіраўнікоў базы (не ракетнай) безыменнага спартыўнага клуба па вуліцы Мар'еўская 7, што каля лазні ў раёне пл. Змітрака Бядулі. Выкінуўшы ў самаробным паказальніку апостраф іў, спадары спартсмены трансфармавалі вуліцу ў Маревскую, у другім выпадку — Марьевскую.

Але вышэйзгаданыя маркіроўкі будынкаў рознымі малавядомымі фірмамі, аптэкамі, базамі, спартклубамі мізарнеюць перад магчымасцямі і аб'ёмамі, якія выявіліся ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце з усімі ягонымі вучэбнымі карпусамі, лабараторыямі, інтэрнатамі. Тут усё пастаўлена на навуковую аснову. Колішні "наргас" з яго звыклымі будучымі рахункаводамі і планавікамі, узяўшы рэзкі курс на універсітэцкі ўзровень з абавязковым маркетынгам і менеджментам, адначасова стаў паслядоўна ствараць і ўласную насценную графічную кампазіцыю. Тут ужо і напамінку няма аб танных бляшанках і гудронавых надпісах. Усё зроблена трывала і надзейна. Рускамоўныя паказальнікі самых розных стандартаў абазначаюць і галоўны корпус універсітэта — Партызанскі праспект, 26 А, і будынак гандлёвага факультэта па вуліцы Свярдлова, 7, студэнцкія інтэрнаты па вуліцы Ванеева, 32, Веласіпедным завулку.

Зацятасць у вывешванні вулічных "інтэрпаказальнікаў" з'яўляецца акрэсленай альтэрнатывай з боку рэктарата да патрабаванняў гарадскіх уладаў, згодна з якімі назвы вуліц выконваюцца толькі па-беларуску. Даходзіць да сапраўднай моўнай партызаншчыны. Напрыклад, камунальныя службы г. Мінска абазначылі будынак вуліцы Свярдлова, 7, дзе знаходзіцца гандлёвы факультэт эканамічнага універсітэта, па-беларуску, а знаўцы маркетынгу "ўзмацнілі" яго па-руску. Студэнцкі інтэрнат універсітэта, што па вуліцы Бабруйскай, 27, толькі сваім рускамоўным "воблікам" і выдзяляецца ад такіх жа старых і не вельмі дагледжаных пабудоў гэтага раёна.

Адметнасць чыноўніцкіх "пісанак" праяўляецца і ў тым, што яны пачынаюць перамяшчацца са сцен, платоў і на "колы". Адзіны гарадскі аўтобус з электратабло, які курсіруе па маршруце N 8 (нумарны знак КЕ 32—68) па сваім афармленні "рускі".

Дык ці ёсць у Мінску "вакцына", якая можа нейтралізаваць эпідэмію чыноўніцкага сіндрому?

**Мікалай ВАСІЛЬЕЎ**

# Загінуў пад Бранскам

Генадзь Шведзік — з пакалення, якое ўваходзіла ў літаратуру ў канцы дваццатых — пачатку трыццатых гадоў. Нарадзіўся Генадзь Барысавіч у Бабруйску, у юным узросце працаваў на будоўлях Бірабіджана. Потым прыехаў у Мінск, скончыў рабфак, літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Адначасова працаваў у рэдакцыі газеты "Юнгер арбайтэр" ("Малады рабочы"), пазней загадваў аддзелам у газеце "Піянер Беларусі". У 1938—1940 гадах Г. Шведзік выкладаў рускую мову і літаратуру ў Мінску, з'яўляўся навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы і літаратуры АН БССР. У час вайны быў кулямётчыкам. Загінуў 11 кастрычніка 1942 года.

Пісаў на мове ідыш, з першымі вершамі выступіў у друку ў 1929 годзе. Выйшлі кнігі паэзіі "Старт" (1934), "Вершы (1939), зборнік для дзяцей "Наш Джым" (1935). Лепшыя творы Г. Шведзіка ў перакладзе на беларускую мову ўвайшлі ў кнігу "Лірыка", выдадзеную ў 1962 годзе. Найбольш поўна яго творчая спадчына прадстаўлена ў зборніку "Матчына сляза" (1989).

У гэтыя дні Генадзю Барысавічу споўнілася б 85 гадоў.

**Супрацоўнікі філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта выказваюць глыбокае спачуванне прафесару кафедры беларускай літаратуры ХХ ст. Д. Я. БУГАЁВУ з прычыны смерці яго брата Аляксея.**

ГАСЦЁЎНЯ

***Знакаміты "пясняр" Анатоль Кашапараў ужо колькі гадоў жыве ў Амерыцы. Але нядаўна ён зноў апынуўся ў Мінску і зноў быў афіцыйна залічаны ў штат "Песняроў". Мулявінскіх. (Як вядома, знаны калектыў на 29-м годзе існавання раскалоўся надвая.)***

***Пасля стасункаў з А. Кашапаравым разумееш, што, па-першае, "зорнага комплексу" ён, дзякуй Богу, цалкам пазбаўлены, а, па-другое, што не зрабіўся наш герой "стопрацэнтным амерыканцам". Ён вельмі добра размаўляе па-беларуску і па-ранейшаму жыва цікавіцца ўсім, што адбываецца на радзіме.***

***У Амерыцы — яго сям'я і ягоны бізнес — рэстаран-піцэрыя.***

***А ў Мінску жывуць маці і сёстры.***

***Таму ў агляднай будучыні спакойнага жыцця ў А. Кашапарава не прадбачыцца. Прынамсі, ён мяркуе чаўночыць паміж Беларуссю і Амерыкай. Але цяпер на радзіме зноў запатрабаваны як музыкант: праца ў "Песнярах", здаецца, па-сапраўднаму яго натхняе, надае энергію і аптымізм, — хаця і з прысмакам горычы.***

**Уладзімір Георгіевіч прадставіў вас публіцы...**

— Для мяне самога гэта было поўнай нечаканасцю, як і для многіх, хто ўбачыў Кашапарава на тэлеэкране ні з таго, ні з сяго ў самым канцы канцэрта, у масоўцы — пляскае ў ладкі, немаведама адкуль узяўся.

**— Я, дарэчы, спярша вырашыла, што гэта не вы, а ваш двайнік. Думаю, ну і дае Мулявін, і адшукаў жа такі "песняроўскі" тыпаж! Поўная копія Кашапарава!**

# "Не хачу перапяваць "а ля амерыканец"..."

— Мне вельмі шкада, што "Песняры" распаліся і што хлопцы, якія столькі гадоў працавалі побач з Мулявіным, яго кінулі. Гэта, канешне, іх справа, але я лічу, што яны зрабілі няправільна. Яны многае страцілі і яшчэ страцяць. Бо Мулявін быў, ёсць і будзе, і яму няма замены.

**— Толя, вас з многімі "песнярамі" шмат гадоў звязвалі асабістыя кантакты, нават прыяцельскія адносіны. Вам не прыкра, што ў выніку гэтага расколу, далучыўшыся да Уладзіміра Мулявіна, вы страцілі сваіх сяброў?**

— Не, я так не лічу. Хлопцы абвінавачваюць ва ўсім ягоную жонку. А я думаю, што ў многім яна мела рацыю... У творчым сэнсе хлопцы пакуль што нічога не сказалі, а на старым рэпертуары, як яны цяпер спрабуюць працаваць, далёка не паедзеш. Калі ж замахнуліся на штосьці глабальнае, дык хай тады ўсе заспяваюць іх песні! Вось такім чынам можна даказаць — адбыўся гэты калектыў ці не адбыўся.

А ўвогуле, я лічу, што пік творчай актыўнасці "Песняроў" прайшоў. Будзе цяпер новы ўзлёт ці не — я гэтага не ведаю. Пакуль што працуем, рэпеціруем, і дай нам Бог здароўя. Але я не сумняваюся ў магчымасцях Мулявіна і лічу, што менавіта яму і толькі яму трэба прадаўжаць і быць "правадыром" у "Песнярах". Усё для гэтага ёсць. Як будзе далей — пакажа час.

**— Чым быў выкліканы ваш ад'езд з Беларусі?**

— Я адчуў нестабільнасць — і творчую, і маральную, і матэрыяльную. Але галоўная прычына — дзеці. Я падумаў, што для іх лепшым будзе тамтэйшае жыццё. Але я пакінуў за сабой права ў любы момант вярнуцца і не збіраюся атрымліваць амерыканскае грамадзянства. Я — грамадзянін Беларусі, і, калі мне трэба, зараз жа магу прыехаць сюды і прабыць столькі, колькі захачу. Праўда, да апошняга прыезду я даволі доўга заставаўся ў Амерыцы, — праца ўцягнула, бо бізнес вымагае асабістай прысутнасці. Зараз вось, пакуль я тут, уся нагрузка легла на маю жонку Ларысу. Яна ў мяне разумніца, вельмі мяне выручае і працуе цяпер за дваіх ці за траіх.

**— Толя, я слухаю вашу цудоўную беларускую мову і ніяк не магу зразумець, як вам удалося яе захаваць у памяці? Вы ж так доўга тут адсутнічалі...**

— Волечка, вы мне лесціце. Дзякуй, канешне, але, напэўна, гэта не зусім так. У свой час я вельмі добра валодаў мовай. Бацька мой усё жыццё вучыўся, меў чатыры вышэйшыя адукацыі, маці працавала ў карэктарскай выдавецтва "Беларусь", потым у "Мастацкай літаратуры". У нашым доме бывалі некаторыя беларускія пісьменнікі.

Дарэчы, у "Песнярах" мы выпускалі газету, "Ведомость" яна называлася, — Палівода, Дайнека і я. Я пісаў калоначку такую: "Відавочнае, але неверагоднае". Там і ў прозе было, і ў вершах — на беларускай мове.

**— Штосьці прыгадваецца "з сябе"?**

— Прыгадваецца, але аднаўляць не буду. Гэта было выключна ўнутрыпесняроўскае выданне. Тады ў нас ніхто не выносіў смецце з хаты, усё заставалася "ў хаце", мы неяк пераварвалі гэта ўсё ўнутры калектыву. А што да мовы, дык для мяне натуральна размаўляць па-беларуску.

**— А для вашых дзяцей?**

— О, гэта балючае пытанне. Я хацеў бы, каб яны ведалі пра Беларусь як мага больш. Але іх пакаленне зусім іншае, яны з задавальненнем асвойтваюцца ў тамтэйшай культуры. Дарэчы, мае дзеці рознаўзроставыя, калі можна так сказаць. Старэйшай, Алене, хутка будзе 19. Яна ў мяне "madel", гэта цяпер вельмі модна. Яна залічана ў пяць агенцтваў і вучыцца ва універсітэце. Сярэдняя, Дар'юшка, вельмі музыкальная, ёй 11 гадоў. Яна ў мяне ўжо з 2-х гадкоў спявала і беларускія, і рускія песні — і са словамі, усё чысценька. А цяпер навучылася адзін да аднаго спяваць і амерыканскія песні. І ў мяне ўлюбёнчык — сынок Данілка, яму хутка споўніцца 4 гадкі. Гэта мая "лапачка". Ён вельмі смешна гаворыць, псуе рускую мову.

**— Наколькі добра вы самі асвойталіся ў Амерыцы?**

— Ну, што датычыцца англійскай мовы, дык я яе спецыяльна не вывучаў, апроч таго, што калісьці атрымаў у школе. Але размаўляю свабодна, без цяжкасцяў. Сваё тамтэйшае жыццё я пачынаў літаральна з нуля, і першыя два-тры месяцы спаў па 3-4 гадзіны. Сам сабе даказваў, што ў мяне павінна атрымацца. Здаецца, даказаў.

Што мне падабаецца ў Амерыцы — дык гэта іх адносіны да дзяцей і старых. Гэта там найпершы клопат, і за гэта перад імі можна схіляцца. Хацелася б, каб і ў нас было так. Пра які дабрабыт дзяржавы можна гаварыць, калі яна не можа забяспечыць ні дзяцінства, ні старасць?! Нічога не атрымаецца, пакуль будуць існаваць бедныя пенсіянеры і кінутыя абяздоленыя дзеці.

Я вось хацеў прывесці сюды свайго маленькага сына, а мне жонка не дазволіла. Гаворыць, прабач, я не ведаю, што там за гэтыя гады адбылося. І я не павёз яго, хаця па ім больш за ўсё сумую. Ён жа маленькі, патрабуе дапамогі. І такі бандыт у мяне!..

**— Для многіх, напэўна, было сапраўднай сенсацыяй ваша новае з'яўленне на сцэне ў складзе мулявінскіх "Песняроў". Гэта адбылося на гала-канцэрце тэлефестывалю "Песню бярыце з сабой". Праўда, тэлегледачы не ўбачылі той фрагмент канцэрта, калі**

— Вось-вось. А я ж праспяваў на гэтым канцэрце адну з апошніх песень Ігара Паліводы "Сівы голуб". І раптам, напляваўшы на мяне, гэта ўсё выразалі з праграмы, і атрымалася, што я ў канцы выйшаў і ў ладкі пляскаў, быццам бы мне проста захацелася падзняцца, на публіцы паказацца. Гэта — мінус у працы музычнай рэдакцыі. Але песню "не задушыш, не заб'еш", так што я спадзяюся, можа быць, у нейкай іншай праграме Беларускага тэлебачання мы ўсё ж пачуем "Сівога голуба".

**— Прынамсі, па радыё яна ўжо гучала. А ўвогуле, у вас ёсць час слухаць наша радыё, глядзець тэлевізійныя праграмы?**

— Не скажу, што часу шмат, але сёе-тое гляджу, слухаю. Мяне, напрыклад, здзіўляе, што **тут** я бачу тыя ж самыя "мыльныя оперы", якія ідуць там. Я хачу пачуць і пабачыць, што тут гучыць, здымаецца, пішацца, хачу паглядзець што-небудзь беларускае. Але выбару, на жаль, амаль няма. Зноўтакі, Алег Молчан, наш песняроўскі кампазітар і аранжыроўшчык, кажа мне: "Ну давай, праспявай крышачку з амерыканізмам!" А я не хачу, мяне ад гэтых спірычуэлсаў з іхнімі гэтымі мелізмамі і аздабленнямі нудзіць ужо! Я лепш паслухаю беларускую песню, якую бабка мне цудоўна праспявае з тым жа мелізмам. Дык лепш я яго паўтару, чым буду перапяваць "а ля амерыканец". Я здзіўлены, што ўсе тут імкнуцца спяваць "на чыстай англельскай мове". Незразумела толькі, дзеля чаго.



**— Чым цяпер занятыя "Песняры"?**

— З ранку да вечара запісваемся на студыі. Мулявін набраў добрых хлопцаў, ды вы многіх, напэўна, ведаеце — і Валеру Скаражонка, і Вадзіма Касенку. З папярэдняга складу засталіся Алег Молчан, гітарыст Аркадзь Іваноўскі. Толькі б яны вытрымалі гэтую нагрузку! Цяпер вось пакрысе пачынаем рыхтавацца да святкавання 30-годдзя "Песняроў". Усё ж гэта — дата! На жаль, у гэтай падзеі больш зацікаўлены ў Маскве. Нам не толькі грашыма дапамагаюць, а нават базу прапануюць. А тут усё асцярожнічаюць, хаця і абяцаюць дапамагчы. Праўда, пры гэтым ставяць умовы, што, маўляў, вы нам праспявайце спачатку. Дажылі да 30-годдзя, і вось вымушаны паказваць, на што здольныя...

**— Раней "Песняры" штогод паказвалі новыя праграмы. Напэўна, і да 30-годдзя штосьці рыхтуецца?**

— Так, пачынаючы з 70-х гадоў мы імкнуліся да буйных формаў. У нас былі даволі цікавыя кампазіцыі, напрыклад, "Перапёлачка", "Ванька-ўстанька", "Балада пра чатырох заложнікаў", мноства вялікіх праграм. А да 30-годдзя будзем аднаўляць фрагменты з праграмы "Песня пра долю" паводле паэмы Янкі Купалы "Адвечная песня". Гэта быў пік "Песняроў", адна з самых адметных прац ансамбля. Там было задзейнічана шмат апаратуры, тэхнікі, калярова-дынамічных кампазіцый і эфектаў. Цяпер тэхніка ўдасканалілася, і ўсё гэта можна зрабіць у дзесяткі разоў лягчэй. Як і раней, будуць падключаны "Харошкі" на чале з Валяй Гаявой, — бо там ёсць вялікія народнабытавыя сцэны.

**— А як вы плануеце адзначыць юбілей? Напэўна, гэта будзе вялікі гастрольны тур?**

— Так, гэта будзе шырокамаштабная акцыя. Мяркуюцца канцэрты на ўсіх буйных пляцоўках былога Саюза, а таксама ў Амерыцы, Аўстраліі і Ізраілі.

**— З былых "песняроў" хто-небудзь будзе запрошаны?**

— Абавязкова будзе Барткевіч. Ведаеце, "Песняры" ўдзельнічалі ва ўсіх фестывалях песень года — тады яшчэ ўсесаюзных — з 70-х і прыкладна па 1984 год. І ўсе песні, якія мы паказвалі, спявалі Мулявін, Барткевіч і Кашапараў. Вось такое "відавочнае, але неверагоднае". Я, дарэчы, сам не задумваўся над гэтым, а вось у Амерыцы адзін чалавек — заўзяты прыхільнік "Песняроў" (ён там працуе на рускім тэлебачанні) неяк у гутарцы са мной звярнуў на гэта ўвагу. Я вельмі здзівіўся. Дык вось, мы зноў сустрэнемся ўсе разам. "Тры асілкі", ці "Трыццаць гадоў пасля" — гэта абавязкова будзе...

**Размову правяла Вольга БРЫЛОН**

*Фота з архіва Анатоля КАШАПАРАВА*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Павел ВЕРАБ'ЁЎ — *намеснік галоўнага рэдактара,*
Мікола ГІЛЬ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-7965

*Пры передрукy просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3795
Нумар падпісаны ў друк 8.4.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1653/Г

Д. 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12